28 сакавіка 2014 | № 12 (381)

# Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**4 ПАЛОННЫЯ КУЛЬТУРНАЙ МАТРЫЦЫ**

Патрыятызм рускіх выдатна спалучаецца з жаданнем прасіць палітычны прытулак



**27 ІТАЛЬЯНСКІ ПАРАД СУВЕРЭНІТЭТАЎ**

Пасля таго, як большасць жыхароў Венецыі падчас кансультацыйнага плебісцыту выказаліся за стварэнне сваёй асобнай дзяржавы, Італію можа чакаць рост цэнтрабежных тэндэнцый

**6 УКРАІНСКІЯ ВАЙСКОЎЦЫ: «МЫ СТАІМ ТУТ ЗА ЛЮДЗЕЙ»**

Цягам многіх гадоў украінскі кіроўны клас вольна займаўся вырашэннем уласных праблемаў за кошт даверанай яму ва ўпраўленне краіны



**30 КАРЦІНА ЗА РУБЕЛЬ**

Корпаючыся аднойчы ў сметніцы інтэрнэт-аўкцыёна напаткаў прозвішча мастака, якое чуў раней, але ведаў мала

# Нафта ў абмен на Крым

**Аляксандр Лукашэнка неаднаразова заяўляў, што Украіна павінна быць адзінай і непадзельнай. Але даволі нечакана яго рыторыка змянілася. Адначасова адзначыўшы, што Украіна павінна быць цэласнай дзяржавай, Аляксандр Рыгоравіч заявіў, што «Крым сёння — дэ-факта частка тэрыторыі Расійскай Федэрацыі».**



Сяргей ПУЛЬША

Між тым, беларускі правадыр зрабіў такую заяву з шэрагам выдатных агаворак. Паводле ягоных слоў, «Крым не з'яўляецца незалежнай дзяржавай». Крым — дэ-факта частка Расіі, і «можна прызнаваць гэта, не прызнаваць, але ад гэтага нічога не зменіцца».

Лукашэнка таксама заявіў, што ад Беларусі «ніхто і не патрабуе: давайце прызнавайце Крым, падтрымлівайце расійцаў там ці не прызнавайце, не падтрымлівайце, выступайце супраць Расіі». «Таму прызнаем ці не прызнаем, думаю, сітуацыя будзе развівацца дэ-факта. Ці будзе Крым прызнавацца як рэгіён Расійскай Федэрацыі, гэта ўжо не важна. Бо Расію ўсе прызнаюць. Таму ад нас гэтага ніхто не патрабуе, мы ў гэтыя нетры абсалютна не залазім, а падабаецца ці не, я вам толькі што сказаў», — заявіў беларускі кіраўнік.

Але ў той жа прамове Аляксандр Лукашэнка дзіўна выказаў і іншую пазіцыю: «Украіна павінна застацца адзінай непадзельнай, цэласнай, пазаблокавай дзяржавай. Гэта наш інтарэс, глабальная наша цікавасць! Таму трэба дамовіцца. Далей ва Украіну ніхто не мае права лезці. Трэба дапамагчы Украіне разабрацца з гэтымі праблемамі».

То бок, з аднаго боку, Аляксандр Лукашэнка прызнаў, што Крым — расійскі, а з іншага — зноў выступіў за цэласнасць і адзінства Украіны, і супраць знешняга ўмяшання ў яе справы.

Канешне, Аляксандру Лукашэнку не хочацца псаваць адносіны ні з Украінай, ні з Расіяй. Але пазіцыя «мая хата з краю» не вельмі ўдалая для кіраўніка дзяржавы, бо «хаты з краю» звычайна хораша згараюць. І Аляксандр Рыгоравіч гэта разумее. З іншага боку, Лукашэнка таксама сочыць за навінамі, і калі ўжо ва Украіне вырашылі, што трэба (можа, часова) «здаць» Крым Расіі, то тут ужо ніяк не адкруцішся.

Палітолаг Валер Карбалевіч адзначае, што пазіцыя Аляксандра Лукашэнкі ў гэтым пытанні не ўнікальная. Калі раней можна было гуляць «у абодва бакі», прытрымліваючыся нейтралітэту, тады гуляліся, а зараз гэта атрымліваецца кепска.

> **«Хаты з краю» звычайна хораша згараюць**

На ягоную думку, на пазіцыю Лукашэнкі паўплывалі як унутраныя, так і знешнія фактары. З аднаго боку, зараз вырашаецца пытанне выдачы Беларусі чарговага крэдыту, без якога краіна не пражыве. З іншага — на погляд палітолага, настроі ў беларускім грамадстве сфармаваныя ўплывам расійскага тэлебачання. І сам Аляксандр Рыгоравіч, дарэчы, не стаў выключэннем, і ягонае абгрунтаванне сваёй пазіцыі па Украіне 23 сакавіка паўтарае трактоўку расійскіх тэлеканалаў. «Я думаю, нават тое, што Украіна адклікала свайго амбасадара для кансультацый, выкліканае не заявай Лукашэнкі пра Крым, а тым, што ягоная інтэрпрэтацыя падзеяў ва Украіне мала адрознівалася ад інтэрпрэтацыі расійскіх СМІ», — сказаў Карбалевіч.




Што тычыцца знешніх фактараў, то канфлікт у Крыме апошнім часам становіцца не ўкраінска-расійскім, а канфліктам Крамля і Захаду. «Лукашэнка апынаецца ў звыклай для яго сітуацыі «вайны з Захадам», у якой ён падтрымлівае Расію па зразумелай схеме. Ён увесь час спрабаваў трансфармаваць украінска-расійскі канфлікт у канфлікт Расіі з Захадам. Тое ж размяшчэнне расійскіх знішчальнікаў на нашай тэрыторыі ён тлумачыў не ўкраінскімі падзеямі, а супрацьвагай NATO», — падкрэслівае Карбалевіч.

Ёсць і яшчэ адзін момант, які варта адзначыць. За два дні да таго, як Аляксандр Рыгоравіч выступіў са сваім спічам, начальнік галоўнага ўпраўлення знешняй эканамічнай палітыкі Мінэканомікі Беларусі Раман Бродаў на прэс-канферэнцыі агучыў сенсацыю, якую мала хто заўважыў. Ён паведаміў, што Мінэканомікі Беларусі лічыць «вырашаным» пытанне пошлінаў на нафту і нафтапрадукты ў межах маючага адбыцца Еўразійскага эканамічнага саюза. «Мы разумеем чаканні Расіі для дасягнення гэтай мэты і разумеем, якія крокі нам трэба для гэтага зрабіць, каб гэтая мэта была зафіксавана ў дагаворы (аб стварэнні ЕАЭС). Але, у любым выпадку, беларускі бок лічыць гэтае пытанне вырашаным», — заявіў Бродаў. Зразумела ж, жаданне беларускага боку і тое, што прадугледжвае дамова аб ЕАЭС, — пазбаўленне ўсіх пошлінаў і абмежаванняў, у тым ліку, на нафту.

Валер Карбалевіч не выключыў, што гэтая тэма гучала ў тэлефонных размовах Лукашэнкі і Пуціна, і, можа быць, Лукашэнка змяніў сваю пазіцыю ў абмен на бяспошлінную нафту, то бок, на дадатковыя 3–4 мільярды долараў у год.

А калі раптам Пуцін не выканае такой дамовы, калі яна, канешне, была? На гэта Аляксандр Рыгоравіч зрабіў яшчэ адну цікавую агаворку. Адказваючы на пытанні пра Крым і Украіну, ён адразу папярэдзіў: «Я кажу гэта як звычайны чалавек, як грамадзянін. Пра чалавека-палітыка выкажуся пазней».

Канешне, калі Лукашэнка возьме свае словы назад, лічыць Карбалевіч, гэта будзе несур'ёзна, бо ўсе ўжо звыклі, што для кіраўніка Беларусі «дзяржава — гэта я». А значыць, словы Лукашэнкі — афіцыйная пазіцыя дзяржавы. Але таксама ўсе звыклі, што Лукашэнка гаспадар свайго слова — сам даў, сам назад забраў. І ўсё калісьці адбываецца ў першы раз.

# Яшчэ адзін адлічаны студэнт

**З другога курсу факультэта журналістыкі БДУ адлічаны актывіст Руху «За Свабоду» Мікіта Семяненка.**

«Улетку я з'ездзіў на першы семінар за мяжу, потым яшчэ на некалькі, — распавёў Рух.by Мікіта Семяненка. «Мне хацелася верыць у дэмакратызацыю і змены, таму я пра ўсё казаў на кафедры. «Я паеду назіраць на выбары ў Грузію, напішыце вызваленне», — казаў я. І падпісвалі».

Па ягоных словах, ён прапускаў запар па тры-пяць дзён, але ведаў, што ў любы момант можа зайсці ў дэканат і забраць гэтыя паперы. «У мяне былі заўсёды добрыя адносіны з выкладчыкамі, — адзначае Семяненка. — Але ў гэтым годзе пачаліся праблемы з адным з іх. Спачатку таму, што я шмат прапусціў ягоных заняткаў».

Потым на яго пачалі ціснуць праз тое, што ён быў назіральнікам і з палітычных прычынаў, зніклі ўсе паперы пра вызваленні, падпісаныя дэканам. Дзякуючы электроннаму збою вырашэнне праблемы адклалася прыкладна на паўгода, аднак, па словах актывіста, у пачатку сакавіка яму зноў давялося сутыкнуцца з тым выкладчыкам. І ў выніку той так і не паставіў яму залік.

Пры гэтым яму казалі, што яго адлічаць, але, калі ён пра гэта «нікому нічога не скажа», то атрымаецца аднавіцца ў наступным годзе.

Семяненка распавёў, што ўвесь гэты час адчуваў падтрымку ад студэнтаў факультэта, некаторых выкладчыкаў. «Яны напісалі зварот да рэктара з просьбай мяне не выганяць, падпісаліся 150 студэнтаў і два выкладчыкі, староста групы, куратарка», — адзначыў ён.

20 сакавіка з бацькам яны прыйшлі ва ўніверсітэт на сустрэчу з рэктарам, які сказаў ім пра адлічэнне юнака, падпісанае, па ягоных словах, яшчэ 15 сакавіка.

Мікіта Семяненка трохі засмучаны такім развіццём падзеяў, але ўжо распланаваў для сабе бліжэйшую будучыню. «Зараз займуся грамадскімі справамі, буду шукаць працу, магчыма, прыйдзецца паехаць вучыцца па праграме Каліноўскага, хаця мне хацелася закончыць навучанне на радзіме», — зазначыў ён, дадаўшы, што ў любым выпадку плануе працягваць працаваць на карысць Беларусі.

**Рух «За Свабоду»**

# Кіркевіча папярэдзілі

**25 сакавіка гарадзенская міліцыя на паўдня затрымала грамадскага актывіста і аўтара НЧ Алеся Кіркевіча.**

Спачатку ён быў выкліканы незразумелай позвай на 15-ю гадзіну ў аддзяленне міліцыі №1, што ў цэнтры горада, для апытання і «прафілактычнай гутаркі». Адтуль гадзіны праз паўтары актывіста павезлі ў Ленінскі РАУС, дзе чарговы раз узялі адбіткі пальцаў і ўзоры біялагічнага матэрыялу — сліну. А потым на кватэры Кіркевіча з удзелам панятых быў праведзены агляд памяшкання на прадмет забароненых матэрыялаў. Пазней высветлілася, што ў міліцыі дапытваліся пра датычнасць да ўлётак з заклікам байкатаваць расійскія тавары, якія нібыта з'явіліся ў раёне пражывання актывіста.

Ніякіх матэрыялаў у кватэры Кіркевіча не было знойдзена, пасля чаго актывіст зноў завезлі ў Ленінскі РАУС, дзе выпісалі папярэджанне пра недапушчальнасць супрацьпраўных дзеянняў.

Алесь Кіркевіч пасля Плошчы–2010 быў асуджаны на чатыры гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Быў вызвалены ў верасні 2011 году ўказам пра памілаванне. Зараз у выніку судзімасці ён пад наглядам да 2016 года.

**Паводле spring96.org**

# 7 сутак арышту за пікет

**У судзе Першамайскага раёна Віцебска 26 сакавіка разглядалася адміністрацыйная справа сябра КХП-БНФ Яна Дзяржаўцава па артыкуле 23.34. КаАП (удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве).**

25 сакавіка ён быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі, калі вяртаўся са святкавання Дня Волі. Ноч да суду правёў у ізалятары часовага ўтрымання.

Пікет за байкот выбараў віцебскія актывісты КХП БНФ Ян Дзяржаўцаў і Алена Каваленка зладзілі напярэдадні асноўнага дня галасавання. Яны стаялі з плакатам «Байкот выбарчаму фарсу». Сёння Алену Каваленку выклікалі ў міліцыю.

Як паведамляе праваабаронца Леанід Свецік, падчас судовага працэсу 26 сакавіка суддзя суда Першамайскага раёна г. Віцебска Наталля Карабліна не задаволіла ніводнага з заяўленых хадайніцтваў з боку Дзяржаўцава, а менавіта: не дазволіла прадставіць перакладчыка, не выклікала сведкаў з боку актывіста, не дапусціла ў працэс прадстаўніка-абаронцу Пятра Іванова.

У выніку Дзяржаўцава пакаралі арыштам на 7 сутак.

**Паводле spring96.org**

# Расія пацерпіць паразу і разваліцца

Марат ГАРАВЫ

**Падчас святкавання Дня Волі пра беларускую салідарнасць з братамі-ўкраінцамі распавялі некаторыя ўдзельнікі акцыі.**

**Георгій Ліхтаровіч, фотамастак і паэт:**



— Ва Львове і Адэсе ў мяне шмат знаёмых калег і сяброў. Падзеі на Украіне выклікаюць зайздрасць. Украінцам пашчасціла больш, чым нам, — нас больш тапталі. Але мінулае ніяк не перапішаш. Ва ўкраінцаў ёсць аплот нацыі — Заходняя Украіна, дзе бальшавікі не змаглі зламаць народ і вынішчыць у яго пачуццё нацыянальнай годнасці. Менавіта ў гэтым краі ва ўкраінцаў захаваліся моцныя гістарычныя карані. А калі людзі любяць і паважаюць сябе, іх паважае ўвесь свет. Вось чаму ўвесь свет сёння падтрымлівае Украіну, у тым ліку і беларусы. Украінцам вельмі неабходна маральная падтрымка свету, у першую чаргу сваіх суседзяў. Менавіта пры такой падтрымцы ўкраінцы пераможуць, а Расія надарве пупок, пацерпіць паразу і развaліцца, як любая імперыя. Таму слава Украіне і яе героям!

**Алена Анісім, грамадская дзяячка і мовазнаўца:**



— Блізкая радня мужа жыве ў Нікалаеве, і яны вельмі ўстурбаваныя амаральнымі злачынствамі, што адбываюцца супраць іх радзімы. Бо як інакш можна назваць спробы Расіі сілай навязаць Украіне сваю волю на пачатку XXI стагоддзя, калі ў міжнародных адносінах увесь свет адмаўляецца ад насілля і дыктату?! Беларускае грамадства, на жаль, няшмат можа зрабіць дзеля салідарнасці з народам Украіны, бо мы пакуль няшмат зрабілі дзеля саміх сябе. Але беларуская грамадзянская супольнасць адназначна на баку ўкраінскага народу, якому мы жадаем моцы духу і непераможнасці. Заява ж Пуціна пра тое, што Расія заканчваецца там, дзе заканчваецца руская мова, праваке раскол у грамадствах і сведчыць пра тое, што ваяўнічы рускі вялікадзяржаўны шавінізм выкарыстоўвае мову менавіта ў палітычных мэтах. У Беларусі ж ніколі не існавалі праблемы для любой мовы, акрамя беларускай, бо беларусы заўсёды талерантна ставіліся да культур іншых этнасаў.

**Сяргей Тарасаў, кандыдат гістарычных навук:**



— Мая маці — украінка з вёскі Драбава, што на Палтаўшчыне. Так сталася, што на Украіне я бываю штогод з васьмі гадоў. Асабліва шчыльнымі мае сувязі з украінскімі гісторыкамі і археолагамі сталі на пачатку стагоддзя, калі ў 2001 годзе па запрашэнні Акадэміі навук Украіны я прымаў удзел у навуковых экспедыцыях. Ад таго часу ў нас на Украіне шмат сяброў.

Я баюся, што анексія Крыму прывядзе да таго, што ўкраінскіх археолагаў туды не пусцяць. І гэта будзе не на карысць навуцы. Разам з тым, спадзяюся, што навуковыя дачыненні паміж гісторыкамі Беларусі, Украіны і Расіі не спыняцца, нягледзячы на ўсе палітычныя закалоты.

# Дапамагчы Мікалаю Аўтуховічу

Генадзь КЕСНЕР

**Да журналістаў звярнуўся прадпрымальнік Артур Папок — даўні прыхільнік незалежных мас-медыя, але цяперашні заклік тычыцца лёсу пакуль яшчэ палітычнага зняволенага Мікалая Аўтуховіча, які 8 красавіка мусіць выйсці на волю пасля чарговай адсідкі.**



«Аддаючы даніну павагі Мікалаю Аўтуховічу, на знак падзякі за яго гераічны прыклад барацьбы за ўласную чалавечую годнасць, мы проста абавязаныя падтрымаць яго цяпер ужо не словамі, заявамі або праклёнамі, але рэальнай справаю, — адзначае Артур. — Мы павінны дапамагчы аднавіць яму здароўе, бо, як ён сам піша «...што можна ўратаваць, а што толькі крыху падлячыць... На жаль, не ўсё можна вярнуць. Гэта будзе ахвяра, нічога не зробіш...»

«Ягоная мужнасць — папрок нам усім, хто скарыўся, спалохаўся, здаўся. Сваёй барацьбою і ахвяраю ён захіляе нашу агульную ганьбу — ніхто не зможа сказаць, што беларусы здаліся без бою. Дык аддзячым жа яго за гэта — дапаможам яму аднавіць здароўе пасля дзевяці гадоў пакутаў, — заклікае спадар Папок. — І будзем спадзявацца, што ў яго яшчэ хопіць сілаў працягнуць барацьбу за справядлівасць, ачоліць наш пратэст супраць беззаконня і перамагчы!»

Па словах Артура, Мікалаю Аўтуховічу вельмі патрэбна стацыянарнае лекаванне па цэлым шэрагу паказчыкаў. «Мы не можам адкрыць рахунак у беларускім банку, каб сабраць яму грошы — рэжым тут жа накладзе на яго арышт, дык яшчэ і звінавацiць Мікалая ў нелегальных даходах. Адкрыць рахунак у замежным банку можна, але колькі нашых грамадзянаў рызыкне дапамагчы Мікалаю, засвяцiўшы ўсе свае дадзеныя? Таму мы вырашылі арганізаваць збор сродкаў праз сістэму WebMoney — гэта легальная, але разам з тым ананімная сістэма электронных грошай, якая ад 1998 года выкарыстоўваецца ў Расіі, Беларусі ды ва Украіне для безнаяўных разлікаў за тавары і паслугі. На сайтах www.webmoney.ru и www.wmtransfer.by — усе падрабязнасці яе работы», — паведамляе Папок.

Паводле яго інфармацыі, у аддзяленнях Белінвестбанка, Беларусбанка, Белпрамбудбанка, Мінскага транзітнага банка, Белзнешэканомбанка, БелСвісСбанка, Альфа-Банка, Банка Масква—Мінск, Тэхнабанка, Белаграпрамбанка, Прыорбанка, а таксама Сеткі плацёжных тэрміналаў ОСМП БЕЛ і «Белпошты» ажыццяўляецца тэхнічнае садзейнне ў выкарыстанні гэтай сістэмы.

**Рахункі для залічэння сродкаў на дапамогу Мікалаю Аўтуховічу:**

**Z246444646147**
**E289580698725**
**B181249998699**
**R191493898992**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Што б яшчэ мадэрнізаваць?

Сяргей САЛАЎЁЎ




**Манія мадэрнізацыі шчыльна засела ў мазгах беларускага кіраўніцтва. Не паспелі разабрацца з будаўніцтвам — узяліся за прадпрымальнікаў. Не скончылі з прадпрымальнікамі — схапіліся за сяло. Днямі ўзяліся за страхаванне.**

Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў да красавіка прадставіць дапрацаваны ўказ аб удасканаленні страхавой дзейнасці, адлюстраваўшы ў ім дзяржаўны ўхіл і ўзмацненне кантролю ў сферы страхавых паслуг. «Яны (страхавыя кампаніі) робяць пэўную працу і ў адпаведнасці з гэтым павінны атрымліваць заработную плату і прыбыткі. Але гэта ненармальна, калі кіраўнік дзяржаўнай страхавой арганізацыі ў кішэню можа пакласці на працягу года, дапусцім, 100 мільёнаў рублёў, а кіраўнік карлікавай кампаніі — 2 мільярды. Гэта грошы не заробленыя, і не важна, чаму: таму што канкурэнцыя адсутнічае або мы не рэгулюем, як трэба, гэтыя працэсы», — заявіў Лукашэнка. Гаворачы аб канкурэнцыі, ён выказаў сумнеў, што пры адсутнасці дзяржрэгулявання грошы ад прыбытку «пойдуць туды, куды трэба нашай дзяржаве і народу».

Вось што непакоіць кіраўніка дзяржавы: грошы праходзяць міма касы. Хаця ў прынцыпе, яго павінна было непакоіць іншае: ці выконваюць страхавыя кампаніі абавязкі перад грамадзянамі? Калі выконваюць, дык і чапляцца да іх не варта. А лічыць грошы ў чужых кішэнях — гэта і звычайнаму чалавеку непрыстойна, а ўжо кіраўніку Беларусі — і пагатоў.

Але грошыкі патрэбныя. І таму, на думку Лукашэнкі, «абавязковае страхаванне адназначна павінна быць у руках дзяржавы». «Гэта ж мы фактычна прымушаем арганізацыі і народ: абавязкова аддай гэтую суму грошай, але аддай дзяржаўным арганізацыям. І гэта ж гарантыя для людзей, што не выкрадуць, не павязуць з краіны, піраміды не створаць. Таму мы павінны абараняць народ, мы людзям павінны выразна прадставіць арганізацыі, з якімі яны могуць мець справу», — мяркуе Лукашэнка.

Наконт гарантыяў дзяржавы — дык тут у людзей, хутчэй, узнікне занепакоенасць, чым пачуццё надзейнасці. Бо ў апошнія часы ніхто так не падманваў насельніцтва, як дзяржава: пачынаючы ад «піраміды» савецкіх укладаў ды аблігацыяў, і заканчваючы дэвальвацыямі, у выніку якіх імкліва абясцэньваліся ўжо беларускія ўклады. Якія, дарэчы, таксама былі «гарантаваныя дзяржавай».

Да таго ж, калі вас падманула недзяржаўнае страхавое агенцтва, можна спагнаць з яго грошы праз беларускі суд. А як судзіцца з дзяржавай? Такія позвы прымае хіба што толькі Еўрапейскі суд па правах чалавека...

Але, дзякуй Богу, кіраўнік не можа быць абазнаны ва ўсім. У выніку гэтага, напрыклад, ва ўмовы абавязковага страхавання грамадзянскай адказнасці ўладальнікаў транспартных сродкаў прапануюцца зусім някепскія навацыі. Прапануецца даць магчымасць выплаты пацярпеламу страхавой кампенсацыі ў памеры фактычных выдаткаў на рамонт пашкоджанага транспартнага сродку, павялічыць памер страхавой кампенсацыі ў выпадку афармлення ДТЗ без выкліку ДАІ з 200 да 400 еўра, аптымізаваць сістэму зніжак і надбавак да страхавых узносаў па дагаворах унутранага страхавання, якія ўсталёўваюцца зыходзячы з аварыйнасці і выкарыстання транспартнага сродку, зняць абмежаванне на агульным памеры страхавой кампенсацыі некальким пацярпелым па адным страхавым выпадку.

Таксама кіраўнік дзяржавы на тыдні заняўся вельмі старым галаўным болем — жыллёва-камунальнай гаспадаркай. Ён, нарэшце, даручыў пралічыць рэальны кошт паслуг ЖКГ. Такое даручэнне, дзякуй Богу, ён даў не самому ЖКГ, а кіраўніку Дзяржкантролю Аляксандру Якабсону, які далажыў яму пра дзейнасць рабочай групы па вывучэнні праблемных пытанняў у жыллёва-камунальнай гаспадарцы.

А тое сапраўды дзіўна: кошты ЖКГ растуць і растуць, а мы, па сцвярджэннях чыноўнікаў ад ЖКГ, плацім за паслугі ўсё менш і менш. Як такое можа адбывацца — невядома. І даручэнне разабрацца ў коштах, па словах Лукашэнкі, «глабальнае даручэнне па функцыянаванні сістэмы жыллёва-камунальнай гаспадаркі ў нашай краіне». «Для мяне гэта вельмі важнае пытанне, балючае пытанне для насельніцтва. Самае галоўнае — мы павінны ведаць рэальны кошт і параўнаць яго з той цаной жыллёва-камунальных паслуг, якую мы зараз прапануем насельніцтву. Мы павінны ўрэшце разабрацца, чаго каштуюць паслугі ЖКГ», — сказаў Лукашэнка.

«Паводле маёй інфармацыі, ужо першыя вашы падыходы сведчаць аб тым, што сабекошт паслуг жыллёва-камунальнай гаспадаркі вельмі адрозніваецца ад таго, як мы гэта ўяўлялі», — канстатаваў Лукашэнка.

Аляксандру Рыгоравічу, як кіраўніку дзяржавы, даравальна нічога не ведаць пра аплату ЖКГ, бо ён па пасадзе — на поўным дзяржаўным забеспячэнні. А насельніцтва даўно задае такія пытанні: за што ж яно ўсё ж плаціць, і колькі гэта насамрэч каштуе.

Адказ на гэтае пытанне мы атрымаем вельмі хутка. «У сферы ЖКГ плануецца прыняць шэраг мер, у тым ліку па дыферэнцыяцыі аплаты, скасаванню пасярэдніцтва, змены структуры кіравання, пераліку нормаў і нарматываў на аказанне камунальных паслуг, якія не пералічваліся з 2007 года. Гэтая праца па пераліку нарматываў павінна быць завершана да 1 мая», — гаворыцца ў паведамленні пра сустрэчу Лукашэнкі з Якабсонам.

Дарэчы, тое, што «нормы і нарматывы не пералічваліся з 2007 года» якраз і сведчыць пра тое, што кошты ў нашых «жыроўках» узятыя ледзьве не «са столі».

І яшчэ адна прыгожая навіна. Як паведамляе АФН, беларускія ўлады плануюць павялічыць датацыі на пуцёўкі для дзяцей у летнія лагеры. Датацыя на пуцёўку ў аздараўленчыя, спартыўна-аздараўленчыя лагеры з кругласутачным знаходжаннем павялічыцца з 900 тысяч рублёў да 1,2 мільёна, у профільныя аздараўленчыя лагеры з кругласутачным знаходжаннем тэрмінам не менш як 9 дзён — з 360 тысяч да 520 тысяч, у лагер працы і адпачынку — з 395 да 560 тысяч.

Сапраўды, адпачынак у Крыме, якому аддавалі перавагу беларускія грамадзяне, «накрыўся». Таму такі клопат пра хаця б дзіцячы адпачынак зараз вельмі дарэчы.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Валянцін Вялічка



**Лукашэнка гаворыць, а апраўдваюцца паслы. Пасол Беларусі ва Украіне Валянцін Вялічка быў выкліканы ў МЗС Украіны, дзе правёў змястоўную гутарку з першым намеснікам міністра замежных спраў Украіны Наталляй Галібарэнка.**

Валянціну Вялічку было заяўлена, што Украіна разлічвае на тое, што Рэспубліка Беларусь у сваіх ацэнках сітуацыі будзе кіравацца агульнапрызнанымі нормамі міжнароднага права, прынцыпамі тэрытарыяльнай цэласнасці і недатыкальнасці дзяржаўных межаў Украіны. «Беларускаму боку была даведзена пазіцыя ўкраінскага боку адносна сітуацыі вакол АР Крым Украіны і супрацьпраўных дзеяннях Расійскай Федэрацыі», — гаворыцца ў паведамленні МЗС Украіны.

МЗС Украіны таксама выклікаў амбасадара ў Беларусі Міхаіла Ежаля для кансультацый у сувязі з заявамі Аляксандра Лукашэнкі, зробленымі 23 сакавіка. Акрамя таго, беларускаму боку была накіравана адпаведная нота, у якой адзначалася, што такія выказванні кіраўніка Беларусі «ідуць у разрэз з агульнапрызнанымі нормамі міжнароднага права, пазіцыяй большасці краін свету, якія асудзілі дзеянні Расіі па анексіі Крыму».

Лукашэнка 23 сакавіка заявіў: «Крым сёння — частка тэрыторыі РФ. Я думаю, сітуацыя будзе развівацца дэ-факта, ці стане яна дэ-юрэ, прызнаюць гэта потым, ці будзе прызнавацца Крым як рэгіён РФ — гэта ўжо ўсё роўна, бо Расію ўсе прызнаюць».

## Уладзімір Макей



**Кіраўнік МЗС Уладзімір Макей асабіста заняўся выкананнем указанняў Лукашэнкі аб тым, што беларускія дыпламаты павінны выступаць гандлёвымі прадстаўнікамі і прадаваць беларускую прадукцыю за мяжой.**

У цяперашні час Макей знаходзіцца ў камандзіроўцы ў краінах Паўднёва-Усходняй Азіі, дзе ён угаварыў В'етнам на падпісанне кантракту на закупку беларускага калію.

«У прысутнасці міністраў (Беларусі і В'етнама) кіраўніцтвам «Беларускай калійнай кампаніі» быў падпісаны буйны кантракт з в'етнамскімі партнёрамі на пастаўку беларускіх калійных угнаенняў», — гаворыцца ў паведамленні прэс-службы МЗС.

МЗС не ўдакладняе, з кім падпісаны кантракт, пра якую ступень «буйнасці» ідзе гаворка і па якім кошце будзе пастаўляцца беларускі калій у сяброўскі нам В'етнам. Высветліць гэта ў адкрытых крыніцах не прадстаўляецца магчымым — на сайце самой «Беларускай калійнай кампаніі» пра гэты кантракт нічога не гаворыцца.

## Меліта Станюта



**23 сакавіка ў Штутгарце завяршыўся этап Кубка свету па мастацкай гімнастыцы. Усе ўзнагароды зборнай апынуліся на рахунку Меліты Станюты, якая выйграла 4 медалі.**

Спартсменка заняла трэцяе месца ў практыкаваннях з абручом, булавамі і стужкай. У фінале з мячом Станюта паказала другі вынік.

У мнагабор'і Меліта Станюта паказала 4-ы вынік, саступіўшы толькі расійскім гімнасткам. Яшчэ адна беларуска, Кацярына Галкіна, была 12-й.

Варта зазначыць, што чатыры медалі ў Штутгарце — ужо другі поспех у спаборніцтвах Меліты Станюты ўсяго за адзін месяц. 3 сакавіка на міжнародным турніры серыі Гран-пры па мастацкай гімнастыцы ў Маскве Станюта заваявала бронзавы медаль у практыкаваннях з мячом, набраўшы 17.733 бала. Лепшымі ў гэтай намінацыі былі расійскія спартсменкі — золата ў Маргарыты Мамун (19.233), а срэбра дасталася Марыі Цітовай (17.800).

а | Азбука паліталогіі

# Палонныя культурнай матрыцы



Сяргей НІКАЛЮК

**Патрыятызм рускіх выдатна спалучаецца з жаданнем прасіць палітычны прытулак.**

Пачну з папулярнага ў Расіі анекдота: «Што б мы ні рабілі, усё роўна атрымліваецца аўтамат Калашнікава». На мове інстытуцыйнай эканомікі гэта называецца «path dependency» — залежнасць ад папярэдняга шляху развіцця, а на побытавай мове — каляіна. Палітолагі, аналізуючы анекдот, выкарыстоўвалі б паняцце «культурная матрыца».

Здавалася б, што агульнага паміж прэзідэнтам, генеральным сакратаром, імператарам, царом і вялікім князем? Каб адказаць на гэта пытанне, звернемся да перапіскі Андрэя Курбскага з Іванам Жахлівым: «Узнагароджваць сваіх халопаў мы заўсёды былі вольныя, вольныя былі і караць смерцю». 5 ліпеня гэтай формуле неабмежаванай улады першай асобы дзяржавы споўніцца 450 гадоў, але сваёй актуальнасці яна не страціла ні ў Расіі, ні ў Беларусі.

Аднак не варта перабольшваць ролю першых асоб дзяржаваў. Крыніцу неабмежаванай улады варта шукаць у грамадстве. Мне ўжо даводзілася адзначаць, што найважнейшай асаблівасцю нашай (праваслаўнай) культуры з'яўляецца няздольнасць грамадства да самаарганізацыі.

Перанясемся ў Крым, дзе рускія дружна прагаласавалі за далучэнне да Расіі. Паводле прэзідэнта Уладзіміра Пуціна, *«в сердце, в сознании людей Крым всегда был и остаётся неотъемлемой частью России. Эта убеждённость, основанная на правде и справедливости, была непоколебимой, передавалась из поколения в поколение, перед ней были бессильны и время, и обстоятельства...»*

Афіцыйныя вынікі рэферэндуму «эту убежденность» пацвердзілі: за далучэнне Крыму да Расіі прагаласавала 96,77% выбаршчыкаў пры яўцы 83,1%. А зараз — увага, пытанне: «Чаму пры такіх пераканаўчых лічбах у Крыме ніколі не перамагала прарасійская партыя?» Такое ж пытанне можна адрасаваць практычна да ўсіх тэрыторый былых савецкіх рэспублік, на якіх кампактна жывуць рускія.

Калі рускія сутыкаліся з дыскрэдытацыяй паводле нацыянальнай прыкметы, яны практычна заўсёды аддавалі перавагу ад'езду, а не барацьбе за свае правы. Прывяду статыстыку па Казахстану. Паводле дадзеных перапісу 1989 года, у рэспубліцы пражывала 37,8% рускіх, а да 2013 года іх колькасць скарацілася да 21,9%.

У разгар Майдана толькі 41% жыхароў Крыма казалі, што хацелі б жыць у складзе Расіі. Але пасля таго, як з'явіліся «ветлівыя людзі з аўтаматамі», колькасць арыентаваных на Расію жыхароў паўвострава падвоілася. «Калі людзі адчуваюць, што з'явілася новая ўлада, вельмі шмат хто гатовы некрытычна падтрымліваць усе, што зыходзіць ад улады» (Яўген Галаваха, намеснік дырэктара Інстытута сацыялогіі НАН Украіны).

### Адна Расія замест чатырох

Доктар геаграфічных навук Наталля Зубарэвіч вядомая як аўтар тэорыі «Чатыры Расіі».

«Першая Расія» — краіна мегаполісаў, у якіх канцэнтруецца сярэдні клас, які жадае зменаў (каля 21% насельніцтва краіны). «Другая Расія» — краіна сярэдніх прамысловых гарадоў. Ва ўмовах нарастаючай дэіндустрыялізацыі іх жыхары (25%) вядуць барацьбу за занятасць і зарплату ды застаюцца абыякавымі да праблемаў, якія хвалююць сярэдні клас. «Трэцюю Расію» складаюць жыхары пасёлкаў і малых гарадоў (38%). Яны жывуць «на зямлі». Яны па-за палітыкай, бо каляндар сельскагаспадарчых работ не залежыць ад змены уладаў.

Ёсць і «чацвёртая Расія». Гэта рэспублікі Паўночнага Каўказа і поўдня Сібіры (6%), дзе яшчэ не скончыўся мадэрнізацыйны пераход: сем'і вялікія, нараджальнасць высокая, каштоўнасці патрыярхальныя.

Але што мы назіраем сёння? 22 сакавіка падчас выступу ў эфіры «Эхо Москвы» Наталля Зубарэвіч вымушана была падкарэктаваць сваю тэорыю: «Яны («чатыры Расіі») перастаюць адрозніваца паміж сабой, таму што ўсюды дзейнічае вось гэты фактар крыві і глебы, фактар траўмаванай нацыянальнай свядомасці, фактар хваробы, якая называецца постымперскі сіндром».

Дыягнаставаць постымперскі сіндром на індывідуальным узроўні надзвычай проста. Калі чалавек аддае перавагу збіранню новых зямель замест навядзення парадку на ўжо існуючай тэрыторыі, то мы не памылімся з дыягназам. А падстаў для навядзення парадку дастаткова. У Расіі налічваецца каля 700 тысяч сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў. «Гэта крыху больш, чым у СССР пасля Другой сусветнай вайны», — заявіў упаўнаважаны пры прэзідэнце РФ па правах дзіцяці Павел Астахаў. Для параўнання, у Францыі на 1 студзеня 2013 года па-за сем'ямі пражывала 350 (!) дзяцей.

18 сакавіка Уладзімір Пуцін, выступаючы ў Крамлі перад дэпутатамі Дзяржаўнай Думы і чальцамі Савета Федэрацыі, адзначыў, што цвёрдасць знешнепалітычнай пазіцыі Расіі грунтуецца *«на воле миллионов людей, на общенациональном единении, на поддержке ведущих политических и общественных сил»*. Ён таксама выказаў падзяку ўсім *«за этот патриотический настрой. Всем, без исключения»*.




І з гэтым трэба пагадзіцца. Патрыятычны ўздым (шавіністычны ўгар) адчуваюць сёння большасць расіян. Усе «чатыры Расіі» — ад найбуйнейшых гарадоў да перыферыі — у адзіным парыве дэманструюць падтрымку «палітыцы партыі і ўрада». На думку дырэктара «Лявада-Цэнтра» Льва Гудкова, «адпадаюць толькі тыя, хто не глядзіць тэлевізар, малапісьменныя і тыя, хто дзесьці сядзяць па далёкіх кутах, глушы і, наогул, адарваныя ад усяго».

### Сацыялогія патрыятызму

У 1989 годзе, калі ВЦИОМ пачаў праводзіць першыя агульнанацыянальныя апытанні, у Расіі толькі 13% адзначалі наяўнасць ворагаў. Асноўная маса (да 50%) была ўпэўненая, што прычына ўсіх праблем заключаецца «ў нашых уласных недасканаласцях». Сёння сітуацыя іншая: 78% кажуць, што ў Расіі ёсць ворагі («Лявада-Цэнтр», сакавік 2014 года).

Такі высокі ўзровень ксенафобіі (ад грэчаскіх слоў «чужы» і «страх») фіксуецца на фоне рэкордных рэйтынгаў Уладзіміра Пуціна. У прыватнасці, па дадзеных ВЦИОМ, рэйтынг ухвалення яго дзейнасці дасягнуў максімуму за апошнія пяць гадоў і працягвае расці: 71,6 % (8–9 сакавіка), 75,7 % (15–16 сакавіка).

Што адбываецца сёння ў Расіі? Вы будзеце здзіўлены, але 38% расіян успрымаюць тое, што адбываецца ў краіне, як станаўленне дэмакратыі («Лявада-Цэнтр»). Годам раней так лічыла 29%, а ў красавіку 1994 года — 6%! Адпаведным чынам за дваццаць гадоў зменшылася колькасць расіян, якія ўспрымаюць цяперашнюю сітуацыю як страту парадку і нарастанне хаосу: красавік 1994 года — 52%, сакавік 2013 года — 21%, сакавік 2014 года — 16%.

Згаданы прагрэс спалучаецца з другім месцам Расіі (пасля Сірыі) па колькасці грамадзян, якія шукаюць прытулку ў іншых краінах. Такія дадзеныя ўтрымліваюцца ў дакладзе ААН, што грунтуецца на інфармацыі 44 прамыслова развітых краін. Расіяне падалі амаль 40 тысяч зваротаў на атрыманне прытулку. З сірыйцамі ўсё зразумела — у краіне ідзе вайна. А ў Расіі? А ў Расіі ўмацоўваецца дэмакратыя.

Зразумела, усплёскі патрыятызму і жадання згуртавацца вакол «нацыянальнага лідара» адбыліся не без дапамогі дзяржаўных СМІ. «Масавая вытворчасць уяўленняў людзей пра жыццё, — лічыць культуролаг Данііл Дандурэй, — гэта найбуйнейшая вытворчасць XIX стагоддзя, гэта значыць, што і раней гэта было вельмі важна, але сёння гэта вытворчасць нумар адзін, гэта важней за нафту, газ, космас, вайну».

Дандурэй у сваіх высновах абапіраецца на наступную статыстыку: сацыёлагі фіксуюць прыкладна 500 заняткаў сучаснага чалавека. Калі пакінуць па-за дужкамі сон, то прагляд тэлепраграм апынецца на першым месцы. Ён па часе апярэдзіць вытворчую дзейнасць. Ні прамыя зносіны ў сям'і, ні адукацыя не здольныя канкураваць з тэлебачаннем. Сярэднестатыстычны расіянін, калі ён старэйшы за чатыры гады, тарашчыцца ў «скрыню» без двух хвілін чатыры гадзіны на суткі.

Аднак, не адмаўляючы ўклад тэлебачання ў *«патриотический подъем»* расіян, нагадаю, што ніякая прапаганда не можа быць паспяховай, калі яна ідзе насуперак культурнай матрыцы.

### Раздзел 3. Артыкул 65

Пасля распаду СССР Расія афіцыйна абвясціла сябе яго правапераемніцай. Гэта не варта ўспрымаць як фармальнасць. Дэкларацыя аб утварэнні СССР ад 30 снежні 1922 года прадугледжвала адкрыты доступ у Саюз «усім сацыялістычным савецкім рэспублікам, як існуючым, дык і тым, якія могуць паўстаць у будучыні».

Такая адкрытасць дазваляла далучаць тэрыторыі суседніх дзяржаў у адказ на «просьбы працоўных», што неаднаразова і рабілася. Абмяжуюся адным прыкладам. На момант пачатку Другой сусветнай вайны СССР меў межы на захадзе з Фінляндыяй, Эстоніяй, Латвіяй, Літвой, Польшчай, Румыніяй і Турцыяй. Да 22 чэрвеня 1941 года Савецкі Саюз уключыў у свой склад частку тэрыторыі Фінляндыі, Польшчы, Румыніі і цалкам акупаваў Эстонію, Латвію і Літву. Турцыі пашанцавала. Прад'явіць прэтэнзіі на Басфор і Дарданелы Сталін не паспеў, але адпаведныя перамовы з фашысцкай Італіяй вяліся, пра што і паведаміў Молатаў Гітлеру 25 лістапада 1940 года.

Магчымасць на «прирастание» новымі тэрыторыямі закладзеная і ў сучаснай Канстытуцыі РФ: «Раздзел 3. Федэратыўнае ўладкаванне. Артыкул 65. Прыняцце ў Расійскую Федэрацыю і ўтварэнне ў яе складзе новага суб'екта ажыццяўляюцца ў парадку, устаноўленым федэральным канстытуцыйным законам».

Закон, да якога адсылае Канстытуцыя, быў прыняты 17 снежня 2001 года. Ён прадугледжвае прыняцце замежнай дзяржавы або яе часткі ў якасці новага суб'екта ў РФ. «Гэта прыняцце ажыццяўляецца па ўзаемнай згодзе РФ і **адпаведнай замежнай дзяржавы** (вылучана — С.Н.)». Гэта значыць, што частка замежнай дзяржавы звярнуцца з адпаведнай просьбай не мае права.

Разумеючы слабасць заканадаўчай базы, дэпутаты 28 лютага падрыхтавалі законапраект аб спрашчэнні далучэння новых суб'ектаў да Расіі. Паводле адной з паправак, у выпадку «адсутнасці ў замежнай дзяржавы эфектыўнай суверэннай дзяржаўнай улады частка гэтай дзяржавы праз рэферэндуму мясцовых жыхароў або рашэнне мясцовай улады можа ўвайсці ў склад РФ».

Аднак законапраект так і не быў прыняты. Дэпутаты вырашылі не перагружаць сябе юрыдычнымі тонкасцямі. І гэта правільна. Выкананне законаў ніколі не было моцным бокам рускай культурнай матрыцы.



# Дзень волі — дзень Украіны

Сяргей ПУЛЬША

**Свята Дня Волі ў Мінску, як і планавалі ягоныя арганізатары, ператварылася ў шэсце салідарнасці з Украінай. Шмат каго хвалююць зараз падзеі ў паўночнай суседкі. І шмат каго не задавальняе пазіцыя Расіі, якая акупавала Крым. Таму гэтым разам шэсце было больш радыкальным.**

Зразумела, што арганізатары шэсця спрабавалі павялічыць яго масавасць праз неабыякавасць людзей да ўкраінскіх падзеяў. Канешне, трэба было і азначыць хваляванне беларусаў наконт вайсковых дзеянняў Расіі ў Крыме. Аднак, насамрэч, такая салідарнасць з Украінай мае і больш глыбокія карані, пра якія, чамусьці, амаль ніхто не згадаў.

Адразу пасля ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі менавіта Украіна болей за ўсіх падтрымлівала і дапамагала БНР. Паміж БНР і Украінскай Народнай Рэспублікай адбыўся абмен консульствамі, у Кіеве была адкрыта Беларуская гандлёвая палата. У адной толькі Адэсе консульства БНР зарэгістравала каля 16 тысяч грамадзян-беларусаў і выдавала ім пашпарты БНР. Іх уладальнікі, дарэчы, маглі жыць у краінах Еўропы, атрымаць візу на пераезд у Амерыку ці вярнуцца на радзіму.

Украінская Народная Рэспубліка дапамагала БНР не толькі палітычна, дыпламатычна і маральна. У лютым 1919 года ўрад БНР, які знаходзіўся ў той час у Гродна, атрымаў ад украінскага ўраду дзяржаўную пазыку ў памеры 4 мільёнаў карбованцаў. Частка гэтых грошай пайшла на стварэнне дыпламатычных місіяў БНР у замежжы, на паездкі прадстаўнікоў БНР на міжнародныя канферэнцыі, на выданне беларускай прэсы, на дапамогу школам і прытулкам.

Скептыкі могуць казаць, што, разам з тым, БНР так і не атрымала афіцыйнага прызнання ні з боку Цэнтральнай Рады УНР, ні з боку гетманата Скарападскага, бо засталося нявырашаным пытанне аб дзяржаўнай мяжы з-за спрэчнага статусу Палесся. Але варта адзначыць, што гэтае пытанне «правісела» ўсё XX стагоддзе, і толькі ў 2013 годзе былі знятыя спрэчныя пытанні і пачалася дэмаркацыя беларуска-ўкраінскай мяжы.

Такім чынам, «украінскае пытанне» ў беларускім Дні Волі — зусім не выпадковае. І, каб не колішняя падтрымка УНР, хто ведае, ці святкавалі б мы Дзень Волі зараз?

Што тычыцца сёлетняга свята, то яно прайшло, так бы мовіць, у «цёплай ветлівай атмасферы». Нягледзячы на радыкальныя лозунгі, кшталту «Слава нацыі — смерць ворагам!» і «Гэць расійскіх акупантаў», беларусы ўсё ж не забывалі пра святочнасць гэтага дня. Нават можна адзначыць, што ні да аднаго Дня Волі, падаецца, нашы грамадзяне не падыходзілі з такім настроем і крэатывам. У дэманстрантаў былі не толькі звыклыя бел-чырвона-белыя і жоўта-блакітныя стужкі на вопратцы. Некаторыя з іх пераапрануліся ў нацыянальныя ўкраінскія строі. Людзі панарабілі папяровых кветак у колерах украінскага сцягу з надпісамі «Не вайне!». Вельмі багата было як белых і чырвоных, так і жоўтых і блакітных паветраных шароў. Карацей, гэтае шэсце зараз не выглядала «змрочным традыцыйным шэсцем апазіцыянераў», а сапраўды ствarала святочнае ўражанне.

З-за гэтага святочнага настрою шэсце ад кінатэатру Кастрычнік да плошчы Бангалор прайшло спакойна і велічна за паўтары гадзіны: традыцыйна ж яно ішло хвілінаў 45. У выніку да месца мітынгу дэманстранты прыйшлі недзе а восьмай гадзіне вечара: ужо тады, калі па плане арганізатараў заяўлены мітынг павінен быў быць нават скончаны.

Было цёмна. На пляцоўцы для выступаў у парку Дружбы народаў няма ліхтароў. Да таго ж, тэрыторыя пляцоўкі была ачэпленая міліцэйскімі турнікетамі, а праход на яе ажыццяўляўся праз металашукальнікі. Свята псаваць сабе ніхто не хацеў, і таму ісці праз гэтыя турнікеты жадаючых асабліва не было. Арганізатарам давялося прамаўляць свае спічы ля міліцэйскай агароджы.

Старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч падзякаваў прысутным за падтрымку беларускай незалежнасці і за тое, што яны прыйшлі сказаць «не — расійскаму імперыялізму». «У незалежнасці Беларусі і Украіны адзін вораг — расійскі імперыялізм, — сказаў Янукевіч. — Шмат хто казаў некалькі месяцаў таму, што Расія змянілася, гатовая інтэгравацца ў міжнародную супольнасць. Але сёння не засталося людзей у здаровым розуме, якія так думаюць.

Па словах Янукевіча, народ па-сапраўднаму будзе свабодным толькі тады, калі Беларусь выйдзе з усіх інтэграцыйных утварэнняў, цэнтрам якіх з'яўляецца Расія, — Мытнага саюза, АДКБ і Саюзнай дзяржавы. Палітык таксама заявіў, што Беларусі неабходна аднавіць кантроль на расійскай мяжы. «Толькі тады мы будзем абароненыя ад зла з боку Расіі», — лічыць Янукевіч.

На мітынгу быў зачытаны зварот крымскіх татараў, у якім гаворыцца, што іх лідар зараз знаходзіцца ў Турцыі, і «заўтра-паслязаўтра пачнецца барацьба крымскіх татараў за крымска-татарскую аўтаномію». Аўтары звароту просяць беларусаў аказаць у гэтым дапамогу.

Канешне, былі спробы і папсаваць свята з боку супрацоўнікаў міліцыі і некаторых «маладзёнаў у цывільным». Два разы нецвярозыя людзі спрабавалі завязаць канфлікт з дэманстрантамі, але тыя паводзілі сябе, як украінскія войскі ў Крыме, — на правакацыі не паддаваліся. Міліцыянты затрымалі каля дзесяці маладзёнаў — пераважна прыхільнікаў грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь» і зарэгістраванага ў Чэхіі «Маладога фронту». Аднак збольшага ўсе яны былі адпушчаныя з пастарункаў без складання пратаколаў.

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# У каланіяльных путах

**Выказванне Лукашэнкі, маўляў, Крым дэ-факта стаў расійскай тэрыторыяй, але Украіна павінна быць непадзельнай, прэтэндуе на афарызм. Яшчэ больш красамоўны працяг думкі: бо Крым не стаў незалежнай дзяржавай, як раней Асецця, Абхазія і (увага!) «гэтак далей».**



А хто далей? І што далей? І куды ж далей?

Ці не пра Беларусь гаворка? Беларускі правадыр меў рацыю, калі казаў, што гэту рэальнасць можна прызнаваць ці не прызнаваць, але паўплываць на яе немагчыма. І гэта сітуацыя, як і яе ацэнка, абсалютна задавальняе Пуціна. Інакш кажучы, Беларусь дэ-юрэ з'яўляецца суверэннай, а дэ-факта цалкам залежыць ад волі і дзеянняў усходняй суседкі.

Такія дзяржавы называюць каланіяльна залежнымі. Яны і ў ААН засядаюць, і міравыя чэмпіянаты праводзяць. Яны імкнуцца да незалежнага развіцця, але не маюць магчымасці разарваць путы залежнасці ад былой (дэ-юрэ) метраполіі. Прыкладам, эканамічнай залежнасці.

Трэба адзначыць, што калоніі пачыналі свой незалежны шлях ад каланіяльных адміністрацый, якія рабілі выгляд адданага служэння метраполіі, а самі працавалі на павышэнне свайго статуса, пашырэнне функцый. З цягам часу такія адміністрацыі станавіліся ўрадамі новых дзяржаў. З дасягненнем суверэнітэту дэ-юрэ, яны імкнуліся стаць суверэннымі дэ-факта.

Амаль усе сучасныя дзяржавы маюць за сабой шлях барацьбы за незалежнасць, за вызваленне ад путаў больш моцных і больш паспяховых дзяржаў. З цягам часу паміж былымі калоніямі і былымі метраполіямі наладжваліся выгадныя эканамічныя і палітычныя стасункі.

Некалі Зянон Пазьняк лічыў урады, якія ствараліся ў Беларусі пасля апошняга абвяшчэння незалежнасці, каланіяльнымі па прычыне іх поўнай эканамічнай залежнасці ад былой метраполіі. Гэта і не дзіўна, калі першы прэм'ер першага незалежнага ўрада Вячаслаў Кебіч публічна задаваўся пытаннем: «Што рабіць з краінай, якая на 70% залежыць ад паставак рэсурсаў з-за мяжы?»




На гэта пытанне мог адказаць кожны школьнік — трэба будаваць такую эканоміку, якая б больш адпавядала магчымасцям уласнай рэсурснай базы. Зыходзячы, аднак, з галоўнага прыярытэту — захавання і паглыблення рэальнага суверэнітэту.

Можна пагадзіцца з Пазьняком, што беларускі ўрад па сутнасці застаецца каланіяльнай адміністрацыяй. Але сітуацыя аказалася яшчэ горш. У адрозненні ад нармальных каланіяльных адміністрацый, што імкнуцца да змяншэння эканамічнай залежнасці, беларуская адміністрацыя, пры ўсіх сваіх прэм'ерах, сама лезла ў яшчэ большую залежнасць.

І ў гэтым Беларусь вельмі падобная да Асецціі і Абхазіі — юрыдычна незалежных, але фактычна залежных настолькі, што іх лепш назваць расійскімі тэрыторыямі. Калоніямі, якім яшчэ трэба будзе будаваць уласную эканоміку, каб стаць дзяржавамі. Не кожнай такое ўдаецца.

Пакуль што не ўдаецца гэта і Беларусі. Праз больш чым 20 гадоў незалежнага развіцця яна не дамаглася нічога карыснага для сябе ні ў эканоміцы, ні ў палітыцы. Наадварот, толькі псавала тыя набыткі, што былі зробленыя.

На адны і тыя ж граблі — шматкроць усе 20 гадоў. Колькі гузакоў набіта на хітрых ілбах пад маршальскімі картузамі. Маўляў, так склалася гістарычна. Ні сумлення, ні адміністратыўнай хітрасці. Кажы такому — не спяшайся з козамі на торг. А ён — нават пра сябе не думае.

«У сілу гістарычнага мінулага, таго, што мы адзіны народ, стварaем адзіны праект, мы будзем з Расіяй... Калі ўзнікне пытанне, мы заўсёды будзем з Расіяй», — гэтымі словамі Лукашэнка быццам бы паабяцаў Пуціну быць з яго народам. Якога ніколі не было. А былі рускія «вялікаросы» і «нацмэны». З гэтай нагоды Расію называлі «турмой народаў». Асобную камеру мелі ў ёй і беларусы.

Пасля таго, як Пуцін скасуе беларускае дэ-юрэ, паколькі яно не адпавядае існуючаму, што будзе з намі?



# Украінскія вайскоўцы: «Мы стаім тут за людзей»

**Адваротным бокам украінскіх свабодаў, сапраўды параўнальна вельмі шырокіх, была чыноўніцкая вольніца. Цягам многіх гадоў украінскі кіроўны клас вольна займаўся вырашэннем уласных праблемаў за кошт даверанай яму ва ўпраўленне краіны.**

Зміцер ГАЛКО

Уперыяд прэзідэнцтва Януковіча гэты працэс дасягнуў апагею. Ягоны залаты батон — зручны аб'ект насмешак. Але я згадваў яго ўжо без смеху, як канцэнтраваны сімвал высмактаных з краіны сокаў, гледзячы на тое, у якім стане знаходзіцца ўкраінская армія.

Не буду на радасць імперскім ваякам апісваць падрабязна няголнасць яе тэхнічнага забеспячэння. Аднак магу сказаць, што калі б гэтаму войску даводзілася абараняць толькі дзяржаву як сукупнасць афіцыйных органаў улады, яно, мабыць, даўно пакідала б зброю і разбеглася.

На шчасце, украінская армія стала народнай. Бо народ, які зразумеў, што ён адзіны адказны палітычны суб'ект у краіне, узяў яе пад сваю апеку. І армія зразумела, каго яна абараняе, — «людзей, без якіх мы б і дня не прастаялі».

З адной групай такіх людзей на «Geely» ўкраінскай зборцы, упрыгожанай дзяржаўнымі сцягамі, мы праехалі 21 сакавіка больш за 500 кіламетраў, наведаўшы тры вайсковыя базы, на якіх знаходзяцца салдаты 79-й асобнай аэрамабільнай брыгады. Я паехаў разам з двума святарамі праваслаўнай царквы Кіеўскага патрыярхату — айцом Ігарам (Ігар Пятрэнка) і айцом Мікалаем (Мікалай Доўгань), а таксама медсястрой і дэпутаткай гарсавету Марыяй Вуйцык-Ляўкоўскай.

Часткова за свае, часткова за ахвяраваныя іншымі грошы, яны везлі для салдатаў разгрузачныя (тактычныя) камізэлькі, па якіх зручна распіхваць патроны, гранаты, нож і г.д.; ахоўныя акуляры ад пылу, пяску, пырскаў крыві; арафаткі; батарэйкі ды іншае.

У Ігара Пятрэнкі і Мікалая Доўганя па трое дзяцей, у абодвух ёсць вельмі хворыя дзеці: сляпы сын у айца Мікалая, дачка з парокам сэрца ў айца Ігара. Для кагосьці адно гэта было б непасільным цяжарам, а яны з уласнай ініцыятывы ўзяліся яшчэ апекавацца салдатамі.

Ігар Пятрэнка распавёў, як ягоную дачку лячылі ад бранхіту, а потым высветлілася, што ў яе парок сэрца. Трэба было везці яе ў Кіеў. Бясплатная ўкраінская медыцына толькі на паперы, на самай справе ўсё грунтуецца на так званых «добраахвотных унёсках». Зрэшты, айцец Ігар гатовы быў аплаціць кошт самага дарагога бензіну на дарогу туды і назад, камандзіровачныя для кіроўцы і лекара. Але шпіталь пачаў гандлявацца над цяжка хворай дзяўчынай, удвая завышаючы неабходную суму. І нават пасля таго, як бацька аддаў яе нарэшце ў бухгалтэрыю, заявілі маці дзяўчынкі, быццам грошай ніякіх не атрымалі, таму паездка ў Кіеў пад пытаннем. Нібы хацелі яшчэ і з яе злупіць...

Майдан, па словах айца Ігара, быў паўстаннем «супраць гэтай скажонай на ўсіх узроўнях, нялюдскай сістэмы». Толькі ён адзін, толькі аб'ядналая воля народу ў стане яе змяніць. Для гэтага трэба адмовіцца ад эгаізму, паглядзець па баках —ці не магу я зрабіць нешта, каб палепшыць наша агульнае жыццё?

Кіруючыся гэтым прынцыпам, айцец Ігар ездзіў на Майдан у Кіеў у самыя гарачыя часіны, потым арганізоўваў Майдан у Херсоне, цяпер намотвае сотні кіламетраў, развозячы салдатам вельмі патрэбныя ім рэчы.

У дарозе айцец Ігар выхоўвае па тэлефоне непаслухмяных дзяцей. Распавядае пра свайго гарэзлівага сына, якому ён абяцаў даць рамяня, калі той «не зробіць высновы». Урэшце рамяня давялося даць, на што дзесяцігадовы сын яму адказаў: «Эх, тата, я ўжо амаль зрабіў тыя высновы, але ты мне іх перабіў».

І дае ўказанні, што трэба зрабіць з нейкай кампаніяй расійскіх гастралёраў, якія лазяць па сёлах Херсоншчыны сепаратысцкія мітынгі: «Ды яйкамі іх закідайце. Зараз якраз пост, можна».

Расказвае, што Маскоўскае праваслаўе вельмі прывязалася да формы і антуражу, заняло пазіцыю павучэння і асуджэння, закасцянела ў дагматыцы. Тады як для «сапраўднага хрысціянства», на яго погляд, уласціва шукаць, тварыць новае, задавацца пытаннямі, мысліць свабодна. «Зараз вам бацюшка крамольную рэч скажа, — гаворыць айцец Ігар. — Паглядзіце, Ісус Хрыстос парушыў ледзь не ўсе нават уласныя запаветы!»

У такіх размовах мы аб'язджаем Новакамянку, дзе салдаты ахоўваюць насосную станцыю, Чангар, дзе знаходзіцца асноўны памежны пункт паміж мацерыковай Украінай і Крымам, і Арабацкую стрэлку, дзе расійскі дэсант захапіў газаперапампавочную станцыю «Чарнаморнафтагаза», матывуючы захоп неабходнасцю «абароны ад магчымых тэрактаў». Тут з біноклю можна бачыць «зялёных чалавечкаў».



Святар Ігар Пятрэнка, крайні справа, на кіеўскім Майдане



Фота аўтара

Марыя Вуйцык-Ляўкоўская вітаецца з салдатам на пасту



Аўтар разам з украінскім вайскоўцам



Святары перадаюць вайскоўцам прывезеныя рэчы

Для Ігара Пятрэнкі гэта ўжо пятая паездка, яго тут добра ведаюць, вітаюцца «Слава Украіне! — Героям слава!», тройчы абдымаюцца па праваслаўнаму звычаю. На развітанне ўжо братаюцца ўсе з усімі. Як мяне прасілі, перадаю хлопцам прывітанні ад беларусаў, хаця ў глыбіні душы не ўпэўнены, ці гэта не ад тузіну сябroў і знаёмых толькі.

У выпадку працягу інтэрвенцыі на мацярык, далёка не выключанага, што гэтыя хлопцы прымуць бой першымі. Яны гэта разумеюць, мы гэта разумеем. Марыя Міхайлаўна падбадзёрвае салдатаў, а сама потым у машыне ледзь не плача. Але яны самі пакуль шырока ўсміхаюцца, радыя прывезеным рэчам нібы святочным падарункам, прымаюць малайцаватую паставу, чуючы ў свой адрас: «Вы нашыя абаронцы, вы героі, мы ганарымся вамі!» Хай бы гэта гучала для іх жывых, не папаўняліся болей шэрагі «Нябеснай сотні».

Але ў Крамлі няхай пачуюць і зробяць высновы — яны ведаюць, за што тут стаяць. Бо яны — народная армія. Няхай ведаюць тое і ў Кіеве — хто ў краіне сапраўдны гаспадар і каму аддана гатовыя служыць.

Гэта ведае губернатар Херсоншчыны Юрый Адарчанка, які ў размове са мной, адказваючы на пытанне, ці ёсць у палітыкаў сапраўдная воля змяніць краіну, сказаў: «Украінцы перараслі палітыкаў, узровень грамадскай свядомасці значна вышэйшы, чым у палітычнага істэблішменту».

TV

## 2 КРАСАВІКА, СЕРАДА

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.25** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Біяграфічная драма «Ганна Герман» (Расія - Польшча). Заключныя серыі.
**11.10** Эксцэнтрычная камедыя «Каханне ў вялікім горадзе-3» (Расія - Украіна). 1-я серыя.
**12.10** Дак серыял «Містычныя гісторыі» .
**13.10** Серыял «Дыхай са мной. Шчасце ў пазыку» (Расія). 5-я і 6-я серыі.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Дэтэктыўны серыял «След». 3-я серыя.
**16.30** Дак. цыкл «Сямейныя меладрамы».
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Адмысловы рэпартаж.
**19.40, 00.10** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Эксцэнтрычная камедыя «Каханне ў вялікім горадзе-3» (Расія - Украіна). 2-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Біяграфічны серыял «Брэжнеў» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**23.55** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.45** Дзень спорту.
**00.55** Дак. серыял «Містычныя гісторыі» .
**01.50** Дэтэктыўны серыял «След». 3-я серыя.

### АНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.05** «Яны і мы».
**13.10** Прэм'ера. «Справа ваша...».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Смешнае і яшчэ смешней».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.05** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Гетэры маёра Сакалова». Закл. серыі.
**23.15** Камедыя «Мастак-злодзей».
**00.50** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Вам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Вовачка-3». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Мінск і мінчане».
**13.50** Фільм «Аперацыя «Святы Януарый» (Італія - Францыя - Германія, 1966 г.).
**15.40** «Не хлусі мне!».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Вам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Prada і пачуцці» (ЗША - Мексіка, 2011 г.).
**22.15** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.55** «Дабро пажаліцца».
**00.15** Фільм «Палтэргейст» (ЗША, 1982 г.).

### 2 Беларусь

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Двое з куфра» (Расія).
**10.10** Беларуская кухня.
**10.45** Дэтэктыўны серыял «Я - целаахоўнік».
**11.55** Прыгодніцкі серыял «Маёр Вятроў» (Беларусь - Расія). Заключныя серыі.
**14.00** «Пад грыфам «Вядомыя».
**14.40** Серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**15.45** Рэпарцёр.
**16.35** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**17.55** Серыял «Двое з куфра» (Расія).
**18.55** Хакей. КХЛ. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** «Спортлато 5 з 36».
**21.30** КЕНО.
**21.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 1/4 фіналу. Прамая трансляцыя.
**23.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Агляд 2-х гульнявых дзён.
**00.10** Музычны конкурс «GBOB» у Беларусі.

### 3 Беларусь

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00, 12.40** «Калейдаскоп».
**08.05, 12.50** «Год у гісторыі».
**08.20** «Мёртвыя душы». Мастацкі фільм паводле рамана М.В.Гогаля. 1-я серыя.
**09.30** «Дыя@блог». «Пра прыгожае» з Крысцінай Смольскай.
**09.55** Серыял «Мегрэ».
**10.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці доктара мастацтвазнаўства, прафесара, акадэміка Беларускай акадэміі адукацыі Гурыя Барышава.
**11.15** «Размаўляем па-беларуску».
**11.20** «Алеся». Мастацкі фільм.
**13.00** «Масква - Мінск. Кінатранзіт». «Барыс Плотнікаў. Узыходжанне».
**13.30** «Наша спадчына». Пінскія святыні. Часткі 1-я і 2-я.
**14.00** «Тэатральны ліцэй». Свае і чужыя. Разважанні акцёраў аб развіцці сістэмы Станіслаўскага.
**14.25** «Размаўляем па-беларуску».
**14.30** «Цуды прыроды». Байкал.
**14.55** «Калейдаскоп».
**15.05** «Год у гісторыі».
**15.15** «Скарбніца Віцебшчыны». Маёнтак роду Лапацінскіх.
**15.45** «Камертон». Гітарыст, народны артыст Расіі Аляксей Кузняцоў.
**16.10** «Размаўляем па-беларуску».
**16.15** «На прыродзе з Віталём Гуменным». Выганашчанскія балоты.
**16.30** «Святая Рыма». Дак. фільм пра жыццё і подзвіг сястры міласэрнасці, гераіні Першай сусветнай вайны Рымы Івановай.
**17.10** «Калейдаскоп».
**17.15** «Год у гісторыі».
**17.30** Мультфільм.
**17.50** «Сямейны альбом». Жыццё і творчасць кінарэжысёра Міхаіла Пташука.
**18.05** «Лабірынты». «Над дняпроўскай стромай». Пра жыццё і творчасць Янкі Купалы.
**18.30** «Размаўляем па-беларуску».
**18.40** «Музеум». Урэцка-Налібокскае шкло.
**18.55** Прэм'ера. «Забытыя імёны. Мікалай Мінскі». Дак. фільм пра лёс і творчасць паэта, аднаго з заснавальнікаў сімвалізму.
**19.25** «Мёртвыя душы». Мастацкі фільм паводле рамана М.В.Гогаля. 2-я серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.10** «Калейдаскоп».
**21.20** Серыял. «Мегрэ».
**22.00** «Дыя@блог». «Пра прыгожае» з Крысцінай Смольскай.
**22.30** «Брэсцкая крэпасць». Мастацкі фільм.
**00.40** «Святло далёкай зоркі». Памяці доктара мастацтвазнаўства, прафесара, акадэміка Беларускай акадэміі адукацыі Гурыя Барышава.
**01.05** «Калейдаскоп».
**01.15** «Год у гісторыі».

### НТВ

**06.00** «НТБ раніцай».
**08.45, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40, 18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**19.35** Серыял «Дзікі».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Серыял «Пад прыцэлам».

### БЕЛСАТ tv

**07.00, 09.20, 12.30, 14.55, 23.45, 02.05** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.35, 14.10** Без межаў.
**08.55, 14.25** Аб'ектыў.
**09.40** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Які гумар беларускі?
**10.05** Відзьмо-невідзьмо.
**10.35** Моўнік (лінгвістычная праграма): Адкуль пайшлі найменні гарадоў.
**10.45** Назад у будучыню.
**11.00** Форум (ток-шоў): Да 150-годдзя смерці К. Каліноўскага. Нацыянальны герой ці тэрарыст?
**11.45** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Аперацыя «Адэса»»: ч. 2.
**15.10** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Які гумар беларускі?
**15.40** Відзьмо-невідзьмо.
**16.05** Моўнік (лінгвістычная праграма): Адкуль пайшлі найменні гарадоў.
**16.20** Назад у будучыню.
**16.30** Форум: Да 150-годдзя смерці К. Каліноўскага. Нацыянальны герой ці тэрарыст?
**17.20** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Аперацыя «Адэса»»: ч. 2.
**18.05** «Лонданцы», серыял: 12 серыя.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20, 20.15** Гарачы каментар.
**19.30** Навіны.
**19.50** Сальда (эканамічная праграма).
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** Без рэтушы: «Неабмежаваны магчымасцямі», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**22.00** «Парадокс», серыял: 13 серыя.
**22.50** «З хронікі Аўшвіцу», дак. серыял, 2012 г., Польшча: «Самая доўгая паверка».
**23.15** Эксперт (сатырычная праграма).
**01.20** Маю права (юрыдычная праграма).
**01.40** Аб'ектыў.
**02.25** Без рэтушы: «Неабмежаваны магчымасцямі», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.

## 3 КРАСАВІКА, ЧАЦВЕР

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.40** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Біяграфічны серыял «Брэжнеў» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**11.10** Эксцэнтрычная камедыя «Каханне ў вялікім горадзе 3» (Расія - Украіна). 2-я серыя.
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі» .
**13.10** Серыял «Дыхай са мной. Шчасце ў пазыку» (Расія). 7-я і 8-я серыі.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія). 4-я серыя.
**16.30** Дак. цыкл «Сямейныя меладрамы».
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.25** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Эксцэнтрычная камедыя «Каханне ў вялікім горадзе-3» (Расія - Украіна). 3-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Біяграфічны серыял «Брэжнеў» (Расія). Заключныя серыі.
**23.55** Вечар цяжкага дня.
**01.00** Дзень спорту.
**01.10** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**02.05** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія). 4-я серыя.

### АНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.05** «Яны і мы».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Прэм'ера. «Справа ваша...».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Смешнае і яшчэ смешней».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Позняе раскаянне». Шматсерыйны фільм.
**23.15** Фільм «Целаахоўнік».
**01.05** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Вам і не снілася».
**10.05** «Дабро пажаліцца».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Вовачка-3». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.50** Фільм «Prada і пачуцці» (ЗША - Мексіка, 2011 г.).
**15.45** «Не хлусі мне!».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Вам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Смяротная бітва: знішчэнне» (ЗША, 1997 г.).
**22.05** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** Фільм «Сукупнасць хлусні» (ЗША - Вялікабрытанія, 2008 г.).

### 2 Беларусь

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Двое з куфра» (Расія).
**10.10** Заўтра - гэта мы!
**10.40** Дэтэктыўны серыял «Я - целаахоўнік».
**12.05** Прыгодніцкі баявік «Маленькі вялікі салдат» (Кітай - Ганконг).
**14.00** «Пад грыфам «Вядомыя».
**14.35** Кінараман «Ляцяць жураўлі» (СССР).
**16.25** Аўтабатл.
**17.00** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**17.55** Серыял «Двое з куфра» (Расія).
**18.55** Фантастычны баявік «Стэлс» (ЗША).
**20.55** Цела чалавека.
**21.25** КЕНО.
**21.30** «На шляхі да чэмпіянату свету па футболе 2014».
**22.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. 1/4 фіналу. Прамая трансляцыя.
**00.00** Музычны конкурс «GBOB» у Беларусі.

### 3 Беларусь

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05, 13.35, 15.05, 17.05, 00.40** «Энцыклапедыя беларускага спорту». Веславанне акадэмічнае.
**08.15** «Мёртвыя душы». Мастацкі фільм паводле рамана М.В.Гогаля. 2-я серыя.
**09.35** «Дыя@блог». «Пра літаратуру» з Тацццянай Сівец і Стэлай Чырковай.
**10.00** Серыял. «Мегрэ».
**10.45** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Сяргея Каткова.
**11.10** «Размаўляем па-беларуску».
**11.15** «Брэсцкая крэпасць». Мастацкі фільм.
**13.25** «Калейдаскоп».
**13.45** «Настальжы». Балерына, заслужаная артыстка Беларусі Натэла Дадзішкіліяні.
**14.10** «Музеум». Сядзібны партрэт.
**14.25** «Размаўляем па-беларуску».
**14.30** Мультфільмы.
**15.00** «Калейдаскоп».
**15.15** «Масква-Мінск. Кінатранзіт». Уладзімір Гасцюхін. «Узыходжанне». Дак. фільм.
**15.40** «Наша спадчына». Палац Валовічаў.
**15.55** «Цуды прыроды». Чэхія. Куба. Фіджы.
**16.20** «Размаўляем па-беларуску».
**16.30** «Васіль Корж. Урокі жыцця». Дак. фільм пра партызана, Героя Савецкага Саюза.
**16.55** «Калейдаскоп».
**17.15** «Тэатральны ліцэй». Экран і сцэна. Успаміны Анатоля Смяляпскага аб розных момантах з жыцця школы-студыі МХАТа.
**17.40** «Росчырк часу». Творчасць мастачкі Святланы Курашовай.
**17.55** «Лёгкі хлеб». Кароткаметражны фільм.
**18.15** «На прыродзе з Віталём Гуменным».
**18.30** «Карані». Ася Чабан - беларуска, якая жыве ў Польшчы.
**18.55** «Размаўляем па-беларуску».
**19.00** «Скарбніца Гомельшчыны». Сонечны горад Мікалая Румянцава.
**19.30** «Мёртвыя душы». Мастацкі фільм паводле рамана М.В.Гогаля. 3-я серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.10** Серыял. «Мегрэ».
**22.00** «Дыя@блог». «Пра літаратуру» з Тацццянай Сівец і Стэлай Чырковай.
**22.30** «Гадзіннік спыніўся апоўначы». Мастацкі фільм.
**00.05** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Сяргея Каткова.
**00.35** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.00** «НТБ раніцай».
**08.45, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40, 18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем».
**19.35** Серыял «Дзікі».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Серыял «Пад прыцэлам».

### БЕЛСАТ tv

**07.00, 09.20, 12.15, 14.35, 23.55, 02.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.50** Аб'ектыў.
**09.40** Без рэтушы: «Неабмежаваны магчымасцямі», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**09.55** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Які гумар беларускі?
**10.20** «Парадокс», серыял: 13 серыя.
**11.05, 16.40** «Праклятыя і забытыя», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**13.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**14.10** Аб'ектыў.
**14.55** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Які гумар беларускі?
**15.20** Эксперт (сатырычная праграма).
**15.55** «Парадокс», серыял: 13 серыя.
**17.50** «Сага старадаўняй пушчы», дак. серыял.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.30** Навіны.
**19.50** Сальда (эканамічная праграма).
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.25** Тэатр ваенных дзеянняў.
**20.30** Рэпартэр.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45, 02.40** Два на два: Сяргей Жбанаў і Мікіта Бяляеў: Ці здолее Захад паставіць Украіну на ногі?
**22.15** «Cinema komunisto», дак. фільм, 2010 г., Сербія.
**23.10** «Фальшываманетнікі. Вяртанне Зграі», серыял: 14 серыя.
**01.30** Рэпартэр.
**01.55** Аб'ектыў.

Новы Час | 28 сакавіка 2014 | № 12 (381) | **«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ»** | **№ 3 (91)**




# Літаратурная Беларусь

Выпуск №3 (91)
(сакавік)

**КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ**
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

**lit-bel.org**
**novychas. info**


## Змест





# Гліна і цэгла




*Алег АБЛАЖЭЙ,*

*Беларускае Радыё Рацыя*


**«Это Америка везде свой нос суёт!» — азызлы лысы дзядзька ў аўтобусе тлумачыць палітычную сітуацыю гэткім жа разлезлым і бітым жыццём пенсіянеркам. Гучна, упэўнена.**

Такіх у маім віленскім суседстве нямала. Яны дагэтуль называюць Кальварыйскую вуліцу «Дзяржынкай», многія да нядаўняга часу ўпарта называлі літы рублямі. А калісь, у 90-я, пачуўшы летувіскую мову, якой яны прынцыпова не вывучалі, шыпелі — «фашысты»!

Прадукт расійскіх тэлеканалаў. Падатлівая гліна для крамлёўскіх прапагандыстаў. Для іх усе, хто ў Летуве гаворыць па-летувіску, у Беларусі — па-беларуску, і г.д. — «фашысты» і «нацыяналісты».

Малойчыкі, якія маршыруюць у чорнай форме па Маскве з мадыфікаванай свастыкай, «коловратом», равучы «Зіг хайль!», не фашысты. Патрыёты.

«Ты слышал, что творят бандеровцы в Киеве?» — пытае сусед. Стараюся трымацца ад яго далей — з мылам і мачалкай гэты ягамосць яўна не сябруе.

«А ты ведаеш, хто такі быў Сцяпан Бандэра, чаго ён хацеў?» Маўчыць. Таксама ахвяра РТР ды іншых, так і хочацца сказаць, — не каналаў, а каналізацыі.

Сёння гэтая ліпкая гліна дачакалася свайго зорнага часу ў Крыме і ўсходніх абласцях Украіны. Зрываюць украінскія сцягі, скандуюць — «Путин! Россия!» І палююць на «бандэраўцаў», якія існуюць толькі ў іхняй распаленай фантазіі. У Крыме вітаюць «абаронцаў», узброеных да зубоў.

Лгарства перайшло ўсе магчымыя межы. Вось на радыё істэрычна енчыць нейкі дэпутат Дзяржлумы — «Украіну акупавалі нямецка-амерыканскія інтэрвенты! Толькі Крым нам удалося адстаяць!» Што там той дэпутат. Шчыра гледзячы ў тэлекамеру, сам Галоўнакамандуючы, Прэзідэнт усё яшчэ вялікай краіны, нахабна маніць: «У Крыме няма расійскіх войскаў. Гэта мясцовая самаабарона! А вайсковы камуфляж можа хто заўгодна купіць». Ага, аўтаматы і гранатамёты таксама можна прыдбаць на любым крымскім кірмашыку.

Інтанацыі мне добра знаёмыя. Так у свой час гэбэшны «кум» пераконваў мяне, што ніякіх сакрэтных пратаколаў пры дамове Молатава — Рыбентропа ніколі не існавала...

**Тыя, хто вітаў «вызваляльнікаў», ці не пачнуць плявацца ў іх бок? Крымскія авантуры заўсёды выходзілі для Расіі бокам. Так будзе і на гэты раз**

Народ Украіны таксама да нядаўняга часу быў глінай, калі прагаласаваў за дробнага крымінальніка. Толькі вогнішча Майдану абпаліла яго да стану цвёрдай цэглы. Можна паспрабаваць раскалоць, але вылепіць нічога не ўдасца.

Тыя, што шалеюць на вуліцах Данецка, Харкава і Луганска, размахваючы расійскімі трыкалорамі, гэтаксама, як і іхні кумір Пуцін, жывуць катэгорыямі ўчарашняга дня і не ў стане зазірнуць у бліжэйшую будучыню. Намагацца стаць часткаю Расіі ў наш час — раўнасільна купіць білет на «Тытанік». Бо гэта краіна — калос на гліняных нагах.

У наш час усё вызначаюць перадавыя тэхналогіі. Што можа Расія апроч узбраення і космасу (ды й тут не на першым ужо месцы!)? Ані аўтамабіль талковы зрабіць (дзе тыя Лады-Каліны, што рэкламаваў сам Пуцін?), ані мабільнік ці тэлевізар, ужо не кажучы пра камп'ютары. Нічо-га. Цікава, напрыклад, — сам Пуцін голіцца траскучым «Бердскам» ці машынкай «Філіпс?» І гэтая краіна спрабуе супрацьпаставіць сябе ўсяму цывілізаванаму свету? Уся яе «моц» грунтуецца на нафтагазавай трубе. Але нафта — сыравіна ўчарашняга дня. Няўжо Пуціну не паведамілі памочнікі, што вядучыя аўтамабільныя канцэрны ўжо ставяць у серыйную вытворчасць аўтамабілі з вадароднымі, электрычнымі рухавікамі? А французы сканструявалі легкавік, які працуе на сціснутым паветры.

Газ? Дык залежы сланцавага газу адкрыты не толькі ў ЗША, а і ў Польшчы, Украіне, нават у Летуве. Не трэба быць Вангай ці гадалкай на кававай гушчы, каб прадказаць: пры сучасным імклівым развіцці тэхналогій гэтак жа хутка будзе змяншацца роля нафты і газу ў перадавых эканоміках. І хамскія непрадказальныя паводзіны Крамля толькі паскараюць гэты працэс. А без нафтадаляраў і газавых даходаў эканоміка Расіі з яе дапатопнымі тэхналогіямі і вечна п'янымі рабацягамі ляснецца як картачны домік. І чым тады карміць Асецію, Абхазію і той жа Крым — калі ўдасца яго адарваць ад Украіны?

Зрэшты, ацверазенне крымчакоў наступіць неўзабаве — калі туды не паедуць турысты і курортнікі, калі не адзіная, то галоўная крыніца даходаў мясцовага насельніцтва. І тыя, хто вітаў «вызваляльнікаў», ці не пачнуць плявацца ў іх бок?

Крымскія авантуры заўсёды выходзілі для Расіі бокам.

Так будзе і на гэты раз.

# Беларускія правы

**Дзяржэпартамент ЗША апублікаваў справаздачу аб правах чалавека ў свеце. Беларусь у дакладзе называецца аўтарытарнай дзяржавай, дзе стала парушаюцца правы чалавека. Прадставіў даклад журналістам дзяржсакратар ЗША Джон Кэры.**

У дакладзе сцвярджаецца, што ўсе прэзідэнцкія выбары, якія праводзіліся пасля 1994 года, у тым ліку выбары прэзідэнта 2010 года, не былі ні свабоднымі, ні справядлівымі.

Сярод іншых парушэнняў правоў чалавека называюцца зняволенне людзей паводле палітычных матываў, у тым ліку за крытыку чыноўнікаў і ўдзел у дэманстрацыях, злоўжыванні з боку сілаў бяспекі, якія збівалі людзей падчас затрымання ў дэманстрантаў, катаванні і жорсткае абыходжанне ў турмах.

Улады Беларусі, паводле амерыканскага Дзяржэпа, пераследуюць праваабарончыя групы, палітычныя партыі, няўрадавыя арганізацыі (НДА), адмаўляюць ім у рэгістрацыі, а пасля прыцягваюць да адказнасці за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі.

Таксама ў дакладзе сцвярджаецца, што ў Беларусі маюць месца факты дыскрымінацыі тых, хто імкнецца выкарыстоўваць у грамадскай сферы беларускую мову.

Акрамя таго, як сцвярджаецца ў дакладзе, урад Беларусі абмяжоўвае дзейнасць незалежнага Саюза беларускіх пісьменнікаў і шырока падтрымлівае праўладны Саюз пісьменнікаў. Улады таксама пераследавалі распаўсюджвальнікаў кніг, аўтарамі якіх з'яўляюцца крытычныя і незалежныя пісьменнікі, а таксама кніг на беларускай мове.

**Паводле Радыё Свабода**



# Развітанне

**На пачатку сакавіка на адрас Саюза беларускіх пісьменнікаў з розных куткоў свету з прычыны смерці народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна прыйшлі дзясяткі спачуванняў. Сярод іншых — ад пасла Беларусі ў Францыі Паўла Латушкі, старшыні Саюза пісьменнікаў Швецыі Гунара Ардэліуса, былога пасла Славакіі ў Беларусі Любаміра Рэгака, дырэктара беларускай службы «Радыё Свабода» Аляксандра Лукашука.**

Сёння «ЛБ» публікуе слова на Імшы развітання з нацыянальным геніем прадстаўніка Папы Рымскага Апостальскага Нунцыя ў Беларусі арцыбіскупа Клаўдыё Гуджэроцці.

### Слова Апостальскага Нунцыя Ватыкана ў Беларусі Клаўдыё Гуджэроцці

У той момант, калі Касцёл аддае апошнюю зямную пашану вялікаму паэту, давяраючы яго міласэрнай любові Бога, прагну і я маліцца разам з вамі.

Глыбокае і тонкае мастацтва Рыгора Барадуліна — гэта голас маўклівай душы беларускага народа. У ім паэзія і духоўнасць яднаюцца ў моцных абдымках. Таму нерухомае маўчанне ягонага нежывога цела можна ўспрымаць як апошні жэст творчасці гэтага хрысціяніна і паэта.

Мова — гэта інструмент, якім карыстаецца Бог, каб размаўляць з народам. Таму яна святая і вартая, каб яе шанавалі і любілі, як маці. На гэтым інструменце Рыгор Барадулін умеў выконваць дзівосныя мелодыі і дазволіў беларускаму народу сваёй мовай дакрануцца да вышынь прыгажосці.

Барадулін хацеў таксама, каб шляхетныя паэты іншых культур маглі паўтарыць свае спевы на беларускай мове. Разам з іншымі незвычайнымі аўтарамі ён прычыніўся да перакладу «Рымскага Трыпціха» Яна Паўла II, якога крыху больш чым праз месяц Каталіцкі Касцёл абвесціць святым.

Веру, што беларусы, якія разам з іншымі святымі жывуць у ззянні Божага свята, выйдуць яму насустрач, каб падвесці яго да Бога. І, быць можа, Бог прывітае яго ў сваім доме простымі словамі, якімі беларускае сэрца вітае гасцей: «Калі ласка, Рыгор».

Дарагія беларусы, любіце вашых мастакоў — вялікіх і шматлікіх. Яны вучаць вас уздымаць свае вочы ўгору, да Бога надзеі, да жыватворнага сонца, якое ззяе ў вашым вечна прывабным небе, абуджаючы ў вас сілы да штодзённага ўваскрасення.

Божа, благаславі Беларусь і яе народ, з яго даверлівай мовай і пяшчотнымі спевамі!

ПАЛІЦА

## Мастак украінскай нацыі

**Да 200-годдзя з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі Саюз беларускіх пісьменнікаў выдаў кнігу твораў украінскага класіка ў перакладзе на беларускую мову — пад назвай «Мастак».**

Юбілейны том выйшаў у выдавецтве «Кнігазбор». Кніга выдадзена дзякуючы спрыянню Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Украіны ў Рэспубліцы Беларусь Міхаіла Ежэля і Ганаровага Консула Украіны ў Гродне Валянціна Байко. І — укладальніка выдання, нястомнага перакладчыка і папулярызатара творчасці ўкраінскага Кабзара — Валера Стралко.

Першы раздзел кнігі «На вечным шляху да Шаўчэнкі» (аб'ёмная прадмова, напісаная Іванам Дзюбам і Міколам Жулінскім, акадэмікамі Нацыянальнай акадэміі навук Украіны) прысвечаны апісанню і аналізу асноўных вехаў жыцця, творчасці і светапогляду Кабзара. Другі раздзел змяшчае паасобныя вершы Тараса Шаўчэнкі розных гадоў. У трэцім — адна з найлепшых аповесцяў класіка «Мастак». Завяршаюць кнігу пасляслоўе старшыні СБП Барыса Пятровіча і шэраг цытатаў з выказванняў вядомых сусветных творцаў і грамадскіх дзеячаў пра Тараса Шаўчэнку.

КРАСАВІЦКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**

11.04.1959 – Сяргей Аляксандравіч Астраўцоў
12.04.1959 – Аляксандр Уладзіміравіч Пятроў
20.04.1944 – Яўген Рыгоравіч Лецка

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!



# «Прачнуцца рунню па вясне...»:

## Прэмія «Дэбют» імя Максіма Багдановіча

**У мінскай галерэі «Ў» у чацвёрты раз уручалі літаратурную прэмію «Дэбют» імя Максіма Багдановіча, заснавальнікамі якой выступілі Саюз беларускіх пісьменнікаў і Беларускі ПЭН-цэнтр пры ўдзеле фундатара Паўла Бераговіча.**




Сёлета ў намінацыі «Проза» ўганаравалі Кацярыну Оаро, у паэзіі — Уладзя Лянкевіча, у перакладзе — Кацярыну Мацёўскую і Сяржа Мядзведзева. Спецпрэміяй адзначылі Дзмітрыя Дзмітрыева.

Вядучы цырымоніі — старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра, літаратар, перакладчык Андрэй Хадановіч — адкрыў вечарыну чытаннем вершаў народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна, які адышоў у вечнасць 2 сакавіка. Прысутныя ўшанавалі памяць Рыгора Іванавіча хвілінай маўчання.

Успомніў вялікага паэта і Павел Бераговіч, відэазварот якога дэманстраваўся на экране.

Лявон Вольскі і Павел Аракелян выканалі песню «Белая яблыня грому» на верш дзядзькі Рыгора. Цягам вечара музыкі выходзілі да публікі некалькі разоў з рознымі, але аднолькава таленавітымі кампазіцыямі.

У склад журы, якое ацэньвала дэбютантаў, увайшлі вядомыя пісьменнікі, перакладчыкі, навукоўцы, грамадскія дзеячы: філосаф, эсэіст Валянцін Акудовіч, празаік Павел Анціпаў, пісьменнік Уладзімір Арлоў, перакладчык, кандыдат філалагічных навук Лявон Баршчэўскі, фундатар прэміі Павел Бераговіч, паэт, перакладчык, літаратурны крытык Марыя Мартысевіч, паэт, ганаровы старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра Уладзімір Някляеў, пісьменнік, доктар філалагічных навук Алесь Пашкевіч, празаік, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч, паэт, перакладчык, старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра Андрэй Хадановіч і празаік, лаўрэат прэміі «Дэбют» 2011 года Наталка Харытанюк.

Сярод намінантаў у шорт-лісце апынуліся аўтары, кнігі якіх пабачылі свет у серыі «Пункт адліку» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў. Напрыклад, у паэзіі ўсе тры кнігі маладых творцаў выйшлі пры падтрымцы СБП, у прозе — «Сарочае радыё» Кацярыны Оаро. «Саламея» Оскара Ўайлда ў перакладзе Кацярыны Мацёўскай апублікаваная дзякуючы серыі «PostScriptum» часопіса «ПрайдзіСвет» таксама пры спрыянні Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Сёлета ў кароткі спіс патрапіла электронная кніга — аповесць Маргарыты Аляшкевіч, выдадзеная ў BYBOOKS, а таксама папяровыя выданні, якія выйшлі ў «Кнігазборы» і «Логвінаве».

Кожны з тых аўтараў, каму пашчасціла трапіць у шорт-ліст, меў магчымасць прачытаць на вечарыне фрагменты са сваіх твораў. За выняткам тых маладых літаратараў, хто па аб'ектыўных прычынах не мог прысутнічаць. Іх прадстаўлялі калегі, блізкія або сябры.

Замест грамадскага актывіста Змітра Дашкевіча, намінанта ў прозе, які на момант уганаравання знаходзіўся ў зняволенні, выступіла яго жонка Наста Дашкевіч. Старонкі з аповесці Кацярыны Оаро, якая цяпер жыве і працуе ў Францыі, агучыў Андрэй Хадановіч.

— Сябрам журы няпроста было прыняць рашэнне і выбраць лепшае з лепшага, усе намінанты будуць заахвочаны, бо ўсе вартыя гэтага. У прозе ў лонг-лісце было 6 намінантаў, колькасць выдадзеных кніг расце, і гэта сведчыць пра перспектыўнасць прэміі імя Багдановіча, — адзначыў Барыс Пятровіч.

Усе намінанты атрымалі прызы ад арганізатараў. А выдавецтва «Логвінаў» паабяцала Маргарыце Аляшкевіч выдаць папяровую версію яе кнігі.

Перакладчыцу Ірыну Герасімовіч прадставіў Віталь Краўчанка (намінантка знаходзілася на кніжным кірмашы ў Лейпцыгу). Кацярына Мацёўская зачытала маналог Саламеі з перастворанай ёй п'есы Оскара Ўайлда. Сяржук Мядзведзеў пераклаў на беларускую мову культавы твор Чака Паланюка «Байцоўскі клуб». Спадзяемся, у найбліжэйшы час прыхільнікі знанага амерыканца змогуць ацаніць яго тэксты на нашай роднай мове.

Лявон Баршчэўскі і Ганна Янкута абвясцілі лаўрэатаў у намінацыі «Пераклад» — Кацярыну Мацёўскую і Сяржа Мядзведзева.

Другі год запар у паэзіі вырашылі ўручаць спецыяльную прэмію (нагадаем, летась яе атрымаў Глеб Лабадзенка за свой праект «Дзіцячая заМова»). Сёлета ўганараваны Дзмітры Дзмітрыеў за візуалізацыю вершаў і кнігу «Ліра спіралі».

Лаўрэатам у галіне паэзіі, якога абвясцілі Валянцін Акудовіч і Уладзімір Арлоў, стаў Уладзь Лянкевіч.

**Віка Трэнас,**
**прэсавая служба СБП**

# «Палац» — у Гомелі

**У Гомелі адбыліся дзве творча-сакавіцкія сустрэчы ў межах прэзентацыі першага нумара літаратурна-мастацкага альманаха Гомельскага аддзялення СБП «Палац».**

Гомельскія літаратары ўслед за пісьменнікамі Берасця, Горадні і Магілёва парадавалі чытачоў плёнам сваёй супольнай працы — пад адной вокладкай аб'ядналіся 35 аўтараў.

Прэзентацыі альманаха ладзіліся ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Францішка Скарыны і Гомельскім педагагічным каледжы імя Л. С. Выгодскага.

На сустрэчах прысутнічалі аўтары альманаха: старшыня Гомельскага аддзялення СБП Анатоль Бароўскі, сябры філіі, паэты Алесь Бардоўскі, Ларыса Раманава, Яўген Сергіеня, Арыя-Ульрыка Гатальская, Ганна Новік, Вадзім Болбас, бард Андрэй Мельнікаў і інш.



**У гасцях у старэйшыны. Злева направа: сядзяць Міхась Даніленка, Анатоль Бароўскі, стаяць у першым шэрагу Барыс Пятровіч, Яўген Сергіеня, Вадзім Болбас, далей Алесь Камоцкі, Алесь Пашкевіч, Усевалад Сцебурака.** Фота Анатоля Бароўскага

У імпрэзах узялі ўдзел запрошаныя мінскія госці — Барыс Пятровіч, Алесь Пашкевіч, Усевалад Сцебурака, Алесь Камоцкі.

Студэнты і выкладчыкі атрымалі прыемныя ўражанні ад сустрэчаў, а таксама — выданні серыі «Кнігарня пісьменніка» ды прызы ад кампаніі «Будзьма беларусамі!».

Падчас візіту ў Гомель калегі-літаратары наведалі аднаго з найстарэйшых пісьменнікаў Беларусі, сябра СБП Міхася Даніленку, які адсвяткаваў сваё 91-годдзе.

**Ул. інф.**

# НАШ І МОЙ



Васіль ЗУЁНАК

**У юбілейны для найстарэйшай творчай арганізацыі Беларусі год мы вырашылі пагутарыць пра перажытае з яе былымі старшынямі — тымі, хто дажыў да гэтай юбілейнай даты (на жаль, Максім Клімковіч, Пятрусь Броўка і Максім Танк ужо не адзін дзясятак гадоў гавораць з Вечнасцю).**

**Васіль Васільевіч Зуёнак узначальваў Саюз беларускіх пісьменнікаў напрацягу лёсавызначальных гадоў — з 1990 па 1998-ы . Старшыні-«аксакалу» мы і прапанавалі адказаць на загадзя падрыхтаваныя пытанні — а ў адказ атрымалі эсэ-ўспамін…**

## Да Саюза

«Набліжэнне» да Саюза было такое ж, як і ва ўсіх равеснікаў-пачаткоўцаў, — з першымі паходамі па рэдакцыях з надзеяй пабачыць свае радкі на друкаваных старонках. Штосьці ўдавалася «абнародаваць» і мне…

Але тое, што «было такое ж, як і ва ўсіх», у мяне абарвалася: сябры ішлі далей, а я прыпыніўся. Менавіта — «прыпыніўся», — не хтосьці «прыпыніў». Сам прымусіў сябе замаўчаць.

Чаму? А таму, што ўсё выразней пачаў адчуваць: трапляю ў нейкі тупік. Пішу правільныя словы, а душой застаюся наўзбоч…

Паэзія — не знешняя, штучна створаная «прыгажосць» са слоў, хай сабе і заплеценых у вянок радкоў, строф, вершаў, — а тая энергія, што выпраменьваецца імі, незаўважна, але адчувальна-насычана. Тое падобна электрычнаму току: нічога не бачна, а дайце кантакт — і ўспыхне святло. Паэзія — перадача духоўнай энергіі, — з аднае душы ў другую. Паэзія — кантакт з чытачом. Без яго, без гэтага кантакта, паэзіі няма — яна мёртвая… Паэзія — пытанні, адказы — у чытача…

Набліжаўся я і да першай сваёй паэтычнай кніжкі. Яна неўзабаве і з'явілася — пры шчырай падтрымцы як старэйшых, так і равеснікаў-сяброў. Рыгор Барадулін вітаў яе ў альманаху «Дзень паэзіі» яшчэ да выхаду ў свет словамі: «Чакаю зборніка!..» «Крэсіва» адзначыў грунтоўнай рэцэнзіяй Уладзімір Караткевіч…

Але ці не пра тое я ўсё, да чаго можна прышпіліць, пры жаданні, ярлычок «самаўхвалення» (бароньбог — «самаўхвалення»)? Не, гэта пра тое, што так ці інакш адбывалася ў гравітацыйным полі ўсё таго ж Саюза — Саюза пісьменнікаў. Пра Саюз агульны — праз маё асабістае…

«Пропуск» на сяброўства ў ім абгрунтавала кніжка «Крэсіва», а рэкамендацыі далі мне Рыгор Бярозкін, Мікола Аўрамчык, Міхась Стральцоў… З такім «рэкамендацыйным шчытом», сапраўды, можна было ісці на пісьменніцкі «ўступны экзамен»…

Можна толькі лічыць за гонар: быць з такімі творцамі ў адным Саюзе.

## Сяброўства ў СП

Не, я не ў крыўдзе на яго, на той Саюз, першымі сябрамі якога былі Янка Купала і Якуб Колас. Шчаслівы, што выпала магчымасць сустрэцца і слухаць самаго Канстанціна Міхайлавіча.. Слова яго было кароткае, але па-бацькоўску шчырае, простае і зычлівае. Гаварыў Якуб Колас, як трэба шанаваць роднае слова, берагчы талент, дадзены Богам, не растрачваць яго попусту…

Саюз даў творчую і жыццёвую падтрымку. А галоўнае — на ўсё гэтае жыццё — сяброўства, таварыскасць. І — школу. Слынныя пісьменнікі, майстры мастацкага слова не адгароджваліся «сцяною Саюза» ад пачаткоўцаў, хто ўступаў на літаратурны шлях. Не магу прыгадаць, каб хтосьці таленавіты быў «заціснуты», «зарэзаны»… А спрыянне і ўвага былі і патрабавальныя, і добразычлівыя… Семінары маладых пісьменнікаў — у Дамах творчасці «Каралішчавічы», потым «Іслач» — праводзіліся рэгулярна і заўсёды сур'ёзна рыхтаваліся…

Помніцца, як перад пісьменніцкай грамадой выступаў са своеасаблівай творчай справаздачай настаўнік, пакліканы з Оршы, Уладзімір Караткевіч, аўтар усяго толькі аднаго надрукаванага ў часопісе «Полымя» верша. Але затое — які гэта быў верш, — «Машэка»! Прачытаў яго паэт, — можна сказаць, паўтарыў, бо ўсе ўжо ведалі тыя строфы, цытавалі напамяць. Прачытаў яшчэ — з ненадрукаванага, — і тут жа прагучала аднадушнае: «Прыняць Уладзіміра Караткевіча ў сябры Саюза пісьменнікаў». Што ні кажыце — мудры быў Саюз! Далёка наперад глядзеў. Прадбачыў — і не памыліўся!

Сяброўства ў Саюзе пісьменнікаў было і прызнаннем, і стымулам. А яшчэ — імкненнем не здрадзіць, быць верным таму, што пакутліва шукаў, да чаго імкнуўся і што аднойчы шчасліва адкрылася мне: быць верным самому сабе — і ў творчасці, і ў непасрэднай рэдакцыйнай працы…

## «Кіраўніцтва»

Што змянілася пасля майго абрання ў «саюзнае кіраўніцтва»? Са мной — амаль нічога, апроч кабінета, стала ды новых абавязкаў. Творча я заставаўся тым жа — самім сабой.

А вось службовых, арганізацыйна-будзённых клопатаў навалілася — дай Божа!.. Але ён жа, здаецца, не адмаўляў і ў спрыянні. Праца побач з Максімам Танкам, Нілам Гілевічам, Іванам Чыгрынавым, Барысам Сачанкам надавала ўпэўненасці, развейвала сумненні…

Саюз пісьменнікаў… Саюз лёсаў, саюз творчых памкненняў і, калі хочаце, іншы раз — амбіцый…

Не, гэта не нейкі «агульны кацёл», у якім гатуецца «кніжнае варыва»…

Мудра вызначыў паэт Анатоль Вярцінскі духоўна-маральную катэгорыю — «чалавечы знак». Кожны мае яго, і ў кожнага ён свой, асаблівы, і да кожнага ёсць адзіна-непаўторны ключык, эксклюзіўны, як сказалі б сённяшнія інтэлектуалы. А калі чалавек творчы, катэгорыя гэтая ўзрастае, наэлектрызоўваецца ў разы…

У разуменні чалавеча-духоўных і мастацка-творчых лабірынтаў і ў стаўленні да іх несумненны прыклад падаваў Максім Танк. Ён не дапускаў і спробы, каб узвысіць сябе над кімсьці, да кожнага ён знаходзіў адметнае слова, заўсёды сказанае проста, па-таварыску. Ніякай «фанабэрыі», — заклапочанасць дык заклапочанасць, жарт дык жарт, шчыра, ад душы…

Мая сакратарская «дзялянка» ў Саюзе пісьменнікаў вызначалася працай секцыі паэзіі і Дома літаратара. І трэба падкрэсліць, што якраз на яго базе — Дома літаратара — пераважна і снавалася літаратурна-творчае жыццё. Паседжанні секцый, тэматычныя і юбілейныя вечары, сустрэчы… Планы метадычнага аддзела Дома літаратара заўсёды былі насычаныя і змястоўныя. І як тут не прыгадаць шчыраўніц — сур'ёзную і засяроджаную Марыю Арочка, а пасля — узнёслую і летуценную Ірыну Марачкіну. Захапленню і стараннню іх не было мяжы. І ніякай мітусні, адладжаны рытм. Гэта з захапленнем адзначаў і мой «зменшчык» на сакратарскай пасадзе Алесь Пісьмянкоў… Амаль усе вечары Дома літаратара — з удзелам акцёраў (пераважна купалаўцаў), спевакоў, музыкаў — запісваліся з наступнай трансляцыяй на ўсю рэспубліку. Гэта быў росквіт тэле- і радыё-літаратурнага супрацоўніцтва. Нагадаю: там, начале Белтэлерадыё, быў у нас свой чалавек — выдатны паэт Генадзь Бураўкін.

Літаратурныя сустрэчы на самых розных прадпрыемствах — і гарадскіх, і сельскіх (самага разнастайнага профілю), у навучальных установах выклікалі ў людзей шчырую зацікаўленасць. Пісьменніцкія выступленні, якія арганізоўвала наша Бюро прапаганды мастацкай літаратуры, здаецца, не абмінулі ніводнага, самага аддаленага раёна і кутка Беларусі…

Усё гэта абуджае сёння толькі настальгічныя ўспаміны… Так было. Але…

## Новыя «гаспадары»

Але падступіліся падзеі 90-х гадоў… Яны і кінулі Саюз у «кратар». Пачалася не праца, а барацьба за выжыванне. Першым аб'ектам супраціву стаў Дом літаратара, дзе на той час знаходзілі сабе прытулак «лятучкі» актыву непажаданага для ўладаў дэмакратычнага грамадзянскага руху з непажаданымі ідэямі і планамі. А гэта не магло заставацца незаўважаным. Не дапамагло і тое, што дырэкцыя Дома літаратара прапанавала пэўную «маскіроўку» — афармляць арэнду (за сімвалічную плату), — «рыначныя адносіны», маўляў… Паступіла высокая рэпліка — «прыкрыць гняздо»… А разам з тым — распараджэнне перавесці Дом літаратара на баланс Упраўлення справамі прэзідэнта. А тое азначала прыход новага гаспадара з яго парадкамі, службамі і вартаю…

Так яно потым і атрымалася…

Але перад гэтым доўжылася ці не пару гадоў «перацягванне каната». Саюз пісьменнікаў усімі спосабамі імкнуўся давесці, што Дом літаратара — яго ўласнасць, што ён будаваўся на сродкі Літфонда, а з супрацьлеглага боку налягалі розныя праверкі з адзінай мэтай пацвердзіць дакументальна дзяржаўнае фінансаванне. Гэтая акалічнасць акцэнтавалася асабліва, бо Дом літаратара трапіў у «пераводны» спіс разам з іншымі арганізацыямі, статус якіх з самага пачатку вызначаўся як дзяржаўны, а ў нашым выпадку — «аб'ект», так бы мовіць, грамадскага (ды яшчэ і творчага) чыну… У спрэчку была падключана цытата з выступлення П. М. Машэрава на пісьменніцкім з'ездзе ў новым будынку Дома літаратара, дзе падкрэслівалася, што гэта падарунак пісьменнікам ад дзяржавы. А калі так, значыць, і фінансы задзейнічаны дзяржаўныя…

Дамовіліся правесці дэманстрацыю пратэсту — на вуліцы: «Фрунзе — 5, Будынак Дома літаратара»… Ды такая ўжо ў нас даўняя, закажанелая звычка: махаць кулакамі «да» і «пасля». А ў самы неабходны момант рашуча «скіснуць», знікнуць…

Лежачы на печы (седзячы за пісьмовым сталом), усе, выяўляецца, храбрыя. А вось жа як спатрэбілася сабрацца ля Дома літаратара, дык нават той, хто абяцаў уласным целам трымаць абарону на ганку, не з'явіўся… Праўда, і наяўных пратэстоўцаў хапіла, каб «запоўніць» адведзеную для пікета колькасць…

Нарэшце, бадай ужо на апошнім парозе ў «хаджэннях па ісціну»: Вярхоўны гаспадарчы суд РБ.

Вяла нашу справу абаронца, дарэчы, не толькі выдатны юрыст, але і паэтка — Вера Страмкоўская. Дык вось і тут суддзя, як колішні аднакурснік, сказаў прыкладна тое ж самае «па сакрэце»: «Справа бесперспектыўная…»

Завяршэнне — фактычнае закрыццё Дома літаратара. Знікла нават сама назва: на будынку замест шыльды з адпаведным надпісам з'явілася: «Адміністрацыйны корпус №… і г. д.»

«Увага» ж да Саюза пісьменнікаў не абмежавалася адным Домам літаратара (ды і не магла «абмежавацца» — не тое задумана было)… За гэтым, як паказаў час, падаспелі і іншыя «дзяржаўна-адміністрацыйныя» наступы…

А тое, што ніякага змагання за Дом літаратара не патрабавалася, пацвердзіла «трыумфальнае ўваходжанне» ў будынак новаўтварэння — «Саюза пісьменнікаў Беларусі»…

Успомнім, што назва гэтая «прысвоена»: яе меў наш Саюз пісьменнікаў ад самага пачатку, ад заснавання ў 1934-м годзе, а потым, пад час, пра які ідзе гаворка (другая палова 90-х гадоў), адбылося перайменаванне ў «Саюз беларускіх пісьменнікаў» — паводле забароны ўжываць слова «Беларусь» у назвах грамадскіх арганізацый… А во, бачыце, і « забарона» не дзейнічае…

Новаўтварэнне гэтае, пэўна ж, і сталася тым «замоўленым» крокам. І адразу ж пайшлі сустрэчныя прэферэнцыі…

А ў прынцыпе гэта быў удар па пісьменніцкаму адзінству, якое не адно пакаленне славутых майстроў літаратуры мацавала сваім аўтарытэтам, а потым адстойвала і абараняла як гарант у змаганні за родную мову, нацыянальную культуру, духоўную спадчыну народа. Нагадаем тут прысвечаны гэтаму апошні ліст Народнага песняра Якуба Коласа, ліст у ЦК КПБ, ліст-папярэджанне і ліст-запавет… Нагадаем, што і аксакалы, на якіх меліся «разлікі», — народныя пісьменнікі Іван Пятровіч Шамякін ды Іван Якаўлевіч Навуменка, — не падтрымалі «новаўтварэнне», пажадалі застацца вернымі Саюзу, якому аддалі ўсе свае творчыя гады, Саюзу купалаўска-коласаўскаму.

Альтэрнатыва адзінству ў нашай сітуацыі нясе толькі адмоўны знак. Мацаваць трэба згуртаванне, а не разбураць…

А можа, і добра: раздзяліўшыся, аб'яднаемся?. Думка «ерэтычная» — але ж мы бачым, як узрастае маладое, вясновагалосае дрэва: шэрагі Саюза беларускіх пісьменнікаў папаўняюцца, умацоўваюцца — ідзе таленавітая моладзь. А гэта — і надзея, і гарантыя будучыні нашай літаратуры.

«Расці, умацоўвайся, дрэва», — скажам словамі Максіма Багдановіча. І пацвердзім Пушкінскімі: «Сябры мае, цудоўны наш саюз!..»

**(Поўную версію тэкста можна прачытаць на сайце СБП www.lit-bel.org)**

### З рэкамендацыі Васілю Зуёнку на ўступленне ў СБП

«<…> Новыя мастацкія магчымасці аўтара яскрава раскрыліся ў зборніку «Крэсіва», які вылучае зайздросная сталасць паэтычнай думкі, высокая культура радка, умелае, творчае выкарыстанне фальклору, далёкае ад бяздумнай стылізацыі і саладжавай падробкі пад народнасць. <…> Аўтар знайшоў для сябе (і не толькі для сябе) удалае творчае вырашэнне нядаўніх спрэчак пра традыцыйнае і наватарскае, у сваёй паэтычнай практыцы не супрацьпастаўляючы адно другому. Прыклад, варты ўвагі і глыбока павучальны.

Несумненна, В. Зуёнак варты быць членам Саюза пісьменнікаў.

Міхась Стральцоў.

# Нашых дзён крыгаход



Ірына ЖАРНАСЕК

## Хлеб

Воглым кастрычніцкім ранкам, калі ці то смуга шчыльнага туману, ці то смог нафтавага горада спавівае дрэвы, апошнія восеньскія кветкі ды ліхтары з надакучлівым жоўтым святлом, якое зноў забыліся значы выключыць, блукаю па скверы каля майго дома і не магу адчапіцца ад навязлівых слоў: «Вось вам хлеб!».

Адкуль яны? Хто калі мне іх казаў? Альбо нехта некаму іншаму казаў іх, а я пачула? Але дзе і калі?

«Вось вам хлеб!»

Штосьці злоснае ў іх, здзеклівае, нядобрае…

«Вось вам хлеб!»

Чаму гэтыя словы ўроіліся мне сёння ў галаву ды выгналі з цёплага жытла ў кастрычніцкую воглую раніцу? І чаму я не хачу падумаць, што яны зусім нязлосныя, а наадварот… добрыя? Гасцінныя… «Вось… вам… хлеб!..»

Але ўгаварыць сябе не ўдаецца. Я чую гэтую злосць! Ненавісць. Чую яе спінаю, плячыма, штосьці горкае падступае да горла. Настаўляю каўнер, быццам спадзяюся абараніцца ад незразумелай няўтульнасці тых словаў, сціскаю ў кішэнях курткі кулакі і… успамінаю іх, гэтыя словы. Дакладней, не словы, а… боты. Бачу чорныя боты, што топчуцца па хлебнай рошчыне. Чорныя наваксаваныя боты энкавэдзіста — па свежай рошчыне. Побач на баку ляжыць дзяжа, з яе паволі выплывае ў пясок апошняе цеста. Воддаль дрыжаць ад сцюжы й страху дзеці — адзін пад адзін. «Вось вам хлеб!» Іхняя маці плача: яна нарабіла бяды — папрасіла чалавека ў ботах злітавацца, не выганяць яе з дзецьмі гэтак паспешліва з іхняе ж хаты. Бо яна рашчыніла цеста! Куды ж яны, без хлеба?!

Тады ён і вывернуў на зямлю дзяжу з рошчынай ды пачаў па ёй таптацца. Нават наваксаваных ботаў не пашкадаваў — такой ненавіснай аказалася для яго пахкая рошчына, якая магла б стаць цёплымі боханамі на кляновых лістах, што ляглі б адзін пры адным на белы ільняны абрус у іхняй хаце. Але абрус не дачакаўся хлеба. Бо прыйшоў ён…

«Вось вам хлеб!» — роў ён ды змешваў з зямлёю хлебную рошчыну, ператвараў яе ў гразь.

Потым іх пасадзілі на павозку і павезлі ў ноч. Дзеці плакалі, туліліся да маці, шукалі абароны. Іхняга бацьку вывезлі ў гэткую ж няветлую ноч два месяцы таму. Цяпер прыйшла новая ноч.

Павозка спынілася на мосце цераз нейкую раку. Ім загадалі злазіць… Потым ім пад ногі скінулі хатулі, якія мама похапкам паспела сабраць, пустую дзяжу, кошык з бульбай, што стаяў на падворку, і ночвы.

Ліў дождж. Была чорная ноч. Аберагаючы самага меншанькага, маці накрыла яго ночвамі…

Я пачула гэтую жудасную гісторыю ад жанчыны, якая ў той даўні вечар не спякла хлеба сваім дзецям. Ад хлопчыка, цяпер мажнога мужчыны з задумліваю тугой у вачах, якія ўсцяж узіраюцца кудысьці ўглыб, ад таго хлопчыка, якога захінулі ад сцюдзёнага дажджу ночвы. Мне распавядалі яе тыя, што ў тую даўнюю, сцюдзёную ноч дрыжэлі на мосце ад холаду й страху. А таксама тыя, што ніколі не бачылі ні таго маста, ні дажджу, ні той хлебнай рошчыны на іхнім панадворку. Але яны ведаюць, што жывуць на гэтым свеце таму, што маці, чый хлеб быў растаптаны, сумела яго сабраць. У іншым месцы. Яна знайшла ў сабе сілы прайсці цераз той мост, той дождж, праз усё тое, што чакала іх за тым мастом і дажджом. Яна сумела рашчыніць новую рошчыну, спячы хлеб і выгадаваць сваіх дзяцей.

…Нялёгкая гэта праца — збіраць растаптаную рошчыну ды пячы новы хлеб.



Фота www.holper.by

**Бачу чорныя боты, што топчуцца па хлебнай рошчыне. Чорныя наваксаваныя боты энкавэдзіста — па свежай рошчыне. Побач на баку ляжыць дзяжа, з яе паволі выплывае ў пясок апошняе цеста**

## Кава

Зварыла каву. Не выпіла сама і гасцей на яе не паклікала, а ўліла ў тэрмас і панесла тым, хто, не зважаючы на мароз і сцюжу, не жадаў развітацца з марай аб свабодзе. Ды толькі напаіць тых упартых летуценнікаў ёй не ўдалося, бо і сама заплаціла за свой учынак сямі соднямі свабоды.

Мая цёзка… Паэтка… Чые вершы такія паветраныя, лёгкія, а часам… з гаркавым прысмакам чагосьці палыновага. Можа, гэта прадчуванне нявыпітай на пляцы Каліноўскага кавы ў імя свабоды?.

Калі я пачула пра тую нявыпітую каву, я ўпершыню пашкадавала, што жыву далёка ад гасціннай гаспадыні. А я?

Што зрабіла б я, калі б была ў тыя дні бліжэй? На жаль, я не ўмею заварваць смачнай кавы, бо сама вырасла на зёлках. Дык у той вечар, напэўна, спякла б пірог. І прынесла б яго тым, хто адважна мерзнуў, зусім не разлічваючы на каву з пірагом.

І тады, магчыма, мы разам з ёю гаманілі б цэлых сем содняў… Пра літаратуру. Тыя ж, з калідора, лічылі б нас звіхнутымі. А зрэшты, і без нашых сямісодневых гутарак яны гэта ведаюць цвёрда.

Усё гэта магло б быць… Ды я жыву занадта далёка ад аўтаркі вершаў з палыновым прысмакам ад нявыпітай на пляцы Каліноўскага кавы. І ўпершыню адчуваю сябе вінаватай з гэтае прычыны. Бо таго вечара я не спякла пірага. І ў нас не было сямісодневых гутарак пра літаратуру.

«Але гэта лёгка выправіць», — нібы чую голас кагосьці нябачнага з калідора.

Голас таго, каму нецікавыя нашы гутаркі пра літаратуру. Ён і без іх ужо стаміўся.

## Графіці

— Як яны абрыдлі ўжо, гэтыя мазюкалы! — бурчыць дама з шыкоўным рудым шыньёнам на галаве, нібы выплыўшы раптам з 70-х. — Во! Учора ішла каля гэтага дома і яшчэ была сцяна чыстая, а за ноч ужо напэцкалі пра сваю Еўропу… Я такіх садзіла б у карцары без права перапіскі!

Дама спяшаецца ў святыню на ранішняе набажэнства. А я, спалохаўшыся за будучых насельнікаў перапоўненых карцараў, знаходжу, як мне выдае, жалезны аргумент для абароны невядомых мне мастакоў.

— А вы чулі, — радасна прыгадваю я, — што святы Максіміліян Кольбэ таксама маляваў на сценах графіці! Калі Польшча была, як кажуць палякі, «пад заборам расейскім», ён маляваў на сценах аднагаловага арла ды пісаў:«Ешчэ Польска не згінэла!»

— Калі гэта было? — паўзуць у дамы начорненыя бровы пад самую стрэшку рудога шыньёна.

— Калі ён быў такі, як яны, — ківаю я на размашысты надпіс на сцяне пра Еўропу ды пра нас, каму, на думку аўтараў, не шкодзіла б там апынуцца.

Пабожнай даме яўна недаспадобы неабачлівыя ўчынкі святога Максіміліяна. Яна хмурыць бровы, напружана думае, а потым выгуквае свой аргумент з такой пераможнай радасцю, быццам ёй нарэшце пашэнціла ў супер-лато на БТ:

— Ну дык і скончыў гэты твой Максіміліян у газавай камеры!

Ад неспадзяванага ўдару пад саменькую дыхавіцу я слізгаюся на лёдзе, прыцярушаным лёгкім сняжком, і падаю. І ўжо з долу гукаю ёй свой апошні аргумент:

— Але ж ён сам туды пайшоў! Ён пайшоў у газавую камеру… за іншага чалавека!..

— І што, гэта разумна? — смяецца дама ды падае мне руку.

Я маруджу. Я чамусьці зусім не маю ахвоты падымацца з гэтага лёду, з белага снегу, пад якім схаваўся слізкі лёд. Мяне апаноўвае раптоўная прага малітвы.

— Святы Максіміліяне! — малюся я, не адрываючы вачэй ад белага снегу, — будзь нябесным апекуном для гэтых аўтараў графіці! Ты іх разумееш…

## Вялікі Чацвер

На прыступках касцёла брудны, даўно няголены чалавек у пакамечанай хламідзе, што ліха ведае калі бачыла апошні раз ваду, просіць міласціны.

— Калі можа пані чым-небудзь памагчы… — мармыча ён, апусціўшы долу даўно патухлыя вочы, і ў ягоных шэрых, нібы попел, руках уздрыгвае гэткага ж попельнага колеру поліэтыленавы пакет з пакамечанымі грашовымі паперкамі.

Людзі праходзяць паўз яго ў касцёл. Напэўна многія хацелі б з ім размінуцца, але іншых дзвярэй у святыню няма і яны вымушаныя ісці тут. Некаторыя моўчкі кідаюць у шэры пакет грошы і, не даслухаўшы пажадання здароўя ад непажаданага чалавека, адчыняюць цяжкія дзверы. Некаторыя праходзяць міма, і на іхніх тварах не ўздрыгвае ніводная рыска. Некаторыя дакорліва і адначасна спачувальна хітаюць галовамі. Зрэдку хтосьці з мінакоў не вытрымлівае і бурчыць: «Дзе вас толькі няма! Пад кожнай крамай стаіцё, папрашайкі няшчасныя, а цяпер і сюды дабраліся». Тыя, што кідаюць гэткія рэплікі, рэдка бываюць у касцёле, яны хутчэй за ўсё — з «двухразовых наведнікаў», з тых, што прыходзяць у касцёл на Каляды і Вялікдзень. Бо калі б яны былі тут часцей, дык заўважылі б, што «папрашайкі» дабраліся на гэты ганак нашмат раней за іх.

Маладая сям'я — мама, тата і двое малых, адзін з якіх яшчэ бяспечна дрэмле сабе ва ўтульным маміным жываце, а другі бесклапотна падскоквае побач з бацькамі — спыняюцца каля жабрака, і пасля кароткай сямейнай нарады малы кладзе ў шэры пакет грошы ды застывае з адкрытым ротам каля бруднага чалавека. Маці бярэ яго за руку, вядзе далей, а ён азіраецца колькі разоў, і ягоная ўвага адцягваецца ад бруднага чалавека пасля татавых словаў да мамы: «Вытры вільготнай сурвэткай Даніку рукі».

Высокі мужчына ў скураным паліто і чорным капелюшы пазвоньвае ключамі ад чорнага «бумера», якому ён знайшоў-ткі адпаведнае месца на прыкасцельным невялічкім пляцы. Яшчэ заняты нядаўнім няпростым клопатам, не заўважыў чалавека на прыступках і не пачуў ягонага: «Калі можа пан чым-небудзь…» А можа, той і не прасіў у яго?. Можа, мне гэта выдалася?

— Я табе хлеба, чалавек, прынесла, — старая жанчына ў квяцістай хустцы, успёршыся на кій ды аддыхаўшыся, дастала з сумкі бохан хлеба ды палову кавалка масла «Крестьянское». — Куды табе тут? — узняла вочы на жабрака. Ён сунуў бохан пад паху, а масла ў кішэню сваёй хламіды, з падранай кішэні якой яно слізганула яму пад ногі. Яны абодва нахіліліся яго падняць ды стукнуліся галовамі. Жанчына засмяялася:

— Во! Радней будзем!

— Навошта табе, добрая ты душа, гэткае сваяцтва? — прахрыпеў жабрак і цяжка закашляўся.

З касцёла данесліся гукі аргана — пачыналася Імша.

# Будзе сонца!

## Свой час

Калі сядзець на беразе мора Альбаран і глядзець у бок Афрыкі, то можна метафізічна адчуць, што такое ўскраек Еўропы. Назва мора паходзіць ад назвы невялікай выспы, а яго імя адносіць нас да іспанскага albor — 'беласць', 'світанак', 'пачатак'. А беласць, як вядома, — гэта наша ўсё. Альба Рутэнія, БНР, Радзіма-мая-дарагая. Самі разумееце...

Іспанка Ангела Эспіноза ніколі не была ў той Беларусі-Альба Рутэніі-Крывіі. Але яна піша вершы і прозу па-беларуску. «Лупіць» на тарашкевіцы ў сваім блогу. І жыве яна на беразе мора Альбаран.

Калі сядзець на беразе Сожа і глядзець у бок Азіі, адчуванне краю Еўропы набывае прыроду фізічную. Канкрэтную, як загад чырвонага камандзіра. Ёсць меркаванне, што людзі, якія атачаюць еўрапейскую прастору і прапускаюць яе мяжу праз сябе, хутчэй разумеюць адно аднаго. Можа быць, публікацыя беларускамоўнай іспанкі — якраз выпадак такога паразумення?

Студэнтка з далёкай краіны, яна плакала дзве гадзіны, калі Рыгор Барадулін пайшоў ад нас у лепшы свет. Але, здаецца, што і гэты свет не такі дрэнны, калі іспанцы пачалі пісаць па-нашаму без перакладчыкаў. Тут толькі здаецца, а зверху бачна лепш. Усе вучні калі-небудзь сустракаюць сваіх настаўнікаў, і кожнай сустрэчы — свой час. У сваім месцы, на сваёй мяжы.

**Алесь Плотка, беларус свету**



Ангела ЭСПІНОЗА

## Вайна

*А ў запале бітвы*
*У (цяпер нашым) горадзе ціха,*
*І ў пакоі цёпла.*
*У трывожным спакоі ночы*
*Сьнег падае павольна.*
*Толькі каля белага будынка,*
*Дзе працуюць шэрыя мужчыны і жанчыны*
*(Цяпер таксама ноччу)*
*Гараць сьвечкі, зьнікаюць кветкі*
*Белыя, чырвоныя, блакітныя, жоўтыя...*
*Яны ў цемры ўсе аднолькавыя.*
*Кроў на камянях плошчы,*
*Новая, сухая,*
*Металічны смак удару*
*(Ці ўспамін пра яго):*
*Усё ў цемры аднолькава.*
*Сьлёзы.*
*Разьвітаемся. Цалуемся.*
*Ты кажаш: «я цябе кахаю»,*
*Я кажу: «я таксама».*
*Мы кажам: «беражы сябе».*
*Думаем, «які складаны час, каб закахацца!».*
*Гэтага ня кажам.*
*Ідуць танкі.*

## Пасьля вайны

*Так застаўся пакой пасьля вайны:*
*Чатыры апельсіны ў пакеціку,*
*(Ці, можа, толькі тры).*
*Твой пах у паветры. Мой пах.*
*Наш з табой пах.*
*Палова бутэлькі віна,*
*Мора пасьцельнай бялізны,*
*Скрынка чагосьці салодкага*
*(Пустая, вядома),*
*Ружы, чырвоныя ружы на падваконьніку.*
*Маё сэрца. Тваё сэрца.*
*Наша з табой сэрца.*
*На падваконьніку паміраюць.*
*І ўспаміны...*
*Так застаўся пакой пасьля вайны.*
*(Нашай з табой вайны).*

## Бездапаможнасьць

*Чаму не згасла сонца?*
*Чаму не пераапранулася неба*
*У чорныя хмары?*
*Чаму не замаўчаў сьмех?*
*Чаму не перасталі гуляць дзеці*
*На вясёлай вуліцы?*
*Чаму, усё ж такі, пачалася вясна?*
*Чаму вярнуліся чорныя ластаўкі*
*Да нашага гаўбца?*
*Чаму цябе няма?*
*Чаму яго няма?*
*Чаму радуюцца людзі?*
*Хіба не бачаць, што няма паэзіі?*

## Зямля...

*Зямля, круціся хутчэй,*
*Каб я згубілася ў часе!*
*Каб я нічога ня бачыла,*
*Каб ня чула,*
*Каб не адчувала.*
*Зямля, круціся хутчэй,*
*Каб я таксама*
*Хутчэй сьпявала*
*У чароўным лесе,*
*Дзе стаіць старадаўняя вежа нашых мараў.*
*Зямля, круціся хутчэй,*
*Ператвары мяне ў птушку,*
*Каб я глядзела зьверху на турботу,*
*Каб нарадзілася ад цябе зноўку,*
*Сярод попелу.*

## Пад зямлёй

*Гадзіны павольна ходзяць,*
*Калі холад, ноч і адзінота.*
*Малады хлопец чысьціць бруд з ботаў,*
*У соты раз перачытвае яе ліст,*
*Словы якога даўно страцілі значэньне.*
*«Сумна жыць духам, ды без душы...»*
*Моцна трымае халодны метал.*
*Да зараніцы яшчэ чатыры гадзіны;*
*Як усё ціха! Як усё цёмна!*
*Да пацалунку яшчэ адзінаццаць месяцаў*
*і шэсць дзён;*
*Як крычыць сэрца!*
*Як плачуць яе зялёныя вочкі!*
*Думае пра ўсякія дурасьці:*
*«А можа, маюць рацыю з гэтым словам...*
*Мы пад зямлёй жывем».*

## Будзе

*Ды зноўку будуць мары, будзе сонца,*
*І будуць бегаць коні па дарогах,*
*Будзе гучаць твой голас на спатканьні,*
*Будзе каханьне!*

*Ды будуць кветкі новыя ў нашых сэрцах,*
*Будзе вясна ў душы, цяпло, прыемна,*
*Будуць зьзяць зоркі ды новая эра,*
*Будзе вера!*

*Ды будуць сьлёзы, дабро, зло ды шчасьце,*
*Будуць песьні, прыгожыя дзяўчаты,*
*Зноў будзе сьмех, пачуцьцяў сінэстэсія,*
*Будзе паэзія!*

## Згушчаныя гісторыі. Беларусь. Мужчынская серыя.

*I. Ён ніколі не губляў надзеі, хоць сітуацыя была сапраўды цяжкая, і краіна, за якую ён змагаўся, не была цалкам яго. Ён нават не падумаў пра магчымасьць кінуць сваю касу і бегчы. Пачуўшы размовы вакол (адну на беларускай мове, другую на польскай), ён адчуў сябе неяк мацней. Кожная сям'я накіравала здольнага маладзёна, каб прадстаўляў яе ў гэтай вырашальнай вайне — і адчуванне сябе часткай чагосьці суцяшала яго. І, па праўдзе кажучы, думкі пра свой лёс па-за адзіным грамадствам, якое ён ведаў, яго палохалі.*

*II. Два дні прайшлі з моманту, калі ён увайшоў ва ўсходні форт цытадэлі. Два дні прайшлі амаль бяз шуму, насычаныя слабым пахам пораху і тоўстых, чырвона-цагляных сьцен крэпасьці. Ужо бракавала прадуктаў харчаваньня; яго таварышы распавядалі гісторыі, каб прабавіць час, ня згадвалі пра адсутнасьць контратакі і пра тое, што іх засталося няшмат. Нас ня больш за чатырыста, ён падумаў, пагледзеўшы вакол. Але я не пакіну крэпасьць, і яны таксама.*

*Выбух прагучаў рэхам, як голас Бога. Асьляпляльнае сьвятло. Абсалютная цемра.*

*III. Яшчэ ён бачыў, як на сьвітаньні кідаюць целы яго таварышаў на сьнег, на зьдзеныя ваўкам. Потым прывезьлі новых (яны маладыя, падумаў ён з горам). Іх твары ён беспасьпяхова стараўся не запомніць. Калі б не яго непарушная вера, праца і невыносны холад яго б забілі за два гады. Зьнясіленьне зноў заваявала яго зацёклыя канечнасьці. Ноч была цёмная, калі ён вярнуўся ў яму, дзе ўсе яны (ўсе трыста) разам спалі. Яны сапраўды не былі вартыя нават аднаго патрона. Ён маліўся.*

*IV. Юнак так і не зразумеў, што зь ім здарылася. Магчыма, гэта было праз стомленасьць чуць хлусьню, або ад звальненьня з працы, або чыстая цікаўнасьць. Ён сышоў на плошчу, нават не папярэдзіўшы сваю бабулю. Ён ішоў і сьпяваў, і пляскаў разам зь іншымі, нібы ў нейкім трансе; ён нават некалькі хвілінаў трымаў канец банэра. Яго цела пакінула малінавы сьлед на белізьне сьнегу. Хіба гэта была дрэнная прыкмета? Знак надзеі? Юнак так і не зразумеў, што зь ім здарылася.*



## Прашу прабачэньня

*Ноч. Маладая дзяўчынка глядзіць на мяне праз шкло. У яе чорных вачах калісьці гарэў агонь. Гэта відавочна. Цяпер — адна пагарда. Яна нічога ня кажа; толькі глядзіць. Але я, здаецца, усё разумею. На бледным яе твары зіхціць сьвятло страчанай нявіннасьці і апошняга чыстага каханьня. Яна ледзь жывая, а якая пагарда... Гучаць ува мне словы польскай песьні... A w sercu już, zamiast krwi popioły tylko i kurz... Так, у сэрцы засталіся толькі попел і пыл. «Паэтам», яна кажа шэптам і жорстка ўсьміхаецца, «трэба таксама спаць». Яна сьмяецца. Я разумею, што я не ведаю. Ёй амаль 18 гадоў. 17 назаўсёды. Яна ўсё ж сьмяецца і незямным голасам мне распавядае, як кепска плакаць за каханка... «Ты, о паненка, з іншага боку шкла», кажа ўрачыста (а я старэй за яе, мне цяпер амаль 21), «каго любіш?», пытаецца. Яна, зразумела, сьмяецца зь мяне. І слушна. «Паэтам трэба таксама спаць, і здзічатам таксама», яна кажа. Сьмяецца. Я маўчу і плачу. Я ведаю, што за тры гады нічога не дасягнула. У мяне адна пантаміма. У яе адна пагарда. «Даруй», я кажу. «Ідзі спаць», яна адказвае. «Прашу прабачэньня». «Паэтам», яна прамаўляе гэтае слова з агідай, «трэба таксама спаць».*

*Раніца. Люстэрка паказвае малады твар з цёмнымі кругамі пад вачыма. У галаве толькі адна думка: «Уставай, пішы, твары!». У вуснах адна фраза: «Паэтам трэба таксама спаць». А ў сэрцы ўжо толькі попел і пыл? Не, ёсць раскаяньне, ганьба і абяцаньне ўсё выправіць. А ўсё ж такі на імгненьне здаецца, што яна ўсё сьмяецца...*

## Яму

*Калі я была зусім маленькая (а я навучылася чытаць даволі рана), я мела кучу кніг народных казак, і гішпанскіх, і замежных. Я доўгія гадзіны чытала ды чытала; вядома, я менавіта там упершыню пачула слова «каханьне».*

*Цяпер я вялікая, чытаю класічную літаратуру, але ўнутры часам адчуваю сябе як спуджаная дзяўчынка. Чаму, вы пытаецеся? Распавяду.*

*Калі я ў дзяцінстве чытала пра каханьне, прынцэсы не павінны былі страціць яшчэ 5 кілаграмчыкаў, прынцы мелі здаровыя ногі, і абсалютна ўсе захапляліся рыцарам у зіхоткіх дасьпехах. Тады лёгка было выдаліць дрэнных цароў і заўсёды знаходзіўся спосаб, каб не аддаць першароднага дрэннай ведзьме. Калі я ў дзяцінстве чытала пра каханьне, самога каханьня заўсёды было дастаткова і можна было пераадолець самыя вялікія адлегласьці за ноч. Кароль і каралева былі заўсёды рады аддаць руку і сэрца дачкі любімаму, і самая галоўная прыгажосьць, вядома, была ў душы.*

*Цяпер я, як маладая дарослая дзяўчына, адчуваю сябе ўразьлівай, таму што зразумела, што нават каханьне не бывае ідэальным. Ні жыцьцё, ні справядлівасьць, ні праўда. Ні я.*

*Але яны ўсе невыказна прыгожыя. Нават больш, чым калі я пра іх чытала ў дзяцінстве. І таму я імкнуся, спадзяюся, дыхаю.*

*Кахаю.*

# Стары і смерць



Алесь ЖУК

Ён жыў адзін. Здаецца, даўно-даўно, нават усё жыццё, хаця жонка памерла адзінаццаць гадоў назад. Найцяжэй было пераждаць зіму. У старасці свет для чалавека зусім робіцца малым. Адышлі старыя сябры, новых няма, ды і заводзіць іх няма жадання. Ён спрабаваў заводзіць кампанію, але не атрымалася. Як правіла, кампаніі канчаліся выпіўкай, а піць ён не любіў. У маладосці займаўся альпінізмам. Там піць не прынята. Удачнае ўзыходжанне адзначалі. Яшчэ запівалі непагоду, калі ў горы не было чаго сунуцца. Ды і выпіўка ў маладосці была ад весялосці, а не ад жадання заліваць адзіноту.

Што ён меў на старасць? Аднапакаёвую кватэрку, якая засталася пасля выхаду замуж дочак. Яны павыходзілі замуж адна за адной, і ён з лёгкасцю размяняў сваю чатырохпакаёўку, каб даць малодшым прытулак. Цяпер муж старэйшай трымае гандлёвую кропку, як любіць гаварыць гэта сам, а ў малодшае муж наогул дальнабойшчык. Унукі адны кончылі інстытуты-ўніверсітэты, у яго ажно чатыры ўнукі. Ён жартам папракаў дачок: ну хоць бы адна нарадзіла дзяўчынку. Адным словам, жывуць па-сучаснаму, а цяперашняга жыцця ён не ведае, яно нейкае хуткае. Нават, на яго розум, каламутнае. Але і дзеці і зяці адчуваюць сябе ў ім нармальна.

Усё жыццё ён прапрацаваў у архітэктурным бюро. Рабочы дзень пачынаўся рана, канчаўся па раскладзе. Ён так быў прывык да яго, што яшчэ некалькі гадоў пасля пенсіі працаваў. Весялей было з жонкаю, яна ў яго была балбатлівая, яны разам пабудавалі гэтак званую дачу. Домік на дачным участку. Домік гэты быў не ад яго арганізацыі, проста арганізатары садовага таварыства выйшлі на яго. Ён зрабіў ім праект, ды і так дапамагаў, калі што трэба было. У аддзяку яму ў тым таварыстве выдзелілі ўчастак. Трэба сказаць, што арганізацыя тая была салідная, ці нехта прабіўны займаўся той справаю, бо атрымаў дазвол «наверсе» «ўпарадку выключэння» весці забудову «па індывідуальных праектах». Тады на ўсіх гэтых садова-агародных участках дазвалялася будаваць лёгкія шчытавыя домікі, без усякіх там печак. А тут хоць вясковую хату перавязі і пастаў. Што многія і зрабілі замест таго будаўніцтва па індывідуальных праектах.

А стары старызну перавозіць не хацеў, харомы яму таксама былі не патрэбны. Ён раздабыў нармальнага здаровага лесу, і атрымалася ў яго хатка, але калі глянуць і цяпер, то невялікі дамок на два пакойчыкі плюс прыстроеная даволі прасторная веранда. Жонка спачатку бурчала на яго: што ты мне хатку бабы ягі выбудаваў. Але калі ўсё выфарбавалася, больш старога не чапала. Атрымалася так, што ён быццам і прадбачыў, што дзецям і моладзі гэтыя садова-агародныя ўчасткі будуць не патрэбны. Не зацягнуць сюды было і дочак, а як павыходзілі замуж — тым больш, на шашлыкі і то лічаныя разы прыехалі. Старая адна, пакуль магла, рабіла грады, засяляла цяпліцу. Адно вартае, што ён зрабіў на дачы — пасадзіў сад. Для саду ўчастак быў прыдатны: гліна была недалёка, а сад такую зямлю любіць.

Вось па яблыкі прыязджаюць і дочкі, нават абіраць яму апошнія гады памагаюць. Наогул дочкі дапамагаюць яму. Падвозяць і прадуктаў, а галоўнае — забіраюць дадому і ў пральных машынах мыюць бялізну. Інакш быў бы яму лішні клопат. А так і пасцельная бялізна, і шторы, ды нават і ягоныя курткі мые сучасная тэхніка.

Такое вось яно, старэчае жыццё. Можна, вядома, ім і суцешыцца, калі не ганарыцца, можна бясконца ўспамінаць маладосць, але найбольш успамінаць тыя часы, калі ён займаўся альпінізмам. Найбольш ён бываў на Каўказе, але давялося глядзець і суровы Цібет, і на Урале бываў, і ў Саянах...

Цяпер у яго ёсць патрэбны дачны рыштунак, інструменты, і даставаць нічога не трэба. А ўсё жыццё даводзілася даставаць, асабліва імпартную мэблю. Цяпер ён часам здзіўляецца, што яму яшчэ і цікавым было тое даставанне. Хутчэй за ўсё з-за маладосці было цікава, бо ў маладосці ў чалавека многа энергіі. А цяпер яму хапае задавальнення корпацца на дачы. У яго там свая гаспадарка. Дагледзець, абрэзаць сад, яшчэ мае градку садовых суніц, крыху агароднай зеляніны: смешна дачніку па гэта ездзіць у горад. Дзеля гэтага яшчэ вясною ставіць маленькі парнічок, каб быў пад рукой кропчык, салата, цыбульнае пер'е і нават маладзенькі агурочак. Парнічок потым здымае.

Калі быў маладзейшым, то ў лесе, які пачынаецца за метраў дзвесце ад яго хаткі, сам нарыхтоўваў і дровы. Там было шмат маладых бяроз, якія пад сілу і старому чалавеку, і сухастою-сасняку многа. Цяпер такія, як ён, ахвотнікі маладыя бярозкі павырэзвалі, а тыя, што засталіся, выраслі ў мацёрыя бярозы, якія яму не ўзяць, каб нават была і бензапіла. Дровы цяпер ён купляе ў мясцовым гартопе, пацыху коле, а тыя калодкі, што яму не падсілу, пакідае на зяцевы рукі. Печку яму прапальваць трэба, бо на дачу ён прыязджае з вясны і сядзіць там да першага снегу і халадоў.

Спіць ён доўга, як мінімум да адзінаццаці гадзін — адсыпаецца за многія гады, калі трэба было хадзіць на работу. Хаця думае яшчэ, што гэта простая старэчая санлівасць, але нават самому сабе ў гэтым прызнавацца не хоча. Урэшце яму на яго работу хапае і астатка дня. К канцу дня апошнім часам стамляецца.

Летам на дачах людзі, можна перакінуцца словам. Зімою сябе



заняць намнога цяжэй. Урэшце, у яго пакойчыку ёсць тэлевізар і нават дзве паліцы-стэлажы з кнігамі. Ён застаў той час, калі краіна была ўсёчытаючай, тады кнігі, дарэчы, як і мэблю, трэба было не купляць, а даставаць. Даставаць лепш умела жонка. Ён і цяпер здзіўляецца, як ёй гэта ўдавалася. Ды яшчэ больш-менш прыстойна адзяваць двух дзяўчынак. Пазней крышталёвы посуд, які проста стаяў у некалі моднай «сценцы», разабралі дзяўчаты, бо ён урэшце стаў непатрэбным яму.

Куды дзелася тая сценка, ён і не памятае. Стары быў рады, што дзяўчаты прыстроіліся ў жыцці, ды неяк і неўпрыкмет выгадавалі ўнукаў. Прыязджалі да яго на дзень нараджэння. Дочкі прывозілі ежу, накрывалі стол, яго «камерсант» нязменна прывозіў бутэльку брэндзі, як ён гаварыў, фірменнага. Мужчыны здаровы, ён адзін і выпіваў яе. Бо другі зяць толькі браў у губы. А ўнукі — дык тыя наогул пілі напіткі. Старому крыху было дзіўна, што такая мода ёсць у маладых, але ён гэтаму радаваўся.

У яго была шчаслівая натура: ён не ўмеў крыўдзіцца на людзей, а на дзяцей сваіх тым болей. У іх было сваё жыццё. Нават з гумарам ён часам успамінаў стаўпатварэнне ля электрычак на перонах. Кожны нармальны чалавек па тых паняццях павінен быў мець «дачу», толькі так між сабой называлі тыя загародныя соткі, у калектывах за іх ішлі цэлыя войны; чалавек немалады ўжо, але не прабітны, ён так і не патрапіў у першую хвалю раздачы прыгарадных пустак пад садова-агародныя таварыствы. І добра што не патрапіў, бо тыя таварыствы, вядома ж, праблему з забеспячэннем гароднінай не знялі. Выйшла так, што без вялікае таўкатні і атрымаў тыя «соткі». Тады на дачах было шмат дзетвары, дзеці, можна сказаць, і павырасталі на тых дачах.

Дарослым за садова-агароднымі клопатамі не хапала часу на дзяцей, ім, слава Богу, была воля. Было поле, нават невялікі лясок, якога хапала, каб прыносіць дадому вёдрамі чорныя грузды.

Стары нават і не прыкмеціў, як пайшоў скарот таго жыцця: паменшала на вуліцах дзяцей, пацішэлі жаночыя галасы, ды і наогул людзей паменшала. Людзі, відаць, як дрэвы ў лесе, не заўважаюць, што іх робіцца ўсё меней і меней. Толькі грыбнік усё часцей спатыкаецца аб упалыя пагнілыя ствалы.

На прыродзе, калі ўсё жывое пачынала адыходзіць у зімовае небыццё, не гнялі і доўгія зімовыя вечары, не так адчувалася адзінота, бо да гэтага часу дачнікі амаль усе раз'язджаліся, некаторыя толькі паказваліся ў пагодныя выхадныя дні. Была нейкая знітаванасць з прыродаю. Выключэннем былі хіба слотныя, з парывістым ветрам дажджлівыя дні і ночы. Тады пачынала здавацца, што ўсё навокал, нават сцены доміка,

**У яго была шчаслівая натура: ён не ўмеў крыўдзіцца на людзей, а на дзяцей сваіх тым болей. У іх было сваё жыццё**

прамакалі наскрозь, але і цешыла цяпло ад прапаленае на ноч печкі.

А вось з гадамі гнятлівасць у гарадской кватэры, асабліва ў першай палавіне зімы, даставала, псавала настрой. Стары не знаходзіў сабе занятку, не суцяшалі і кнігі. Хаця ён заўважыў, што кнігі маюць дзіўную здольнасць — успрымацца па-іншаму. Ні з таго ні з сяго пачынаўся перачытвацца Тургенеў, яго раннія маладыя аповесці, захаплялі незразумелыя спакойнасць і размеранасць «Дваранскага гнязда». Ён нават часам кпіў з самога сябе: навошта яму, згрыбеламу, той ранні Тургенеў? Ды і навошта напакоўваць галаву веданнем новага, калі ўжо хутка не стане і яго самога з тымі ведамі. Аднак уцеха была, відаць, так Бог прыдумаў чалавека, а той у сваю чаргу і нейкае іншае, пазагробнае жыццё. Выходзіла, што гэта ён назапашваў веды да таго пазагробнага жыцця. Гэта канчаткова развясельвала.

А потым стары, на пачатку зімы, калі пачалі брацца сухія чыстыя марозікі, знайшоў неспадзяваны для сябе занятак.

Колькі разоў ён праходзіў у Траецкім прадмесці паўз невялікі, быццам цацачны помнік, не звяртаў на яго ўвагі. На тым помніку бадзёра крочыў з мяшэчкам і кіем у руцэ чалавек. Потым старому здалося, што гэты чалавек на помніку ў нечым падобны на яго. І галоўнае, што ішоў ён цвёрда, ведаючы, куды ідзе. Была ў гэтым чалавеку нейкая незразумелая і прывабная яснасць.

Потым старога ад гэтага помніка штосьці павяло — інакш і не скажаш — у Купалаўскі парк, і не да самога манументальнага паэта, а да дзяўчатак, якія нястомна ў любую пару года пускалі на ваду свае вянкі. Была нейкая магія ў тым метале. Далей — болей, ён пачынаў прыглядацца да кавальскае работы на рашотках балконаў рэдкіх ужо старых домікаў.

Новага, разбудаванага на вялікай плошчы горада ён не ведаў, не мог ахапіць яго. Ды ён і не надта цікавіў яго.

Цяпер стары ў шэранькім прыкараткім паліто, у неграмоздкай шапцы-вушанцы, вушы якой былі завязаны на патыліцы, з адмысловым ядлоўцавым кіёчкам, які ён змайстраваў сам, кожнага дня выбіраўся ў горад. Ён любаваўся танцуючымі дзяўчатамі на былой Паркавай магістралі, сядзеў на лаўцы з дзяўчынаю ў прывакзальным скверы, любаваўся карэтаю для аднаўленай ратушы. Калі б наглядаць за ім збоку, то магло б скласціся адчуванне, што чалавек нешта настойліва шукае. І ў сваіх пошуках ён адчуваў сябе лёгка і бадзёра нават у марозныя дні. Яго някідкае шэрае паліто мела мехавую падкладку, зграбныя рукавіцы таксама былі цёплыя і грэлі старэчыя рукі.

І чым болей блукаў стары па горадзе, тым часцей ён успамінаў мясціны, дзе не толькі жыў, а дзе і проста бываў калісьці. Успомнілася яму і старое Сляпянскае возера. Яно зарастала, мялела за Батанічным садам. З другога боку яго засланілі новыя дзевяціпавярховыя будынкі. Але возера працягвала жыць, і ўздоўж ручаіны, ад якое яно пачыналася, на балаціне раскашавалі высокія трыснягі. Там дзесьці былі яшчэ з чырвонае цэглы — астаткі будынін ці, можа, нават і будыніны былой сядзібы Ваньковічаў.

Яшчэ тады, даўно, стары неяк выпадкова выйшаў на край парка Чалюскінцаў. У тую мясціну мала хто дабіраўся праз парк — усе атракцыёны размяшчаліся бліжэй да праспекта. Там на краю парка на пагорку стары выпадкова знайшоў занядбаны абеліск, які сведчыў, што ў час вайны на тым месцы былі расстраляны людзі... І з таго ж пагорачка адкрывалася густа зарослая трыснягамі лагчына. З-за трыснягоў ужо тады не было відаць і самога возера.

І стары пачаў шукаць гэтую мясціну, хаця ведаў, што пасля рэканструкцыі ўсяе Сляпянскае сістэмы, дзе канавы роўна выкладзены плітамі, дзе ўсё перайначана, не будзе ніякіх трысняговых абшараў.

Аднак старога вяло на тое месца, яму трэба было пабыць там.

Стары знайшоў той пагорак. На ім расла старая, раней у два ралы вярба. У камлі вярба была таўсценная, кара на ёй была быццам латы на колішніх воінскіх даспехах, аб'імшэлая.

Можа, ветрам ці снегам адно рала, відаць, было зламана ці скалечана. Таму даглядчыкі парку адпілавалі яго, і вярба засталася жыць, магутная, раскошная, пацыху зарубоўвала адпілаванае, і атрымалася жывое крэсла. Стары прымераў яго. Якраз падыходзіла. І ён нене ды і пачаў прыязджаць да гэтае вярбы, утульна ўмошчваўся на вярбовым крэсле, клаў рукі на кіёк. І зімовае сонца нават крыху прыгравала твар, і калі заплюшчыць вочы, то пачынала хвалявацца, пераліваца трысняговымі мяцёлкамі цэлае мора, і чуцен быў яго шэпат, такі прыемны і такі чаканы...

Так старога і знайшлі выпадковыя лыжнікі. Ён сядзеў, паклаўшы рукі на кіёк, спакойны і лагодны. Лыжнікі ледзь прайшлі далей, толькі спахапіліся, што сляды да вярбы ўжо даўно закіданы снегам і снег некранута ляжыць на чалавеку...

# Будзе ўсё наадварот



Алена ІГНАЦЮК

## Не! Супадзенне

*З сабой — не супадаю.*
*З табой — не супадаю.*
*Не супадаю з целам*
*і голасам сваім…*
*З мінулага — сябрамі,*
*з выявай коткі ў раме…*
*Не супадаю нават*
*з часопісам тваім…*
*Мае несупадзенні*
*заўважаць святлацені,*
*святыя дні нядзелі*
*і белы верталёт…*
*І спраўдзяцца надзеі —*
*як воля для надзеі,*
*як пчолы нагудзелі*
*ў бліскучых сотах мёд.*
*Я супаду — з сабою.*
*Я супаду — з табою.*
*Як праляціць над полем*
*белы верталёт.*
*Ўяўлю — несупадзенні*
*рабамі на калені*
*ўпадуць перада мною*
*на скошаны асот…*

## Дзень кароткі

*Нібы ў сне мы Евы-коткі —*
*я і муж мой… Дзень кароткі.*
*Толькі ж кіса ўсё мурлыча —*
*так лубочна…Можа, кічам…*
*Дзень за вокнамі — без гукаў…*
*Але будзіць Еву муха.*
*Свет —паштоўкай — як сюрпрызам,*
*дзе каханцы ёсць, дэвізы.*
*Котка лапкай, нават вусам…*
*рвецца ў сон зноў. Вось спакуса?*
*За кіпцюрык цягне Ева*
*мой манжэт і край каўнера…*
*Засталіся ў сне мы Коткі —*
*я, і муж, і дзень кароткі…*
*І так будзе да вячэры…*
*А там грукнуць-скрыпнуць дзверы.*
*Нехта нас такіх разбудзіць…*
*Можа, цень, што ў доме блудзіць?*

## Мой голуб

*Мой голуб задуменны… Веснік шчасця.*
*Няўжо твой лёс мяне акальцаваў?*
*Па свеце лётаў… Дожджык вочы засціў…*
*Анёл твае надзеі цалаваў.*

*Мой голуб белакрылы… Дорыш веру:*
*бы там, высока ў далях, незнарок,*
*як споведзь характва, закон і меру,*
*вучыў ты Богам дадзены урок.*

*Мой голуб залацісты для багацця.*
*Па кропельцы, па сонечнай расе —*
*гнязда звіваеш, ладзіш сваё шчасце.*
*Галубка — я. Пяць кольцаў на назе.*

## З Новым Рокам!

*Студзень судзіць…*
*Людзі блудзяць,*
*нібы ў лесе, ў сваім лёсе…*
*Дрыжаць зоркі на марозе.*
*Ўслед за снегам і завеяй…*
*Нібы ў лета Макавея*
*пойдуць коткі і сабакі…*
*Снегіры ляцяць — як знакі*
*беспрытульнага жыцця…*
*Да знямогі, забыцця —*
*ў маім лесе ходзіць»Йеці»*
*і губляе крык свой недзе…*
*Ў маім лёсе, так здалося,*
*ўсе сустрэчы — у двукоссі…*

*Мне б да зоркі прытуліцца…*
*Гучным спевам…Нават зрокам?*
*Я пачну за ўсіх маліцца*
*беспрытульных… З Новым Рокам!*

## Навагодзіцца!

*Ранак хворыцца, неба хмурыцца…*
*«Навагодзіцца!»– ўскрык Зімы.*
*Атрыбуты ўсе маёй вуліцы*
*расфарбуюцца ў тон хурмы.*

*Зіма — адліжная…*
*Паліца кніжная — іканастас!?*
*Ўся чырванее створка ніжняя —*
*нібыта вішнямі прапах мой час.*
*Анёл жа вуснамі кране блакітнымі*
*слязу маю… І распагодзіцца!?*
*Як вішні смак… Як ем павідла я…*
*пад спеў Зімы: «Ой, навагодзіцца!?»*

## Дакрануцца да няўлоўнага

*Дакрануцца да няўлоўнага…*
*Нядзелю — зблытаць з серадой…*
*Дзве хвіліны для бясслоўнага*
*позірку майго на той*
*бела-белы свет… Адзначаны*
*снегам і сустрэчай страчанай*
*(нібы вымерз акіян!!!).*
*Дзве хвіліны — і мяцеліцца*
*сілуэт твой… Няўжо дзеліцца*
*дзень на мой і твой падман?*

*Дакрануцца да няўлоўнага…*
*Хоць мае сляды няроўныя…*
*Як вярнуць цябе, скажы?*
*Ветры пазаву духоўныя*
*і снягі блакітна-зорныя,*
*і развагі бездакорныя…*
*Дзве хвіліны… Для душы.*

*За далёкім-блізкім горадам,*
*аватарам — ты… Не верыцца!?*
*Дзве хвіліны. Грэюць холадам —*
*сілуэт твой… і мяцеліца…*

## Свет ружова-бела-белы

*Чысты, брудны,*
*паласаты…*
*Непадсудны. Вінаваты.*
*Урачыста-навагодні!*
*З кіламетар ад Гародні…*

*Бачна барыню ў карэце*
*(вочы — кветкавае поле).*
*Па якой такой прыкмеце*
*кучар — снег? І сталі коні…*

*Можна барыню суцешыць.*
*Да тэатра ў час давезці…*
*Араторыяй заснежыць*
*гарадзенскае прадмесце.*

*Ўсё шукае (нібы ў ролі)*
*Марту-барыню ў карэце*
*Тызенгаўз… граф Антоні.*
*Ў горад рвецца злосны вецер.*

*З кіламетар ад Гародні*
*Снег — як дзіўнай пасцілой,*
*нібы казкай навагодняй —*
*Марту заманіў. У свой…*

*Свет… ружова-бела-белы…*
*Ля гасцінца — паласаты…*
*Непадсудны.*
*Вінаваты…*

## Судны дзень

*Цішыня — адна сусветная.*
*Судны дзень чакае — бедная…*
*Мо, праз тыдзень які — з'явіцца*
*(у чацвер, а можа, ў пятніцу)*
*навальніца — адпаведная.*

*Лісце шоргатам стараецца*
*дакрануцца (можа, ў пятніцу)*
*да аорты індыка.*
*Той імкнецца да чырвонага*
*андарака майго новага.*

## Перад намі Талака!

*Штосьці пяе, як безгалосая…*
*Ў танцы рыжым яна — босая…*
*Ды за голас мой чапляецца…*
*Мо, праз тыдзень які — з'явіцца*
*навальніца… Мне — з пагрозаю…*

*Вецер гойсае, і куражыцца*
*(у чацвер, а можа, ў пятніцу)…*
*Дажджу ніць схапіў бясконцую…*
*Так памадна-тлуста мажацца*
*вуснаў шэпт маіх:*
*«За сонцам я!».*

## Будзе ўсё наадварот

*Будзе ўсё наадварот…*
*І з канца пачнецца год…*
*Будзе тое — будзе гэта…*
*Мо, Рамэо і Джульета*
*зыдуць з іншага сюжэта…*
*Замест сёння будзе заўтра.*
*На матыў Камю ці Сартра*
*не ўявіць больш чалавека…*
*Замест турмаў — толькі Мека!*
*Бліснуць скура дзіў-гадзюкі…*
*Аднаўлення прагнуць гукі,*
*пахі, колеры і смакі…*
*Замест ружы сняцца макі,*
*што ў Мацiса… Ці Ван-Гога?*
*Будзе так!?*
*Па волі Бога!!!*

## Людзі-профілі

*А навокал мяне твары-профілі —*
*быццам з фрэсак Егіпта зышлі…*
*Якіх царстваў пагрозу адолелі?*
*І цяпер — сваю нішу знайшлі…*

*То на тронах сядзяць — фараонамі.*
*То на птушак палююць — вяльможамі.*
*То рабамі, што б'юцца паклонамі…*
*Хто танцоркаю… З флейтай і грошамі.*

*Але вокам адным павярнуліся —*
*у анфас, бы вякі азірнуліся…*
*У стагоддзі маім людзі-профілі*
*раўнадушшам прастор абязмовілі.*

*І навокал мяне твары-профілі…*
*Яны ў Пінску, і ў Брэсце, і ў Ковелі…*
*Яны мару маю заняволілі…*
*Суддзі, лоўчыя…Толькі профілі…*

## Як дабегчы…

*Нам гадоў, можа, сорак ці больш…*
*«Завялі» нас —*
*бяжым — не спыніцца.*
*І чапляюцца вейкі за дождж.*
*Мы бы ў сне, які сам сабе сніцца.*

*Як дабегчы да той паласы,*
*дзе ралля галаву уздымае…*
*Дзе паклоняцца дню каласы…*
*За «цік-так» мы бяжым — паспяваем.*

*Разам мы…У адным ланцугу.*
*Не адчуць, што ланцуг разарвецца.*
*«Я да сэнсу дайду… Я змагу!» —*
*б'ецца ў кожнага з нас моцна сэрца.*

*Праз хвіліну, гадзіну ці год…*
*Прыпынямся мы — і чакаем:*
*як жыццёвы міне галалёд,*
*пабяжым за густым небакраем.*

*А гадзіннік «цік-так»…*
*Штосьці не так…*
*у заведзеным сном механізме…*
*Разам стрэлкі адпалі — то знак:*
*мы бяжым ў нікуды…І павіслі*
*у бяспамяцтве, нібы павук*
*абляпіў, як нудой, павуцінай*
*нас ад вуснаў гарачых да рук…*
*Мы ў палоне ўсе зніклай хвіліны.*

## Валошкавы луг не знікае

***Рыгору Барадуліну***

*Вочы — вадою вушацкіх азёр…*
*І ўкрыжавалася думка:*
*дзень верхалінамі дрэў — нібы твор —*
*рвецца да неба ў малюнках…*
*Лікі Радзімы — Маці-Мадонны*
*ў сінім валошкавым квеце…*
*Бы цар Давід такім днём паланёны:*
*ўчуў аб вушацкім паэце…*
*Разам псалмы праспяваюць да ранку…*
*Дзіўна трымцяць дзве душы матылямі*
*над гаманлівым разбуджаным ганкам…*
*Песню вітае нядзелька святая!*
*Расфарбаванае сонцам яечка —*
*як на іконе — у тэксце паэта*
*коціцца німбам… І на краечку*
*верша — радкі аднаго запавету…*

*Маміна слова малітвай за мову…*
*Для пагасцінца, які адчуе:*
*выйдзе з вушацкага лесу да дому:*
*ў небе валошкавы луг не знікае…*
*Анёлы ў бяседзе, а ён збоку недзе…*
*Як голуб на жэрдцы каўчэга…*
*Давідава арфа пяе аб паэце…*
*І маміна мова*
*над дрэвамі —*
*рэхам…*



# Антон Луцкевіч, Хведар Ільяшэвіч і Міхась Машара

Анатоль СІДАРЭВІЧ

**У біяграфіі Антона Луцкевіча асаблівае месца займаюць яго кантакты і супрацоўніцтва з пісьменнікамі.**



Мне ўжо даводзілася пісаць пра тое, якую ролю адыграў ён у творчым лёсе Уладзіміра Жылкі. Найлепш пра характар адносін паміж крытыкам-рэдактарам і паэтам сведчаць апублікаваныя ў свой час лісты Жылкі да Луцкевіча. Вельмі цеснае супрацоўніцтва склалася паміж Антонам Луцкевічам і Наталляй Арсенневай. Луцкевіч быў рэдактарам яе твораў, з дэбютнага верша пачынаючы, выдаўцом і рэдактарам яе першага зборніка і аўтарам першай рэцэнзіі на гэты зборнік. Паэтка перакладала па просьбе Луцкевіча рыфмаваныя вершы з «Кніг джунгляў» Рэдзьярда Кіплінга (прозу і нерыфмаваныя вершы перакладаў сам Луцкевіч).

Яшчэ адна творчая асоба, з якою лёс звёў Антона Луцкевіча, — Хведар Ільяшэвіч (1910–1948), карэнны віленчук, самабытны паэт, гісторык, літаратурны крытык, публіцыст, рэдактар.

У Энцыклапедыі гісторыі Беларусі, дзе змешчана найбольш поўная біяграма Хведара Ільяшэвіча, паведамляецца, што ў 1927 годзе ён, сямнаццацігадовы юнак, быў зняволены на Лукішках. Але знаёмства гэтага вучня Віленскай беларускай гімназіі з польскімі карнымі органамі пачалося яшчэ ў 6-м класе, і гэта занатавана А. Луцкевічам. Польскія паліцыянты на поўным сур'ёзе пыталіся ў падлетка, да якой партыі ён належыць. Да кампартыі, як яго гімназічны калега і таксама паэт Алесь Салагуб, гімназіст Ільяшэвіч не належаў. Мажліва, не быў і камсамольцам, хоць дырэктар гімназіі, камуніст Радаслаў Астроўскі шмат зрабіў для камунізацыі вучняў, многія з якіх потым стануць сталымі вязнямі польскіх турмаў або, уцёкшы ў Савецкі Саюз, пойдуць пад расстрэл.

Хто больш паўплываў на Хведара Ільяшэвіча — яго старэйшы брат гісторык Мікалай Ільяшэвіч ці яго гімназічны настаўнік Антон Луцкевіч, — сказаць цяжка, але з камуністамі ён не звязаўся. І адначасна застаўся чалавекам левых поглядаў. Пра гэта сведчыць яго супрацоўніцтва ў газеце «Наперад!», якая выходзіла ў Вільні з 12 снежня 1929 па 3 кастрычніка 1930 года.

Ужо тое, што газета мела назву «Наперад!», сведчыць пра яе сацыял-дэмакратычны характар. (Згадаем, што газеты пад тытулам «Наперад» — вядома, на мовах сваіх народаў — выдавалі Сацыял-дэмакратычная партыя Германіі, Італьянская сацыялістычная партыя і некаторыя іншыя). Газета з левадэмакратычных і нацыянальных пазіцый востра крытыкавала тое, што дзеецца ў Савецкім Саюзе (калектывізацыя, пагром беларускай інтэлігенцыі). Ужо ў снежні 1929-га, яшчэ да таго, як афіцыйна быў абвешчаны курс на суцэльную калектывізацыю і пачаліся арышты ў «справе» выдуманага «Саюза вызвалення



**У жыцці Антона Луцкевіча і Хведара Ільяшэвіча быў перыяд іх супрацы ў рэдакцыі газеты «Наперад!». Думаецца, з часам гэта будзе занатавана ў біяграфіях**

Беларусі», А. Луцкевіч апублікаваў у трох нумарах запар вялікі аналітычны артыкул «З Радавае Беларусі. Змена палітычнага курсу і барацьба маскоўскага нацыяналізму з беларускім адраджэнскім рухам». У лютым 1930-га ў газеце быў надрукаваны вядомы памфлет А. Луцкевіча «Цень Азефа», у якім аўтар параўнаў Сталіна з вядомым правакатарам царскага часу. У артыкуле ж «Барацьба за моладзь» (8 студзеня 1930 г.) А. Луцкевіч паказваў, як Камуністычная партыя Заходняй Беларусі, атуманьваючы і камунізуючы вучнёўскую моладзь, вядзе шкодную для нацыянальных інтарэсаў палітыку. Ён звяртаўся да заходнебеларускай грамадскасці, да бацькоў: беражыце нашых дзяцей, не дайце, каб з іх рабілі «гарматнае мяса» нібыта ў імя «сусветнае рэвалюцыі».

З дакументаў, якія захоўваюцца ў аддзеле рукапісаў бібліятэкі імя Урублеўскіх у Вільні, можна даведацца, што газету чыталі, у прыватнасці, у Баранавіцкім, Бельскім, Браслаўскім, Ваўкавыскім, Дзісенскім, Наваградскім паветах, у Заходняй Украіне, Латвіі, Чэхаславакіі... І, само сабой, у турмах. Напрыклад, захавалася паштоўка ў рэдакцыю Сяргея Сіняка (літаратара, дзеяча Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, больш вядомага пад псеўданімам Сяргей Хмара), які пад той час сядзеў у Пінску. Другі ж адрасант, Дзмітрый Каленік, чытаў газету «Наперад» у знакамітай турме ў Каранове.

Пра тое, што Хв. Ільяшэвіч супрацоўнічаў у рэдакцыі газеты «Наперад!», сведчаць не толькі ягоныя публікацыі на старонках гэтага выдання, але і паштоўкі, якія захаваліся ў архіве колішняга Беларускага музея імя Івана Луцкевіча ў Вільні. Пісаныя яны ў ліпені 1930-га. Антон Луцкевіч у той час (пэўна, разам з малалетнімі сынамі) адпачываў у Ракуцёўшчыне, а Хведар Ільяшэвіч заставаўся ў Вільні «на гаспадарцы» і інфармаваў свайго шэфа пра навіны. Адна паштоўка, пісаная лацінкай, адрасаваная на Ракуцёўшчыну, а другая, пісаная кірыліцай, — у Краснае-над-Ушою (мабыць, гэтак за польскім часам называлася тамтэйшае паштовае аддзяленне).

У паштоўцы ад 3 ліпеня 1930 года Хв. Ільяшэвіч паведамляў А. Луцкевічу: «З Прагі прыслалі Вам запрашэнне прыняць удзел у адкрыцці памятніка Крачэўскаму». У другой паштоўцы Хв. Ільяшэвіч інфармаваў А. Луцкевіча, што чарговы нумар газеты ўжо набіраюць, і ён мае выйсці 17-га ці то 18 ліпеня.

Паштоўкі цікавыя і тым, што ў іх утрымліваецца інфармацыя пра Міхася Машару, на той час аўтара паэтычнага зборніка «Малюнкі» (1928). Паэт, якога за актыўны ўдзел у працы Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады кінулі на 4 гады на Лукішкі, увесну 1930 года быў ужо на свабодзе. За час зняволення ён, трэба думаць, напісаў нямала вершаў, з якіх можна было скласці наступны зборнік. Аб выданні новай кніжкі М. Машара, пэўна, дамовіўся з А. Луцкевічам. Можна меркаваць, што, з'язджаючы ў вёску, А. Луцкевіч даручыў заняцца гэтаю кніжкаю Хв. Ільяшэвічу. З паштоўкі ад 3 ліпеня 1930 года мы даведваемся, што Ільяшэвіч «ужо дастаў (атрымаў. — А. С.) вершы Машары» і абяцаў узяцца «за ўкладанне зборнічка». У другой паштоўцы Хв. Ільшэвіч пісаў А. Луцкевічу, што ён «ужо ўзяўся за ўкладанне зборніка вершаў Машары». І дадаваў: «...зборнічак будзе шыкоўны!».

Мы ведаем, што другі зборнік вершаў М. Машары — «На сонечны бераг» — выйшаў у 1934 годзе. Чаму не ўбачыла свет ягоная кніжка, якую меліся выпусціць у 1930-м, спадзяюся, з часам высветліцца. Я ж хацеў паказаць, што ў жыцці Антона Луцкевіча і Хведара Ільяшэвіча быў перыяд іх супрацы ў рэдакцыі газеты «Наперад!». Думаецца, з часам гэта будзе занатавана ў біяграфіях як паэта, так і яго гімназічнага настаўніка.

## Пра першыя апублікаваныя вершы Сяргея Хмары і Пятра Дабрыяна

Сяргей ЁРШ

**Даследчыкі творчасці паэта Сяргея Хмары (1905 — 1992, сапр. Сяргей Сіняк) чамусьці не звярталі ўвагі на той факт, што яго першы верш быў надрукаваны ў віленскай беларускай газеце «Крыніца» пад псеўданімам іншага паэта з Дзятлаўшчыны — Н. Жальбы (Аляксандра Бяленкі, 1898–1991). Здарылася гэтая прыкрая памылка па віне рэдакцыі (рэдактарам і выдаўцом газеты ў той час быў Браніслаў Туронак).**

### Час

*Годзі! Мы доўга цярпелі*
*Мы доўга хадзілі ў ярме,*
*Крывёю зямлю палівалі*
*Сотнямі гнілі ў турме.*
*Час нам здабыць сабе долю,*
*Поўнымі дыхнуць грудзьмі,*
*Па веку няволі і здзеку*
*Знову зажыці людзьмі.*
*Хоць сонца схавалась за хмары,*
*Ня згінуў крывіцкі йшчэ род,*
*Жыве яшчэ нашая мова*
*Жыве яшчэ наш і народ!*
*Час прад благімі панамі*
*Нам галавы ня хіліць, —*
*Даволі ўжо сварак між намі*
*Годзі край родны губіць!*
*Час ужо нам, брацьця, яднацца*
*Для шчасьця сваей стараны —*
*І паказаць усяму сьвету,*
*Што мы свайго краю сыны.*

**Čas // Krynica, 1925, 12 красавіка, № 14-15. У арыгінале — на беларускай лацінцы.**

19 ліпеня 1925 года ў рубрыцы «Наша пошта» рэдакцыя пісала Хмару: «Чаму Ваш верш падпісалі псэўдонімам Н. Жальба, дык і самі ня ведаем. Даруйце!».

Безумоўна, Сяргею Сіняку было крыўдна. Праз 13 гадоў ён прыгадаў тую непрыемную сітуацыю: «Першы раз у друку ў 1925 г. Рэдакцыя «Крыніцы» папутала мяне з Жальбай і мой першы верш быў надрукаваны пад ягоным псэўданімам». (Шлях моладзі, 1938, 7 кастрычніка, № 21).

Дзіўна, але і вясной 1926-га ўжо «Беларуская крыніца» зноў назвала аўтарам верша «Час»... Н. Жальбу. Нехта «Стары Дзед» хваліў гэты твор ды адзначаў, што з яго атрымаецца добрая песня. (Hutarki Staroha Dzieda // Biełaruskaja krynica, 1926, 31 сакавіка, № 11).

***

Іншая гісторыя з паблытаным псеўданімам звязана з паэтам са Слонімшчыны Пятром Дабрыянам (1916–1993). Ва ўсіх (!) публікацыях пра яго творчасць (напрыклад, таго ж паважанага даследчыка Уладзіміра Калесніка), у «Слоўніку беларускіх псеўданімаў» Янкі Саламевіча згадваецца яго псеўданім «Алесь Сучок». Нібыта, пад ім ён здзейсніў публікацыю свайго першага верша на старонках віленскага беларускага часопіса «Шлях моладзі». Але калі паглядзець той нумар выдання, то бачым, што верш «Я бачыў» падпісаны «Андрэй Сучок» (Шлях моладзі, 1938, 25 лістапада, № 24. С. 3). І гэта не памылка, бо і ў «Паштовай скрыньцы» рэдакцыя пісала менавіта «Андрэю Сучку»: «Здольнасьці маеце, толькі старайцеся іх лепш разьвіваць, чытаючы бел[арускіх] клясыкаў... З апошніх вершаў паправіўшы адзін друкуем».

Андрэем Сучком быў падпісаны і верш «Зіма», апублікаваны ў «Шляху моладзі» 12 студзеня 1939-га. Наступныя творы П. Дабрыян падпісаў «А. Сучок». Толькі ў паваенны час ён стаў вядомы як паэт «Алесь Сучок». Чамусьці Дабрыян ніколі не расказваў пра свой першы псеўданім.

# Пераплываючы Дунай, пераплываеш самога сябе

## (пра кнігу ўкраінскага паэта Уладзіміра Калікі)

**«Каля сіняга Дунаю стану, гляну, падумаю...» — менавіта гэтыя радкі з беларускай народнай песні прыйшлі ў галаву разам з апошняй старонкай зборніка. І справа не ва ўзгадванні самога Дунаю ў кнізе, а ў тым сэнсавым напаўненні, якім надзяліў гэты вобраз паэт.**

Зразумела, ні для каго не будзе адкрыццём, што Дунай ва ўсіх славянскіх народаў з'яўляецца не проста ракой, а сапраўдным сімвалам. І, думаецца, залішне тут расцякацца «мыслию по древу» пра тое, як «сели суть Словене по Дунаеве», і пра адлюстраванне гэтай падзеі ва ўсходнеславянскай вуснай народнай творчасці. Аднак тое, што сёння, у час перагледжання каштоўнасных арыенціраў, калі агіднае ўзводзіцца ў ранг прыгожага, а высокае саступае месца нізкаму, магчыма, як ніколі важна зірнуць на чалавецтва праз прызму светлых дунайскіх вод. І як доказ гэтаму — кніга львоўскага паэта Володыміра Калікі «Пераплыву Дунай».

Дунай і ва ўкраінцаў, і ў беларусаў сімвалізуе мяжу. Мяжу паміж дабром і злом, паміж святлом і цемрай. Такую ж функцыю выконвае гэтая велічная рака і ў аўтарскай канцэпцыі зборніка. «Там, за Дунаем», можна пабачыць і Залатую Зямлю, да якой варта імкнуцца; і легутенную дзяржаву Эладу, якую ніяк не ўдаецца пабудаваць у рэчаіснасці; і «геніяльную» цішу простага заходнеўкраінскага сяла; і Сакрата, які «па рэпу йдзе на градку», і Сафокла, што «ад дыялогаў змяк»; і паэта, які стаў шпалай, «каб адпраўляліся у шчасце цягнікі», і многае іншае, чаго няма на гэтым беразе, але што так моцна вабіць сваім харастовам і незвычайнасцю...

А на другім беразе ракі чакае нас «фальклорны казак Мамай», які не ведае «фальшы і зыску» і дабрадзейства якога спарадзіла вялікую колькасць легенд і паданняў, зрабіла яго сімвалам заступніцтва роднай зямлі і народу і прывяло да таго, што нават карціны XV ст. з яго выявамі ставаліся па пэўным каноне. Аднак казак Мамай не проста каменны помнік — ён актыўна далучаецца да цывілізацыі: вядзе дзённік, удзельнічае ў віртуальных выступах, карыстаецца мабільнікам, дасылаючы нам эсэмэскі з мінулага...

Володымір Каліка стварае шырокае палотнішча вобразаў, якія цешаць душу сваёй цеплынёй і прыгажосцю, мімаволі нясуць тваю існасць у свет чысцюткіх, як дунайскія воды, аўтарскіх памкненняў... Паэт не спрабуе напалохаць альбо застрашыць, а імкнецца захапіць шчырасцю і пранікнёнасцю акаляючага нас свету, якія так часта застаюцца незаўважанымі ў гэткі хуткаплынны і матэрыяльна-арыентаваны час.

І, вядома, у гэтым не малую ролю адыгрывае вобразная сістэма яго твораў, пачынаючы ад сакавітай мовы вершаў, у якой так шмат і заходнеўкраінскіх дыялектызмаў, і прастамоўяў, і ўласных аўтарскіх наватвораў, і заканчваючы багатымі вобразна-выяўленчымі сродкамі, якімі стракаціць ледзь не кожны верш. На паэтычных прасторах мыслення Володыміра Калікі «уяўны Гогаль прутком зграбае ў печы жар», «над туманам, быццам лодзіі, галовы конскія плывуць», «духмяніцца ціша салодка, што аж пчолы раямі ляцяць», «на вакзале восень гандлюе балканскімі слівамі», «на маміным гародзе спяваюць агуркі», «кот з калгаснага туману ў хмызах прадзе фальклору ніць», «лес мяняе мову жніўня на вераснёвы дыялект», «чытае дождж жывую песню лугу зялёнымі вачыма казлянят»... Усё гэта стварае ўражанне гармоніі і спакою, сярод якога толькі лірычны герой не пазбаўлены дынамізму, і то «бліскаўку падлоўленую ўвішна заганяе ў хлеў даўгім дубцом», то размаўляе «ў Парыжы з Пікаса, які ўзнёсся, як вежа, над часам», то вырашае, ці яму «навязаць рукавічак», ці лепш «вестыбюль падмятаць», то імчыць за сваімі ўспамінамі «наўздагонікі»...

Канешне, цяжка верыцца ў існаванне такой ідыліі. А таму, відаць, аўтар не стварае вершы — ён складае міфы. Менавіта міфамі называе Каліка свае творы. І ў гэтым, зразумела, ёсць свой глыбінны сэнс, які адкрываецца толькі разам з апошняй старонкай кнігі. Спасцігнуць сутнасць гэтых міфаў можа толькі падрыхтаваны чытач, той, «хто чытаць навучыўся Сакрата».

«Міфалогія» Калікі не імкнецца тлумачыць нейкія незразумелыя факты і з'явы — яна ўздымае шэраг праблемных пытанняў, якія рана ці позна давядзецца вырашаць. А таму чырвонай ніткай праз усю кнігу праходзіць тэма будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы, яднання народа і яго долі ў будучыні. З непрыхаваным болем адзначае паэт:

*Калі б на трон народны*
*не вяльможны*
*не пралязала Злосць,*
*Зазнайства, Здрада, —*
*то ў нас даўно, даўно, даўно,*
*даўно ўжо*
*была б шчаслівай і свая Элада.*

Для гэтага ёсць рэальныя магчымасці, аднак на дадзеным этапе паэт у стане карыстацца толькі формамі ўмоўнага ладу: «калі б...». Відавочна, што гэтая праблема надзвычай актуальная не толькі для ўкраінцаў, але і для іх паўночных суседзяў.

*Калі б жылі мы гэтак, як павінны,*
*і даўніну збіралі безупынна...*

*Калі б жылі без рудыменту*
*гнеўнага*
*і сэрцам прыхіліліся да крэўнага...*

Толькі на глебе нацыянальнага магчыма пабудаваць «непаўторную Эладу», каб жылося ў ёй добра «грамадзянам эладзянкам і эладзянам». Цяпер жа паэт бачыць толькі цені «садамісцкіх сядзіб», парэшткі «пакроенага краю» і ганьбу «асаромленага люду».

Аднак у «Міфе пра няскораную нацыю» Каліка на ўвесь голас абвяшчае: «Дунайцы мы, а не данайцы». Зразумела, што пад назвай «дунайцы» перш за ўсё маюцца на ўвазе ўкраінцы, «да вечнае волі пакліканыя», нягледзячы на тое, што доўгі час былі «страляныя і шабляваныя, у рэзервацыях ізаляваныя, у жорнах быцця петляваныя...»

Якраз на другім беразе Дунаю і жыве дунайскі народ. Няскораны і велічны, мудры і праўдзівы, ён з'яўляецца сімвалам той неўміручасці і жыццястойкасці, да якіх трэба імкнуцца яго нашчадкам. Для гэтага дунайцы пакінулі ў спадчыну сваім паслядоўнікам багаты фальклор, каб яны заўсёды «думалі пра Дунай». Адсюль, бясспрэчна, так шмат увагі Каліка надае вуснай народнай творчасці і яе ролі ў жыцці сучаснага чалавека. Так, у многім ён карыстаецца фальклорнай паэтыкай, часта з пад яго пяра выходзяць нават вершы-стылізацыі пад фальклорныя творы, але ў пераапрацаваным, так бы мовіць, «асучасненым» выглядзе. І ў гэтым таксама выяўляецца аўтарскі падыход да разумення сённяшніх праблем. «Зусім не варта сумнявацца ў класіцы: яна заўжды сучасная, як Дунай» — упэўнівае паэт. Чаму ж у такім выпадку нельга зірнуць на фальклор як на класічную спадчыну народа, які зберог у ім уяўленні пра свае найлепшыя якасці і памкненні?.

Менавіта фальклор і Дунай з'яўляюцца асноўнай рухаючай сілай натхнення паэта. І Дунай часам можна асацыяваць не толькі з канкрэтнай ракой, але і з вялікай воднай прасторай. Вада як жыццядайная і жыццесваральная сіла з'яўляецца яшчэ і першакрыніцай, першавытокам чалавечае мудрасці. «...я нібыта жарабятка, што ўсё з Дунаю п'е фальклор» — прызнаецца лірычны герой аднаго з міфаў. А таму і фальклор — гэта якраз тая кропля ратавальнай вады, што спатоліць смагу ў самыя засушлівыя часы. Гэта не проста этнакультурная з'ява, а якраз тая мудрасць і тыя веды, якія шліфаваліся і выпрабоўваліся не толькі часам, але і жыццёвым досведам пакаленняў. Адмахнуцца ад набыткаў папярэднікаў — згубна і недаравальна. А таму і эсэмэскі казака Мамая наступнікам сведчаць пра тое, што месца фальклору ў жыцці сучасніка ўсё ж такі ёсць, і яно далёка не апошняе, бо менавіта там, за пыльнымі кіламетрамі пройдзеных і забытых шляхоў, нашчадкі павінны адшукаць тую гаючую крыніцу мудрасці, якая, разлiўшыся вечным Дунаем, і дапаможа пераплысці праз усе выпрабаванні сённяшняга свету.

**Максім Баравік**

# Святло паэзіі Юрыя Баены

**У бібліятэцы беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа» выйшаў паэтычны зборнік «Шкатулка святла» Юрыя Баены.**




**Паэт спадзяецца толькі на хлеб, бо хлеб — святая тайна чалавечнасці. І кланяецца ён менавіта хлебу, паважае яго, пяе яму гімны. А дзе хлеб — там і слова**

Аўтар жыве на Беласточчыне. Скончыў геаграфічны факультэт Люблінскага універсітэта імя М. Кюры-Складоўскай. Працуе настаўнікам геаграфіі...

З чуллівай своеасаблівай самотай чытаюцца вершы Юрыя Баены, прысвечаныя маленькай радзіме — вёсцы Мокрае Бельскай гміны, дзе нарадзіўся паэт. У іх адчуваецца туга па маленству, для якога родны кут — дзяржава, «вытканая з зямных і нябесных нітак». Заўсёды моляцца дарогі і сцежкі, сады, лугі, палі, каласы, рамонкі, бярозы, дубы, ясені, жаваранкі і буслы, вятры і росы, снягі і сонца, каб мы часцей вярталіся дадому:

*Вярнуўся я*
*як сын, як брат,*
*у абдымкі роднага*
*і харастваа!*

Вёска Мокрае для Юрыя Баены не толькі ягоная дзяржава, але і светлы далягляд, бастыён. Мне здаецца, ніхто болей за Юрыя Баену і Віктара Шведа не апеў сваіх маленькіх радзімаў на Беласточчыне так, як апелі яны Мокрае і Мора. Так і просіцца сказаць: Мокрае Мора, апетае паэтамі.

У кожным сваім паэтычным зборніку Юрый Баена не абыходзіць тэму жыта і хлеба. Калі я пачынаю чытаць падобнае, мне заўсёды прыгадваюцца радкі Аляксея Пысіна: «Забыта многае ў жыцці, з дарогі змецена і змыта. Мне ў жыта хочацца ўвайсці, мне вечнасцю здаецца жыта». Пысінскай вечнасцю заўсёды напоўнены вершы пра хлеб аўтара кнігі «Шкатулка святла». Паняцці хлеб, жыта, колас і ўсе вытворныя ад іх асацыяцыі і матывы — буйныя планы баенаўскай лірыкі, яе падаснова, яе чырвоны радок.

Паэт спадзяецца толькі на хлеб, бо хлеб — святая тайна чалавечнасці. І кланяецца ён менавіта хлебу, паважае яго, пяе яму гімны. А дзе хлеб — там і слова. Будзе хлеб — будзе і слова. Слова, як піша аўтар, гэта «святло ў вялікім, чорным, быццам смала, пакоі ночы», «слова святое, нескаронае, вернае». Каму моліцца паэт? Паэт моліцца слову: «ля грані, нябыту і жыцця, цемры і святла малюся Табе, Магутнае Слова».

Так нараджаецца паэзія перажывання, роздуму, надзеі, вобразаў. Навізна паэзіі Юркі Баены — у глыбока творчай здольнасці аўтара шукаць і знаходзіць на старыя пытанні новыя адказы, насычаць іх новымі шматзначнымі ўяўленнямі пра свет, уласнымі назіраннямі, вопытам дарог, грамадзянскай мужнасцю пазнання набалелых праблемаў і шчаслівых радасцяў.

У новым зборніку паэта ёсць унікальны верш, які мае назву "За шчасцем" (па-беларуску правільна будзе «па шчасце»). Сюжэт яго такі: паэт бачыць, як грамада людзей стаіць у чарзе па шчасце, а ў той грамадзе тысячы людзей, і ўсе хочуць дацягнуцца да шчасця. Тры дні яны стаялі і тры ночы. Сярод іх быў і аўтар, бо таксама захацеў шчасця. Ён так і піша: «я таксама там быў, горыч з келіха піў...». Вось і ўсё шчасце.

Свой новы зборнік Юрый Баена назваў «Шкатулка святла». Шкатулка — гэта невялікая скрыначка для дробных, звычайна каштоўных рэчаў. Дык што, акрамя вышэй пералічанага, схаваў у ёй аўтар? А схаваў ён — пацалункі жыцця. І працягвае пісаць «лісты без дат — вершы на ўсю вечнасць», бо верыць, што ён, як паэт, на сваёй зямлі пакіне след. Яго пацалункі жыцця няпростыя, розныя: канкрэтныя, сімвалічныя, метафарычныя. У вершах заўважаецца імкненне да гульні на кантрастах, на нечаканых паваротах думкі, на нюансах слова, якія асвятляюць як маланкі, становячыся і тваім празрэннем, і твам адкрыццём.

Вершы Юрыя Баены са зборніка «Шкатулка святла» хочацца чытаць і перачытваць. Вядома, не ўсе яны аднолькавыя. Ёсць у некаторых і свае слабасці. Але казаць пра іх — ці ж мае гэта сэнс? Чытаючы паэта, верыцца, што прага жыцця, адчуванне харастава Радзімы, прыроды, чалавечай працы, роднай мовы, слова, песні, — што ўсё гэта яшчэ паўторыцца ў яго новых вершах і зборніках. Верыцца, што святло паэзіі Юрыя Баены будзе яшчэ доўга асвятляць нашыя душы і сэрцы.

**Сяргей Чыгрын**

# Як палёт над безданню

**Хтосьці сказаў, што ісціна тапіцца ў шматслоўі. Леанід Маракоў не піша доўгіх твораў. Як празаік ён найперш вядомы кароткімі вострасюжэтнымі апавяданнямі.**




Зборнік «Непамяркоўныя» складаецца з дзвюх частак: 19 апавяданняў, не звязаных між сабою, у другой — 8 апавяданняў, у якіх высвечваецца лёс хлапчука, блізкага да самога аўтара.

Пачынаецца кніга апавяданнем з рускай назваю «Помни случай с Ивановым». Аказваецца, Іваноў па крыві быў беларусам, вырас на гэтай зямлі, але рэвалюцыі не прыняў, бо яна, як меркаваў яго бацька, несла толькі разбурэнне. Цераз Крым іх сям'я пакідае Расею і апынаецца на чужыне, у Францыі. Воляю лёсу ці абставінаў Міця Іваноў канчае школу разведчыкаў, і яго закідваюць у Савецкі Саюз, каб тут укараніцца і стаць шпіёнам — з перспектывай на доўгую службу-работу. Зноў жа — воляю абставін — Іваноў заступаецца за хлапчука, знішчае трох «шакалаў» і становіцца ахвярай — яго асуджаюць на расстрэл. Адсюль і пачынаецца яго — вымушаны! — подзвіг: ён адзін знішчае ўвесь канвой з адзінаццаці чалавек! Застаецца толькі адзін чалавек, якога ён не забівае, а адпускае ў лагер: гэта аказаўся свой чалавек, беларус. Канчаецца апавяданне так: «І праз дваццаць, і праз трыццаць гадоў кожнага ахоўніка-новабранца, які прыбываў у Амурдальлаг, вялі на мясцовыя могілкі да слупка, надпіс на якім рэгулярна аднаўляўся, каб папярэдзіць: «ПОМНИ СЛУЧАЙ С ИВАНОВЫМ»».

І далей — якую ні вазьмі навэлу: «Госці», «Бацька і сын», «Арэлі», «Дзень ікс», «Трэцяя спроба» — усё балюча, усё цікава, усё бярэ за жывое. Апавяданні на розныя тэмы, але ўсе, як правіла, пра трагічна-драматычныя здарэнні ў лёсе герояў: «Апошнія вакацыі Валера Маракова» — як яго арыштоўваюць на вакзале ў Менску і як ён шкадуе, што не ўзяў з сабою свайго маўзера, каб не здацца ў рукі «слугаў народа».

Найбольш уражвае апавяданне «Настальгія». Гэта пранізлівы крык душы, збалелай па пакінутай Радзіме, у якую герой можа вярнуцца толькі ўпотайкі, бо ён тут лічыцца чужаком, тут яго чакаюць не з хлебам-соллю, а адкрытымі варотамі ў турэмнае пекла. Наш герой прыехаў на радзіму карэспандэнтам французскай газеты «Юманітэ-Дзіманш», на сустрэчу з моладдзю, на фестываль. Адпаведна і прозвішча ў яго французскае — Філіп Трэйзон. Яму важна было скарыстаць гэты час для таго, каб пабыць дома, пабачыць маці, падыхаць родным паветрам. З вялікімі прыгодамі яму ўдасца вырвацца з чэпкіх абдымкаў каманды, якой было загадана апекавацца замежным госцем. Ён прыязджае ў Беларусь, дзе яго чакае маці. І вось прычакалася! Але радасць яе дарэмная: сына чакаюць салдаты з чырвонымі пагонамі. Паранены Міхась памірае на руках у маці...

Другая частка кніжкі — цыкл апавяданняў, у якіх фігуруе адзін галоўны герой — Санька. Падобная проза разлічаная на юнага чытача (яна пра ўзнёслыя, маладыя і гарачыя пачуцці). Амаль усе апавяданні гэтага цыкла драматычныя ці трагічныя. Першае — «Валюша». Малога сынка жанчына водзіць у садок, а сама працуе на фабрыцы. Жывуць яны ў сутарэнні, там холадна і сыра. А пяць гадоў таму чужыя — так называе іх Валюша — прыйшлі, зрабілі вобыск і забралі мужа. На спатканне ў турме яе не пускалі... Аднойчы, вяртаючыся дадому, яна ўбачыла каля сваіх весніц чалавека: гэта быў яе муж, але ў непрытомным стане. Такім яго і забралі ў бальніцу. След чалавека згубіўся...

Заканчваецца цыкл трагічна: Санька пазнае ў адным з бамжоў свайго былога настаўніка, хоча яму дапамагчы, але той ужо звыкся са сваім няшчасным лёсам. Барацьба за «тэрыторыю» прывяла да трагічнай развязкі: такі ж бомж, толькі з крымінальнай біяграфіяй, забівае свайго канкурэнта, каб завалодаць кварталам і гаспадарыць аднаму. «Мы ва ўсім вінаватыя, мы! — дакараў сябе Санька. — Заслужаны настаўнік — бомж, і ўсе маўчаць! Мая хата з краю. Трэба нешта мяняць, развязваць гэты Гордзіеў вузел».

Узнятыя ў апавяданнях тэмы — вельмі надзённыя, балючыя для грамадства. Шмат таго, што павінна было б адысці ў нябыт, засталося і атручвае нам жыццё, выклікае пратэст. І менавіта большасць герояў зборніка — гэта непамяркоўныя, якія не мірацца са сваімі нягодамі, а вядуць з імі адкрытую барацьбу.

Памяркоўнасць — гэта якраз тое, з чым змагаюцца героі большасці апавяданняў зборніка. Узвелічэнне гэтай барацьбы было галоўнай задачай аўтара, з якой ён выдатна справіўся.

**Уладзімір Дамашэвіч**

# Кніга сораму і адказнасці:

## Падручнік для беларускага журналіста

**Кацярына Оаро, «Сарочае радыё» / серыя «Пункт адліку» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў. — Мінск, «Кнігазбор», 2013.**




Сваім часам Дэйл Карнэгі напісаў кнігу «Як перастаць непакоіцца і пачаць жыць». Мы не Карнэгі — мы ведаем, што чалавек застаецца чалавекам, пакуль ён турбуецца, клапоціцца і непакоіцца. Прынамсі, у Беларусі гэта працуе менавіта так.

Калі б мяне папрасілі ахарактарызаваць кнігу Кацярыны Оаро «Сарочае радыё» ў двух словах, я б сказаў, што гэта кніга сораму і няёмкасці. Менавіта гэтыя два словы найлепш характарызуюць галоўную гераіню: сорам і няёмкасць — уласцівасці сумленнага чалавека. Сорам — ад таго, што не можаш дапамагчы перамозе добрай справы. Няёмкасць — ад таго, што вымушаны працаваць у падполлі, пад псеўданімам і хаваць гэта ад большасці навакольных.

Сумленным журналістам быць няпроста паўсюль, нават у Штатах (ведаем — дзякуй Галівуду!). У Беларусі быць сумленным журналістам складаней удвая — у гэтым пераконваецца гераіня аповесці «Сарочае радыё» Таня Цыбулька.

Увогуле, гэты твор можна было б рэкамендаваць для чытання абітурыентам журфаку — каб азнаёміліся з вялізнай калекцыяй будучых праблемаў. Вы хочаце пісаць на тэмы культуры, як і большасць журналістаў-пачаткоўцаў? Не чакайце такой літасці ад рэдактара Улада — яе не будзе. Увесь асартымент, які вас чакае, — гэта пераважна сацыяльныя праблемы: барацьба ўладаў са спадарожнікавымі талеркамі, радыяцыйная плітка на галоўнай плошчы сталіцы... Бываюць і сустрэчы з цікавымі, неардынарнымі людзьмі, але зноў жа зусім не ў рамках культуры, напрыклад, з хворай на рак Ірынай Казулінай.

З культурай журналістка перасякаецца толькі на судовай лаве — на працэсе, на якім артыст Павел Харланчук адстойвае сваё права на акторскую прафесію. Ды яшчэ ў студэнцкай аўдыторыі, дзе выкладчык-перастрахоўшчык заніжае адзнаку за студэнцкую працу толькі таму, што яна прысвячаецца творам Васіля Быкава — пісьменніка, непрыемнага для ўлады.

Аповесць насычаная і, можа, нават перанасычаная беларускімі актуаліямі — падзеямі і персанажамі. Зрэшты, мастацкасці твору гэта не шкодзіць: усе рэальныя асобы і падзеі паказаныя вачыма журналісткі Тані Цыбулькі. Паказаныя так, як рэпартажная журналістыка не малюе сваіх персанажаў.

Аповесць «Сарочае радыё» магла б стаць добрай асновай для вострасюжэтнага (сацыяльнага!) кінабаевіка. Пры ўсім тым, што аўтарку больш цікавіць унутраны свет галоўнай гераіні, а не вонкавыя падзеі. Інакш перад намі ляжаў бы зборнік артыкулаў пра надзённае, а не мастацкая кніга.

Падабенства да «трылера» — гэта не плюс і не мінус аўтара. Проста ў іншай стылістыцы апісваць журналісцкую працу ў цяперашняй беларускай рэчаіснасці складана.

**Зміцер Дзядзенка**

# Беларуская літаратура першая ў свеце дасягнула дасканаласці

## The Other Side of Literature

Анка УПАЛА

**Тэкст можна разломваць на кавалкі, як хлеб. Фраза па-за тэкстам толькі акругляецца, поўніцца зместам. А калі разламаць яе на асобныя словы, наагул выяўляецца бездань.**




Мне падаецца важным усвядоміць, што літаратура можа быць не толькі складзена са слоў, але і раскладзена з іх.

У адным з маіх ненапісаных тэкстаў персанаж Каталагізатар разбірае ўсе кнігі, што трапляюць яму ў рукі, на асобныя словы і захоўвае іх у аблокавых сховішчах. Так ён мае аблокі са словамі «Я»,«прыйшла» , воблака са словам «Ты»... Гэта аўтар, які дае літаратуры спраўдзіцца ў поўным аб'ёме.

На сённяшні дзень тэкстаў складзена так шмат, што раскладаць іх можна практычна бясконца. Як масавая з'ява — яно непатрэбна. Але ўсведамляць гэты бок літаратуры карысна гэтак жа, як у мастацтве разумець, што візуальнае можа быць сабрана і, як навалка, вывернута праз чорны квадрат. Разумець, што тэкст можа быць раскладзены на словы і такім чынам створаны наноў — значыць нарэшце ўбачыць літаратуру як з'яву цэлай, а не палавінчатай.

У раскладанні добра тое, што нават блага напісаны тэкст пры гэтым набывае глыбіню, калі не на ўзроўні фразы, то ўжо гарантавана на ўзроўні слова. Бо слова сапсаваць немагчыма. Аднолькава паспяхова можна раскласці папсовую песеньку і класічны раман. Розніца толькі ў тым, на колькіх узроўнях мы будзем адчуваць сэнсоўнасць.

Ёсць аўтары, якім не дадзена складаць, і ўсё ж яны імкнуцца займацца літаратурай. Я б параіла ім займацца раскладаннем сваіх і чужых тэкстаў. Адзінае, што нельга замацаваць за сабой аўтарства на слова, калі ты не сам яго прыдумаў. Раскладанне тэкстаў — вельмі бескарыслівы і пры гэтым глыбокі спосаб займацца літаратурнай творчасцю.

Я прапаную раскласці беларускую літаратуру, класічную і сучасную. Кожны можа рабіць гэта для сябе, узяць любы тэкст любога беларускага аўтара, дзяліць яго на фразы, калі дазваляе майстравітасць стваральніка пачатковага тэксту, і словы — ды раскрываць сэнсы, якія на ўзроўні слова максімальна поўныя і дасканалыя. Зрэшты, маёй прапановы ўжо дастаткова, каб лічыць беларускую літаратуру раскладзенай на словы, бо тут дастаткова ідэі. Такім чынам, беларуская літаратура — першая ў свеце, якая была раскладзена і дасягнула дасканаласці.

«ДЗЕЯСЛОЎ» №68

# «Пачысціць зубы ірландскім паветрам»

ЛеГАЛ

**Нейкая дзіўная надалася вясна. І снег даўно сышоў, а сапраўднага цяпла ўсё няма. Ні знаку таго прачынання, ні праяў абуджэння... Прырода нібыта не можа выйсці з летаргічнага сну... І ўвесь гэты час не пакідала маю душу нейкая неўразумелая затоеная трывожнасць...**

І вось — як снег на галаву — смерць нацыянальнага Паэта... Што і казаць, і сам *дар* таленту, і паэтычнае *здарэнне*, і *дараванне* багемнага граху — усё з аднаго кораня, з адной боскай скарбніцы. Таму Рыгор Барадулін адышоў гэтак жа *нечакана-дзіўна,* як і ўсё, што звязана з паэзіяй.

А час зусім не лірычны. Голас флейты заглушаецца гарланным горнам. Моўкнасць паэтаў загалошваецца гнеўным галасам бяздушных прагматыкаў і дыктатараў. Расея на парозе вайны з Украінай. І для нас*«іхняе ўсё»* панікла перад годнасцю **Кабзара...**

Памолімся ж за Украіну...

Але не забывайма і пра сваё. У тым ліку і пра нашу літаратуру. Паціху-памалу і яна піша драматычную гісторыю беларускага чалавека...

Выйшаў з друку 68 нумар часопіса «Дзеяслоў». Агледзім яго сутнасны змест па-парадку. Адкрывае публікацыі гарадзенка **Данута Бічэль,** якая цяпер знаходзіцца на новым паэтычным уздыме. Пасля чарады гадоў яе пераважна рэлігійных вершаў-літаніяў наступіла пара *наіўнай* чалавечай мудрасці і слоўна-духоўнага ўзнясення...

*Неба населена духамі, душамі*
*ды анёламі,*
*святымі, маўклівымі і вясёлымі...*
*Кажуць, дарога ляжыць*
*праз сэрца,*
*пакуль яно б'ецца, ці так жыу*
*толькі здаецца...*

Гэтыя вершы не напісаныя, а прагавораныя (выдыхнутыя), як праявы духу, што азіраецца, развітваючыся з усім сваім зямным — помным і прамінулым... У пэўным сэнсе гэта і патаемныя малітвы душы, падслуханыя і вычутыя сэрцам паэткі. Нешта падобнае адбываецца, калі сцюдзёнай зімой дзіця, пакінутае само на сябе, зачаравана адхуквае ў хаце замерзлую шыбіну, каб убачыць за яе фантастычна-казачным, халодным роспісам жывы прыцягальны свет вечнага жыцця...

Чытэльная кароткая проза **Уладзіміра Някляева** — гэта лагічна выверяныя сюжэты з алагічна-фантасмагарычнымі сцэнамі, якія люструюць мінулыя і сучасныя праявы нашага грамадскага жыцця...

А вось вершы **Зміцера Вішнёва** (адзін радок з якіх я запа-




зычыў для назову гэтага агляду, — **ЛеГАЛ**) пакідаюць чытача ў тонусе, праўда, і не больш за тое. Яны — па-за класічна-традыцыйнай сістэмай каардынат звычнай беларускай паэзіі. Зміцер выварочвае сэнсы чалавечага жыцця, і яны ў яго

*блішчаць сокам і шклом схаваных палотнаў*
*кропаюць алеем мастацкіх*
*думак...*

**Алесь Усеня** працягвае публікацыю рамана «Грэх». У гэтым нумары чытачам прапануецца другая кніга аб'ёмнага твора. Як мне падалося, гэта якраз найбольш захапляльная яго частка. Апісваецца Рым часоў імператара Адрыяна, прыкладна ў гады Парфянскай вайны: узаемаадносіны ў імперскай дзяржаве высокапастаўленых асоб і просталюдзінаў, патаемная барацьба за трон і ўладу, рытуалы рымскіх цэзараў, баляванні, ежа, адзенне, паводзіны і традыцыі.

Але галоўнае ў творы — класічны трохкутнік: малады іудзейскі раб Архелай і рымскі сенатар Гней, некалі легіянер-заваёўнік, які аказваецца бацькам Архелая (аказваецца, некалі легіянер згвалціў яго маці пры чарговым заваёўніцкім паходзе на Іудзею), абодва закаханыя ў хрысціянку Вірсавію, на якую да таго ж паклаў вока і хоча выкупіць у Гнея заможны забудоўшчык Акіла... Дык вось, мяне як чытача менавіта гэтая сюжэтная лінія трымала ў напружанні даастатку. Захапляльнае чытво. Дадам яшчэ, што пэўныя трактоўкі падзей, учынкаў і характараў асобных герояў, тым ці іншым чынам, відочна накладваюцца на сучасныя праявы нашага грамадска-палітычнага жыцця.

Што да тэкстаў беластокца **Яўгена Вапы,** то, на маю думку, усё гэта ён мог бы напісаць мастацкай прозай, але раз не змог, значыць, была вельмі важкая прычына выказацца менавіта вершамі...

Досведна-павучальныя аповеды-згадкі друкуе **Зянон Пазняк.** Пішучы ў асноўным пра савецкі час жыцця, ён не прамінуў выбліснуць і тут сваім прарочым провідам, у прыватнасці — у апавяданні «Гарнізон». Значыць, напрыканцы 60-х тры прапаршчыкі атрымалі кватэры: два расейскія і адзін украінскі, у якога Зянон-аспірант нейкі час здымаў закуток. У аднаго расейца быў ручны голуб, у другога — звычайны кот, а ўкраінец меў канарэйку. Дык вось, аднойчы кот нахабна з'еў голуба. Гаспадар птушкі вылавіў ката і, абвязаўшы таго дротам, прапусціў праз яго электрычны ток... Распачалася варажнеча... І вось як да таго паставіўся ўкраінец, распавёўшы пра тое аўтару праз некаторы час пры выпадковай сустрэчы ў горадзе:

*«— Вы маглі б пра такое падумаць! — закончыў расповед Пеця. — У нас ва Украіне такіх ідыётаў шчэ няма.*

*— Вось бачыш, Пятро, а ўсё з-за любові да брацціяў нашых меншых.*

*— Добра, шчо воны так людэй нэ любяць, отжэ парэзалі б ужэ.*

*— А кенар жыве?*

*— Жыве, спявае».*

Аповед жа «Геранім», бадай, не саступіць у мастацкім плане творам шмат якіх нашых вядомых празаікаў. Зянон Станіслававіч таленавіты не толькі ў палітыцы.

Не без цяжкасці ўспрынялася мной вандроўна-захапляльная карціна свету ў тэкстах-спарышах **Яраслава Ананкі і Генрыха Кіршбаума.** Двайное аўтарства разбівае цэльны вобраз паэта, як самастойнага творцы і асобы... Зрэшты...

Лірычна-«прышвінскія» запісы **Паўла Ляхновіча** дзіўна-трывожныя. Прырода зямная і прырода чалавечая тут сыходзяцца наўстыч... Паляўнічае і жыццядайнае шукаюць згубленую гармонію суіснавання ў гэтым свеце.

*«...у небе над Гальцамі павольна і паважна кружыцца тарнада з буслоў. Іх было — тысячы! (...) Уладзімер Арлоў, той самы, з тварам лясного разбойніка, закінуўшы галаву, цікаваў за імі і твар яго мякчэў, і на ім праступіла душа дзіцяці. Калі ўсе буслы нарэшце заслізнулі за далягляд, сказаў з уздыхам:*

*— А крылы ў іх не белыя... чорнага больш. Але назва «Зямля пад чорнымі крыламі» была б як вырак. А ён дабраслаўляў...*

*Наша вандроўка была прысвечана памяці Караткевіча».*

Вершы **Вікі Трэнас** з кожнай новай публікацыяй набываюць усё больш глыбокі сэнс і выяўляюць неадназначную вобразна-мастацкую натуру аўтара.

*Калі ты не расчараваўся і выжыў,*
*хаця беглі па тваім следзе выжлы;*
*калі, гледзячы ў вочы ваўчысе,*
*дараваць навучыўся;*
*ведай, змяніцца ўсё, што*
*хуткаплынна...*

Запісы **Уладзіміра Сіўчыкава** вызначаюцца прастатой стылю і анекдатычнасцю бытавых і жыццёвых сітуацый. Чытаць іх лёгка, забываць — таксама...

Вершы **Арыі-Ульрыкі Гатальскай** — нервовыя і імпульсныя — вытрыманыя ў адзіным ідэйным ключы айчыннай заклапочанасці:

*Скрыжаваныя ў гэтай зямлі*
*Два пачаткі спрадвечнай веры:*
*Колер чырвоны — колер крыві,*
*Колер белы — колер паперы.*

Разважныя рэчаісныя аповеды **Міколы Ільючыка** напісаныя нібыта на затрыманым дыханні... трывогі і спадзявання... Ім, на мой погляд, не хапае збою рытмікі ў пачуццях і разважаннях, спробы вырвацца з зачараванага кола людской будзённасці...

Ад прачытання вершаў **Алеся Плоткі** застаецца няўцямнае ўражанне аўтарскай ленаватай апломбнасці, недапрацаванасці, аляпаватасці, у рэшце рэшт, пакінутасці тэкстаў у іх першасным істотна-душэўным зародку... Аднак маюцца відавочныя ўдачы і праступае адценак таленту, хоць наноснае і прэтэнцыёзна-правакацыйнае ўсё ж пераважае:

*гэта зусім і не вершы,*
*я прэтэнзій ніякіх не маю*
*лепшы не той, хто першы,*
*лепшы той, хто маўчыць і знае...*

І ўжо на самым ускрайку нізкі, відаць, мне як аглядальніку, ці яшчэ якому няшчаснаму крытыку, Алесь пакідае свой аўтарскі грымлівы «завет»:

*пацалуй мяне ў тастамент,*
*прыдурак!*
*напішы за мяне на цэгле*
*мае творы — не твой завулак,*
*бяры матор і валі адсюль!*

Як казаў класік: «Ён палохае, а мне не страшна». Адным словам, да Сыса яшчэ далёка, але ёсць зайздросная энергетыка. Шлях абраны, трэба яго адольваць...

Нешта сваё, неардынарнае ёсць і ў мысленні і міфалагічна-паганскіх вобразных карцінах большасці вершаў дэбютанта **Дзмітрыя Лавіцкага:**

*Але ты ведаеш: іншыя птушкі*
*ў лесе*
*глядзяць на яго з нянавісцю*
*і праклёнам,*
*і ён хаваецца, ён не спявае песень*
*і выгукае цемру замест імёнаў.*

Аднак яшчэ шмат сырога і няўцямнага як у філалагічным, так і ў філасофскім аспекце яго твораў.

Пэўна будзе цікавым некаторым чытачам часопіса і пераклад з ангельскай мовы паэмы «Кашмар на Калядны» вядомага кінарэжысёра **Тыма Бертана,** зроблены Максімам Шчурам (дарэчы, з досведнай прамовай перакладчыка).

У гэтым жа шэрагу і публікацыя сучаснай літоўскай паэзіі, да перастварэння якой спрычыніліся А. Адамовіч, У. Арлоў, А. Башарымава, В. Рыжкоў і А. Хадановіч.

Вытрымкі з перагледжаных хатніх архіваў, якія прапануе **Ніл Гілевіч,** тым не менш, нярэдка выклікаюць здзіўленне асобнымі невядомымі праявамі літаратурнага працэсу пасляваеннай пары (1947–1949 гг.). І напраўду, вялікае бачна на адлегласці, а дробнае — пры блізкім і карпатлівым разглядзе... Асабліва цікава прасачыць за тагачаснай літаратурна-крытычнай творчасцю А. Куляшова, П. Панчанкі і А. Кучара...

Асноўны тэмат творчасці пісьменніка **Анатоля Бутэвіча** цесна знітаваны з гісторыяй Беларусі. І калі яго мастацкая проза пераважна напісаная на архіўна-дакументальных матэрыялах, то прапанаваны часопісам публіцыстычна-культурніцкі артыкул падае толькі яго развагу (рэфлексію), заснаваную на крэўным (кроўна-родавым) спасцігненні вялікай гісторыі свайго народа. Ён піша: *«...нам проста конча трэба поўнааб'ёмна ведаць сваё мінулае, як і належыць кожнай еўрапейскай нацыі. Ведаць глыбінна, без выняткаў і выкрэсліванняў. Не выбарачна на карысць любых па часе нашага жыцця ідэалагем. І тады ў гэтым разумным паяднанні з'явіцца яшчэ адна магчымасць зразумець: хто мы, дзеля чаго мы, які наш лёс і сэнс жыцця на гэтай зямлі».*

Поруч друкуецца даволі аб'ёмны артыкул **Алеся Бяляцкага** «У смерці ўсе роўныя». Як даследчык літаратуры, аўтар праходзіць па «беларускіх слядах» вядомага твора рускага пісьменніка Анатоля Рыбакова «Важкі пясок». А. Бяляцкі рэпрэзентуе беларускія фрагменты, не адасабляючы іх ад усяго кантэксту рамана, і, аналізуючы іх вобразныя выявы, *вычытвае* аўтарскі агульначалавечы гуманізм, што праяўляецца падчас вялікіх гістарычных катаклізмаў. Чытаючы гэта, напісанае А. Бяляцкім у цяжкіх турэмных умовах, даводзіцца толькі па-зайздроснаму здзіўляцца фізічнай і валявой моцы характара зняволенага ды заадно жадаць яму да канца годна пераадолець абрынуты на яго вырак.

Даволі пазнавальна выпісала творчы партрэт вядомага і таленавітага пісьменніка А. Федарэнкі ў звязку з яго пяцідзесяцігоддзем крытык **Лада Алейнік.** Не менш уражлівы партрэт свайго даўняга сябра Сяргея Іванова выпісаў і паэт **Славамір Адамовіч.** Гэта тэкст пра беларуса, які ў пэўным сэнсе так і не стаў самадастатковым Чалавекам, а яшчэ пра тое даўняе-пракаветнае (купалаўскае) жаданне «людзьмі звацца»...

Публікуецца артыкул памяці трагічна загінулага Сержука Маціна, з любоўю напісаны **Людмілай Рублеўскай.** Таксама змешчана нізка лепшых вершаў маладога паэта.

Напрыканцы часопіса — арыгінальная рэцэнзія-эсэ на кніжку «люстрацый» А. Лукашука «Зкімбы-зымбы» ўжо вядомага крытыка **Ціхана Чарнякевіча.**

А яшчэ анансуюцца новыя кніжкі ды падаецца змест часопіса за прамінулы (2013) год.

Прыемнага чытання.

## Зборнік пра Еўрамайдан

**Ва Украіне выйшла кніга «Еўрамайдан. Хроніка пачуццяў».**

Шасцёра ўкраінскіх пісьменнікаў прадставілі зборнік пра масавую шматмесячную акцыю пратэсту ў Кіеве. Сяргей Жадан, Тарас Прахасько, Юры Андруховіч, Іван Цыпердзюк, Юры Вынныччук і Васіль Карпюк стварылі серыю эсэ, якія адлюстроўваюць іх рэакцыю на тую ці іншую падзею, што адбылася ва ўкраінскай сталіцы ў апошнія месяцы. Напрыканцы кнігі «Еўрамайдан. Хроніка пачуццяў» прыведзена храналогія асноўных этапаў Еўрамайдана, якая дапамагае прасачыць, як разгортваўся грамадзянскі пратэст.

Укладальнікі зборніка адзначаюць, што тэксты пісаліся з канца лістапада 2013 года, з першых дзён акцыі. Шэраг эсэ быў апублікаваны ва ўкраінскіх перыядычных выданнях.

У якасці ідэі для вокладкі была абрана канцэпцыя, прапанаваная Аксанай Клёцкай. На фота дзяўчына з завязанымі вачыма (мадэль Іванна Берчак) чырвонай ніткай зашывае ўкраінскі нацыянальны сцяг. Па словах дызайнера вокладкі Мікалая Шкварока, ідэя сімвалізуе незалежнасць і цэласнасць Украіны ў любых акалічнасцях.

### ЛІТКАЛЕЙДАСКОП

## Юбілей расійскага кнігадрукавання

**450 гадоў назад у Маскве выйшла першая друкаваная кніга «Апостал». Наказам Івана Жахлівага і пры дабраславенні мітрапаліта Макарыя 10 сакавіка 1564 года ў маскоўскай друкарні ліцвінаў-беларусаў Івана Федаровіча (Фёдарава) і Пятра Мсціслаўца выйшла першая ў Расіі друкаваная кніга «Апостал».**

«Апостал» змяшчае першыя ўзоры тлумачэння Святога Пісання вучнямі Ісуса Хрыста. Кніга стала ўзорам, які выкарыстоўваўся ў падрыхтоўцы наступных выданняў. Сама ж кніга стваралася амаль год: для яе трэба было не толькі падрыхтаваць тэкст, але і зрабіць абсталяванне, выліць шрыфты, набраць старонкі; у рэдагаванні кнігі мітрапаліт Макарый браў удзел асабіста. У выніку атрымалася кніга, выкананая на прафесійным узроўні і высока адзначаная друкарамі з краін Еўропы.

Дарэчы, менавіта гэтае «трафейнае» выданне было выяўлена на дачы экс-прэзідэнта Украіны В. Януковіча ў Міжгор'і...

## Невядомы Жукоўскі



**Навукоўцы філалагічнага факультэта Томскага дзяржаўнага ўніверсітэта знайшлі 300 раней невядомых тэкстаў Васілія Жукоўскага (1783–1852).**

В. Жукоўскі — класік расійскай паэзіі. Нарадзіўся ў Бялёўскім уездзе Тульскай губерні Расіі, «пабочны» сын тульскага памешчыка Буніна і палоннай турчанкі, які атрымаў прозвішча свайго «хроснага» — шляхціча-беларуса. В. Жукоўскі — аўтар першага афіцыйнага гімна Расіі «Молитва русских», «настаўнік» імператара Аляксандра II.

Даследнікі творчасці В. Жукоўскага на працягу 15 гадоў займаюцца выданнем тамоў поўнага Збора твораў паэта. За гэты час філолагі знайшлі каля 300 тэкстаў, раней невядомых шырокай грамадскасці.

Выданне поўнага Збора твораў В. Жукоўскага, якім цяпер займаюцца на філалагічным факультэце ТДУ, стане першай спробай сабраць разам усю творчую спадчыну паэта і перакладчыка. З 20 запланаваных тамоў ужо выдадзена 14.

«У розных гарадах свету існуе каля 15 архіваў Васіля Жукоўскага, кожны з якіх мы павінны былі вывучыць. У гэтых архівах мы знайшлі каля 300 новых тэкстаў В. Жукоўскага, якія ўключылі ў Збор твораў», — паведаміў загадчык кафедры расійскай і замежнай літаратуры ТДУ Аляксандр Янушкевіч.

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў www.novostiliteratury.ru, Agence France-Presse, espreso.tv, www.vsiknygy.net.ua/news, lenta.ru, РІА «Новости», www.dw.de.**

# «Змагаймася за Украіну!»

**Кіеўскія пісьменнікі заклікаюць улады Украіны адстойваць незалежнасць і адзінства дзяржавы. Пра гэта гаворыцца ў заяве Кіеўскай арганізацыі Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны на старонцы ў «Facebook» кіраўніка філіі Міхайлы Сідаржэўскага.**



«У гэты незвычайна трывожны для Украіны час сталічныя пісьменнікі звяртаюцца да прадстаўнікоў улады, да патрыётаў, да ўсіх нераўнадушных грамадзянаў нашай краіны! Мы не хочам, мы адмаўляемся верыць, што можа стацца непапраўнае... Мы звяртаемся да вышэйшага заканадаўчага органа дзяржавы — Вярхоўнай Рады: не маўчы! Скажы сваё цвёрдае і адзінагалоснае слова пра недапушчальнасць агрэсіі і гатоўнасць супрацьстаяць акупацыі ўкраінскай зямлі! Народ і армія павінны пачуць голас вышэйшага кіраўніцтва дзяржавы», — гаворыцца ў заяве.

Паводле яе аўтараў, выключна важную ролю сёння мусяць адыгрываць сродкі масавай інфармацыі. «У гэты трывожны час усе ўкраінскія СМІ павінны праявіць сваю высокую грамадзянскую свядомасць і максімальна інфармаваць насельніцтва пра становішча ў Крыме і ў іншых рэгіёнах Украіны, дзе існуе пагроза для ўкраінскай дзяржаўнасці», — заклікае Кіеўскае аддзяленне НСПУ. Кіеўскія пісьменнікі звяртаюцца да лідэраў палітычных партый, грамадскіх і творчых арганізацый, украінскіх цэркваў з заклікам выкарыстоўваць усе магчымасці для гуртавання ўкраінцаў.

«Змагаймася за Украіну! Змагаймася за мірную і суверэнную будучыню нашых дзяцей і ўнукаў! Усімі магчымымі — пакуль што мірнымі — спосабамі!», — просяць украінскія творцы.

Вядома, што палітыка Расіі адносна Украіны (і, у прыватнасці, Крыма) рэзка крытыкуецца міжнароднай супольнасцю. ЕС і ЗША прыстрашылі Расію санкцыямі. Украіна, ЕС і ЗША заявілі, што не прызнаюць законнымі вынікі рэферэндума па ўваходжанні Крыма ў склад Расійскай Федэрацыі.

Сваю падтрымку незалежнай і дэмакратычнай Украіны і яе творцаў напрацягу апошніх месяцаў неаднаразова ў сваіх заявах выказвалі сакратарыят і Рада Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Каля ста дзеячаў навукі, мастацтва і культуры Беларусі (сярод іх — Уладзімір Арлоў, Зінаіда Бандарэнка, Лявон Баршчэўскі, Анатоль Вярцінскі, Радзім Гарэцкі, Валянцін Голубеў, Віктар Дашук, Валянцін Жданко, Сяргей Законнікаў, Святлана Калінкіна, Аляксей Кароль, Ігар Кузняцоў, Аляксей Марачкін, Уладзімір Някляеў, Алесь Пашкевіч, Пётра Садоўскі, Міхась Скобла, Юры Хашчавацкі, Віктар Шалкевіч) 14 сакавіка падпісалі зварот у падтрымку Украіны.

«Мы рашуча асуджаем усе спробы дзяліць Украіну па этнічным прынцыпе і выступаем за мірнае вырашэнне праблемаў унутры краіны самімі грамадзянамі Украіны ў рамках закона, — гаворыцца ў звароце. — Для нас, беларусаў, Харкаў, Данецк, Сімферопаль, Адэса — гэта такія ж украінскія гарады, як Львоў, Луцк, Чарнаўцы і Палтава. Украіна павінна захаваць у межах, якія замацаваліся за ёй з моманту падпісання Белавежскіх пагадненняў.

Мы з вамі, мы — за непадзельную Украіну, мы — за незалежную еўрапейскую Украіну, будучыню якой мае права вырашаць толькі яе народ».

Тым часам дзеячы культуры і мастацтваў Расіі выказвалі зусім іншыя думкі. Так, Саюз пісьменнікаў Расіі звярнуўся з адкрытым лістом да прэзідэнта Уладзіміра Пуціна і Федэральнага Схода, канстатуючы падтрымку дзеянняў расійскіх уладаў адносна сітуацыі ва Украіне. У тэксце ліста ў «лепшых савецкіх стылістычных і лексічных традыцыях» гаворыцца аб тым, што «дэструктыўныя сілы Захаду», здзейсніўшы «дзяржаўны пераварот» ва Украіне, перайшлі ў наступ на галоўны маральны вынік другой сусветнай вайны — на забарону і асуджэнне фашызму і нацызму.

На думку падпісантаў, новыя ўлады ў Кіеве сёння заняты не забеспячэннем правапарадку і бяспекі грамадзянаў, а «забаронай рускай мовы» і пераследам рускамоўных. «Гэта значыць, што хутка, як у Трэцім рэйху, запалаюць кнігі вялікіх прадстаўнікоў сусветнай літаратуры», — безапеляцыйна гаворыцца ў тэксце.

Пад лістом ад 6 сакавіка значацца, між іншых, прозвішчы вядомых расійскіх пісьменнікаў Юрыя Бондарава, Валянціна Распуціна, Уладзіміра Крупіна, Валерыя Ганічава, Станіслава Куняева.

За расійскімі літаратарамі паставілі свае подпісы пад лістом «У падтрымку пазіцыі прэзідэнта па Украіне і Крыме» і 85 расійскіх акцёраў, спевакоў і кінарэжысёраў. Сярод іх Аляксей Баталаў, Сяргей Бязрукаў, Міхаіл Баярскі, Алег Табакоў, Васілій Ланавой, Генадзій Хазанаў, Алег Газманаў, Фёдар Бандарчук, Станіслаў Гаварухін, Павел Лунгін, Зураб Цэрэтэлі, Мікалай Цыскарыдзэ, дырыжоры Юрый Башмет і Уладзімір Співакоў.

«У дні, калі вырашаецца лёс Крыму і нашых суайчыннікаў, дзеячы культуры Расіі не могуць быць абыякавымі назіральнікамі з халодным сэрцам. Наша агульная гісторыя і агульныя карані, наша культура і яе духоўныя вытокі, нашы фундаментальныя каштоўнасці і мова аб'ядналі нас назаўжды. Мы хочам, каб агульнасць нашых народаў і нашых культур мела трывалую будучыню. Вось чаму мы цвёрда заяўляем пра падтрымку пазіцыі Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі па Украіне і Крыме», — гаворыцца ў звароце.

Афіцыйная расійская пазіцыя была агучана вуснамі міністра замежных спраў Лаўрова: Крым для Расіі — больш, чым Каморскія астравы для Францыі і Фалкленды для Брытаніі. Маўляў, у 1783 годзе Екацярына II апублікавала маніфест аб прыняцці ў склад імперыі «паўвострава Крымскага». А што ж сказаць нашчадкам кімерыйцаў, таўраў, скіфаў, старажытных грэкаў, караімаў, генуэзцаў, залатаардынцаў, туркаў, якім стагоддзямі да расійска-імперскіх заваёўнікаў належала тая зямля і вада вакол яе? Зрэшты, факт застаецца фактам: Крымскае ханства стварыў Вітаўт, а таму, па «лаўроўскай» логіцы, нашчадкам ВКЛ таксама ёсць на што квапіцца...

Аднак не ўсе расійскія творцы хочуць вайны. Празаік Барыс Акунін жорстка раскрытыкаваў улады сваёй краіны і прэзідэнта Пуціна за ўварванне ва Украіну. Ёсць і тыя, хто выходзіць на акцыі пратэсту. Але плакаты «Не — вайне!» цяпер у Расіі па-за законам, за такія лозунгі выносяцца адміністрацыйныя суды. Як, зрэшты, і ў Беларусі...

Між тым у сацыяльных сетках гуляе такі жарт: «І ў страшным сне Гітлеру ў 45-м не магло прысніцца, што канцлер Германіі будзе ўгаворваць Расію не нападаць на Украіну»...

Літаратурная Беларусь

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

TV

## 6 КРАСАВІКА, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.10** Меладрама «Мой ласкавы і пяшчотны звер» (СССР).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Сваты-2» (Украіна). 2-я серыя.
**10.55** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** «XXL WOMAN TV». Жаночы часопіс.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.15** Каробка перадач.
**13.50** Таямніцы следства.
**14.30** БеларусьLIFE.
**15.15** Твой горад.
**15.30** «Eurovision». Вынікі тыдня.
**15.50** Дак. цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**17.25** Меладрама «Навучаю гры на гітары» (Расія). 1-я - 4-я, заключная, серыі.
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Містычны трылер «Дракула» (ЗША).
**00.30** Камедыйны серыял «Сваты-2» (Украіна). 2-я серыя.

### АНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.45** «Фазэнда».
**11.20** «Краіна цудаў Рыны Зялёнай».
**12.20** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**13.35** Фільм «Прыгоды жоўтага сабакі».
**15.05** «Яўген Лявонаў. Страх адзіноты».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Камедыя «Паласаты рэйс».
**18.00** АНТ прадстаўляе: «Рассмяшы коміка».
**18.50** «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** АНТ прадстаўляе: «Дыханне планеты».
**21.40** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Вышэйшая ліга.
**00.00** Трылер «Тэлефонная будка».

### СТВ

**06.10** «Студэнты». Серыял.
**07.50** Фільм «Дванаццаць сяброў Оўшэна» (ЗША, 2004 г.).
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Выйсці замуж за капітана» (СССР, 1985 г.).
**14.25** «Тэрыторыя памылак».
**15.25** «Уявіце сабе».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Прэм'ера! «Чатыры вяселлі».
**17.50** «Аўтапанарама».
**18.20** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «ПіраМММіда» (Расія, 2011 г.).
**22.45** Прэм'ера! Шоў «Арганізацыя Вызначаных Нацый».
**00.15** Фільм «Успаміны нядачніка» (Вялікабрытанія, 2008 г.).

### Беларусь 2

**07.45** Камедыйны серыял «Ластаўчына гняздо» (Украіна).
**08.45** Тэлебарометр.
**08.50** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**09.40** Заўтра - гэта мы!
**10.15** Прэм'ера. «Два з паловай кухары. Адкрытая кухня». Кулінарны майстар-клас.
**10.45** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**12.45** Аўтабатл.
**13.20** Стыль-бюро.
**13.55** Забаўляльная шоў-праграма «СуперІнтуіцыя. Каханне».
**15.00** Фантастычны баявік «Гадзіла» (ЗША - Японія).
**17.30** «Пад грыфам «Вядомыя».
**18.00** «Comedy woman». Гумарыстычнае шоў.
**19.15** Суперлато.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** Спортлата 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Цела чалавека.
**21.40** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**23.35** Трылер «Парфумер. Гісторыя аднаго забойцы» (Германія - Францыя - Іспанія).

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Сяброўка Восень». Мастацкі фільм. 1-я - 4-я серыі.
**11.20** «Эпоха». Мікалай Судзілоўскі-Русель.
**12.10** «Калейдаскоп».
**12.15** Прэм'ера. «Аляксей Дудараў. Крыніца часу». Фільм першы. Дакументальны фільм.
**12.45** Прэм'ера. «Аляксей Дудараў. Рака часу». Фільм другі. Дакументальны фільм.
**13.10** «Пейзажы скрозь час». Гарлачыкі Манэ.
**13.35** «Размаўляем па-беларуску».
**13.40** «Дрысвяты. Песня і лёс». Дак. фільм.
**14.20** «Тэатральны ліцэй». Сапластнікі. Выпускнікі школы-студыі МХАТ успамінаюць сваіх аднакурснікаў.
**14.50** «Музеум». Скульптурныя надмагіллі.
**15.05** «Калейдаскоп».
**15.10** «Ад сэрца да сэрца...» Рамансы ў выкананні заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь Тамары Пячынскай.
**16.40** «Масква-Мінск. Кінатранзіт». Ларыса Шапіцька. «Узыходжанне».
**17.05** «Размаўляем па-беларуску».
**17.10** «Наперад у мінулае».
**17.40** «Аповесць мінулых гадоў». Мультфільм. Часткі 1-я - 5-я.
**18.40** «Культпрасвет».
**19.05** Сусветнае кіно. «Крамер супраць Крамера».
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.10** Канцэрт, прысвечаны Дню адзінства народаў Беларусі і Расіі.
**22.45** Прэм'ера. «Аляксей Дудараў. Крыніца часу». Фільм першы. Дакументальны фільм.
**23.10** Прэм'ера. «Аляксей Дудараў. Рака часу». Фільм другі. Дакументальны фільм.
**23.35** «Культпрасвет».
**00.00** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**08.00, 10.00, 13.00, 16.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.20** «Першая передача».
**10.50** «Цуд тэхнікі».
**11.20** «Паедзем, паямо!».
**11.55** «Дачны адказ».
**13.15** «Таямнічая Расія».
**14.10** Баявік «Другі забойны».
**16.15** «І зноў добры дзень!».
**16.40** «Следства вялі...».
**17.35** «Вочная стаўка».
**18.25** «Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень».
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.50** Гангстарскі баявік «22 кулі: несмяротны».
**22.00** Крымінальны трылер «Вораг дзяржавы № 1: легенда».
**00.25** «Гогаль і ляхі».

### Белсат

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Прыгода ката Філімона», «Аповеды таты Бабра», «Вынаходлівы Дабрамір».
**07.50** «Тры шалёныя нулі», серыял: 11 серыя.
**08.15** Зона «Свабоды».
**08.50** «Апантаныя», дак. цыкл.
**09.05** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Які гумар беларускі?
**09.30** Без рэтушы: «Неабмежаваны магчымасцямі», рэпартаж, рэж. Кацярына Севасцянава, 2014 г., Беларусь.
**09.50** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.15** Невядомая Беларусь: «Праклятыя і забытыя», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**10.50** Казкі для дзетак: «Прыгода ката Філімона», «Аповеды таты Бабра», «Вынаходлівы Дабрамір».
**11.25** «Ажыятаж вакол Басі», серыял: 6 серыя.
**11.55** «Тры шалёныя нулі», серыял: 11 серыя.
**12.20** «Барбурка», маст. фільм, 2005 г., Польшча.
**13.35** МакраФон: «Салідарныя з Беларуссю – 2012», канцэрт.
**13.55** Фітнес-шмітнес.
**14.15** «Парадокс», серыял: 13 серыя.
**15.05** «Дзеці і рыбы», маст. фільм, 1997 г., Польшча.
**16.45** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 9 серыя.
**17.30** «Сага старадаўняй пушчы», дак. серыял.
**18.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.55** Калыханка для самых маленькіх: «Вынаходлівы Дабрамір».
**19.10** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Станіслаў Манюшка.
**19.20** «Людскія справы».
**19.55** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.25** Дакументальная гадзіна: «Джынсы, планета ў сінім», дак. фільм, 2010 г., Францыя.
**21.25** Фільматэка майстроў: «Кава і цыгарэты», камедыя, 2003 г., ЗША.
**23.00** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Наталля Ганул і музычная спадчына Беларусі.
**23.30** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афоміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 3012741108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234 .**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______
Время приема ______ ч. ______ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб.

**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**

«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. **Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя: 3012741108019 Лицевой счет: Код 739

УНП*: 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир

# Італьянскі парад суверэнітэтаў

Алег НОВІКАЎ

**Пасля таго, як большасць жыхароў Венецыі падчас кансультацыйнага плебісцыту выказаліся за стварэнне сваёй асобнай дзяржавы, Італію можа чакаць рост цэнтрабежных тэндэнцый.**

Удзельнікам апытання ў Венецыі было прапанавана адказаць на пытанне: «Ці падтрымліваеце вы стварэнне «незалежнай і суверэннай Рэспублікі Венета» ў рэгіёне вакол Венецыі»? Абсалютная большасць (каля 89 адсоткаў) з тых, хто прагаласаваў (галасаванне праходзіла праз інтэрнэт), палічылі такую ідэю вельмі своечасовай. Таксама падтрымалі і іншыя прапановы, уключаныя ў апытанку: уступленне новай краіны ў NATO, далучэнне да Еўразоны і г.д.

У прынцыпе, плебісцыт мае выключна кансультацыйны характар, і цэнтральная ўлада магла б яго смела ігнараваць. Так бы, напэўна, і было, калі б не шакуючая лічба тых, хто прыняў удзел у мерапрыемстве. Усяго на заклік арганізатараў апытання літаральна за 6 дзён правядзення акцыі адгукнулася аж 2,3 мільёна чалавек (!), або 63 працэнты ўсіх жыхароў рэгіёну, якія маюць права голасу.

Супраць незалежнасці сярод тых, хто галасаваў, выказаліся толькі каля 250 тысяч чалавек. Прычым галасавалі людзі па той жа працэдуры, што і на сапраўдных выбарах: каб зарэгістравацца ў якасці ўдзельніка, трэба было ўвесці свой код выбаршчыка, які даецца італьянскім грамадзянам для галасавання па інтэрнэту. Іншымі словамі, падману тут не было.

Такі поспех натхніў партыю «Ліга Поўначы» — арганізатара апытання — паспрабаваць правесці афіцыйны рэферэндум, вынікі якога б мелі юрыдычна-прававыя наступствы. Пра гэта заявіў адзін з ініцыятараў апытання, лідар рэгіянальнага ўраду Лука Зайа падчас маніфестацыі, што адбылася ў апошні дзень галасавання.

Падаецца, самі сепаратысты не чакалі такога фурору. Увогуле, аўтанамісцкі рух у Венецыі — так званая Liga Veneta (Венецыйская ліга) — узнік яшчэ ў 1980 годзе. Прычым на першым этапе існавання галоўнай мэтай руху была прапаганда гісторыі горада і яго культурнай спадчыны. Напрыклад, мала вядома, што існуе венецыянскі дыялект, на якім па ўсім свеце размаўляюць каля 4 мільёнаў чалавек. Стваральнікі Liga Veneta патрабавалі прыняцця мер па абароне мовы. Толькі пазней імі пачалі фармулявацца палітычныя лозунгі. Праўда, напачатку электарат абсалютна не разумеў, навошта венецыянцам аўтаномія або незалежнасць. На працягу 1980-х гадоў Liga Veneta збірала на выбарах не больш 0,5 працэнтаў.

Стан рэчаў кардынальна змяніўся на пачатку 1990-х, калі гучна ляснулася ўся італьянская палітычная сцэна. На тое былі дзве прычыны. Першая — крызіс левых партый як следства развалу СССР. Другая — маральнае фіяска правацэнтрыстаў з-за шэрагу буйных карупцыйных скандалаў. На фоне кампраметацыі старых партый на палітычную арэну выйшла і згамла замацавацца «Ліга Поўначы» — федэрацыя малых паўночна-італьянскіх партый, накшталт Liga Veneta.

«Ліга Поўначы» прапанавала праект федэралізацыі Італіі з замацаваннем прэферэнцый на карысць паўночных абласцей, дзе канцэнтруецца прамысловасць і фінансавыя цэнтры. Радыкальная фракцыя патрабавала стварэння на поўначы Італіі асобнай незалежнай дзяржавы — Паданіі.

Паступова гэта ідэя пачала захопліваць масы. У 1990 годзе Liga Veneta, атрымаўшы 5 працэнтаў на выбарах у рэгіянальны парламент, увайшла ў вядучы дывізіён венецыянскай палітыкі. На апошніх выбарах за партыю галасавала каля 28 працэнтаў, а яе кандыдат на пасаду рэгіянальнага прэм'ера ў кааліцыі з іншымі правымі партыі атрымаў 54 працэнты.

На поспех венецыянскіх незалежнікаў у значнай меры спрацаваў міф пра незалежную Рэспубліку Венецыю, што дасягнула зеніту ў сярэднявеччы. На той час Венецыя кантралявала практычна ўсе марскія маршруты ў Міжземным моры і ўплывала на палітыку вялікіх дзяржаў. Эра росквіту Венецыі закончылася пасля адкрыцця шляху ў Амерыку. А ў 1797 годзе Напалеон захапіў горад і паклаў канец яго фармальнай незалежнасці.

Тым не менш, апошнія гадоў дзесяць праект незалежнай дзяржавы Паданія згадваўся як нейкі недасяжны ідэал. Але зараз нечакана ўсё больш людзей пачынаюць успрымаць ідэю стварэння сваёй дзяржавы не як утопію, а як рэальную магчымасць. Прычым, настрой настолькі рашучы, што лідары «Лігі Поўначы» абвясцілі ідэю федэралізацыі Італіі пройдзеным этапам і ставяць пытанне выключна пра суверэнітэт.

Сакрэт сепаратысцкага выбуху, паводле мясцовых палітолагаў, звязаны з абвастрэннем фінансава-эканамічных праблем на поўначы краіны. Так, за час крызісу толькі ў Венецыі страцілі працоўныя месцы каля 85 тысяч чалавек. 8 тысяч прадпрымальнікаў прыпынілі працу. Між тым, вялікі адсотак ад падаткаў, якія плацяць на поўначы Італіі, ідуць на падтрымку беднага паўднёвага рэгіёну краіны. Той факт, што грошы (называецца лічба да 70 мільярдаў еўра штогод) могуць застацца на месцы, бударажыць мазгі паўночнікаў. Калі б грошы заставаліся, паводле разлікаў эканамістаў, незалежная Рэспубліка Венета была б адной з самых заможных краін на ўсёй Еўропе, а дакладней, займала б сёмае месца.

Узрастанню палітычнай напружанасці спрыяе тое, што Рым упарта не хоча дзяліцца паўнамоцтвамі з перыферыяй. У 2006 годзе парламент праваліў законапраект аб пашырэнні функцый уладаў на месцах. Яшчэ адным ускосным фактарам для фронды стаў рост сепаратысцкіх тэндэнцый у Каталоніі і Шатландыі, дзе ў гэты год пройдуць плебісцыты аб стварэнні сваіх асобных дзяржаў. Безумоўна, паўплывалі на тонус нацыяналістаў і навіны з Крыму.

Венецыянскія сепаратысты наўпрост экстрапалююць крымскія падзеі на Венецыю, з той, аднак, розніцай, што бачаць на месцы Расіі Германію. Кіраўнікі «Лігі Поўначы» сцвярджаюць, што палітычная культура, працоўная этыка і каштоўнасці на Паўночнай Італіі сфармаваліся ў часы, калі гэтыя рэгіён уваходзіў у склад Свяшчэннай Рымскай Імперыі (садружнасць нямецкіх дзяржаваў з 962 па 1807 год).

Як вынік, Берліну з Паўночнай Італіі ўвесь час дасылаўся недвухсэнсоўны сігнал з просьбай аб пратэкцыі. Стратэгі з «Лігі Поўначы» спадзяваліся, што Германія адрэагуе прыкладна так, як у часы югаслаўскага канфлікту, калі яна першай прызнала незалежнасць Славеніі і Харватыі. Берлін доўгі час хутчэй з іроніяй успрымаў заявы тэарэтыкаў «Лігі Поўначы». Аднак цяпер тон нямецкай прэсы нечакана змяніўся. Шэраг палітыкаў, у тым ліку былы дырэктар нямецкага МЗС Ганс-Дзітрых Геншэр, кажуць пра неабходнасць прыглядзецца да сепаратысцкіх працэсаў у Венецыі. А ўплывовае выданне «Corriere della Sera» ўвогуле піша, што крызісны стан італьянскай гаспадаркі можа прывесці для перагляду сфер уплываў гэтай часткі Еўропы.

Аднак наўрад усё будзе так проста. Па-першае, цэнтр не дапусціць, каб паўночная частка краіны так проста адкалолася. Не ў захапленні ад сепаратызму і ў Брусэлі. Між тым, рэферэндум у Венецыі, падаецца, выклікаў эфект даміно. Не паспелі агучыць яго вынікі, як падобныя рэферэндумы вырашылі правесці ў Ламбардыі, у Вероне і іншых паўночных гарадах і правінцыях поўначы Італіі.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Расійская анексія Крыму можа мець і іншыя наступствы для Беларусі. Каб утрымаць Крым, Расіі давядзецца рабіць значныя інвестыцыі ў яго транспартную, газавую і іншыя інфраструктуры. Грошы, якія выкарыстоўваюцца для інвестыцый у гэтыя галіны, не будуць даступныя для далейшых беларускіх субсідый. Не дзіўна, што Лукашэнка ў апошнія тыдні відавочна стараўся быць далей ад Пуціна. Беларусь пачала намякаць на тое, што хоча палепшыць адносіны з ЕС, пагадзіўшыся ў лютым удзельнічаць у візавых перамовах з Бруселем. Але якія-небудзь зрухі ў бок ЕС будуць праходзіць паступова. Лукашэнка — па-ранейшаму дыктатар, у якога мала цікавасці адпавядаць еўрапейскім дэмакратычным стандартам. Цяпер Лукашэнка знаходзіцца ў расійскім лагеры і прыкідвае шляхі адыходу. Пакуль што ён не накіроўваецца да дзвярэй на выхад, але толькі пакуль. Аднак пасля агрэсіўнага захопу Пуціным Крыма Лукашэнка пачаў больш трывожна пазіраць у бок выхаду.

**«Foreign Affaires» (ЗША)**

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка мог бы выступіць у ролі пасярэдніка для ўрэгулявання адносін паміж Украінай і Расіяй. Лукашэнка быў бы найбольш адэкватным у ролі пасярэдніка. Ён зможа справіцца нашмат лепш, чым дзясяткі еўрапейскіх і амерыканскіх палітыкаў. Лукашэнка ў прынцыпе спрабаваў досыць прагматычна падысці да сітуацыі, якая склалася... Ён разумее, што Украіна з'яўляецца важным эканамічным партнёрам, і Беларусь сёння не можа адмовіцца ад супрацоўніцтва з Украінай. Акрамя таго кіраўнік СБУ Валянцін Налівайчанка з'яўляецца «асабістым блізкім сябрам Лукашэнкі», і яны падтрымліваюць кантакты ўжо шмат гадоў.

**«Вести» (Украіна)**

Ад эканамічных праблем ніхто не застрахаваны. Акрамя таго, у 2015 годзе, зусім хутка, адбудуцца чарговыя прэзідэнцкія выбары. Лукашэнка на іх, хутчэй за ўсё, не пойдзе: усё ж пяты тэрмін — гэта зашмат. Адзінай прымальнай кандыдатурай пакуль што бачыцца экс-кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі, цяперашні міністр замежных спраў Уладзімір Макей. Аднак пакуль у таго няма неабходнай грамадскай падтрымкі, падтрымкі ўнутры палітычных і сілавой элітаў у краіне. Цалкам верагодна, што пры развіцці радыкальнага сцэнару, у пераходны перыяд паміж перадачай улады ад Лукашэнкі да пераемніка, апазіцыя паспрабуе зрабіць спробу дзяржаўнага перавароту. Так, беларускі спецназ мацней і больш ідэалагічна вытрыманы, чым «Беркут». Так, у Беларусі няма сваёй Галіцыі, дзе пераважаюць кардынальна іншыя настроі, чым у астатняй частцы краіны. Так, Лукашэнка і Януковіч — гэта неба і зямля. Але ніхто не ведае, што будзе ўжо заўтра.

**«Глагол» (Расія)**

Украінскі крызіс фактычна рэзка прытармазіў фарміраванне Еўразійскага саюза. Па-першае, таму, што такі эфектыўны альянс у прынцыпе немагчымы без удзелу Украіны. А па-другое, «крымскі сіндром» ужо напалохаў эліты і Казахстана, і Беларусі. Ні Назарбаеў, ні Лукашэнка, фармальна найбольш блізкія да Масквы партнёры і саюзнікі, не апладзіравалі сцэне паглынання Крыма Расіяй.

**«Wordyou» (Расія)**

Іяшчэ адзін дадатковы штрых. Пасля Расіі я прыехаў на дзень у Беларусь. Глядзеў мясцовыя навіны. Дык вось: пра далучэнне Крыма — ні слова. Ні слова! Нельга, вядома, казаць, што Бацька баіцца: вось цяпер пад шумок і яго далучаць. Ён за незалежнасць Беларусі ўсё дзесяць мільёнаў пакладзе — вокам не міргне. Адна справа — сам сабе прэзідэнт, іншае — быць губернатарам у Пуціна. Вядома, Беларусь не далучаць. Але Бацька не хоча, каб нават думка пра гэта з'явілася ў галовах беларусаў. Трындзець пра саюз — гэта адно. А аб'ядноўвацца на справе — іншае. Так што яшчэ аднаго заўзятага нацыяналіста, толькі ўжо ў асобе Лукашэнкі, Расія атрымала.

**9tv.co.il ( Ізраіль )**

Па нашых апошніх дадзеных, па перыметры ўкраінскіх межаў знаходзяцца 83 тысячы чалавек усіх расійскіх груповак. Беларускую групоўку лічым малаверагоднай. Лукашэнка не пярэчыць Крамлю, але па шэрагу іншых фактараў відаць, што ён далёка не вітае ўварванне рускіх ва Украіну. Апошнія два тыдні СМІ Беларусі, якія знаходзяцца пад поўнай цэнзурай, пачынаюць даволі жорстка крытыкаваць расіян і паказваць, што беларусы выступаюць за адзіную суверэнную Украіну.

**«Ракурс» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Новае свята — Дзень канца аднапалярнага міру?

Шэраг патрыятычных арганізацый Расіі прапанавалі ўнесці ў каляндар чырвоных дат дзень 18 сакавіка — у памяць падпісання Пуціным дамовы аб інкарпарацыі Крыму і Севастопаля ў склад Расійскай Федэрацыі. Прычым святкаваць прапануецца не толькі пашырэнне тэрыторыі дзяржавы за кошт краіны-суседкі. «Гэты дзень увойдзе ў расійскую гісторыю як трыумф справядлівасці і адзінства Рускага свету. Менавіта гэты дзень выразна зафіксаваў канец эпохі аднапалярнага свету, які незваротна сышоў у мінулае. Расія вярнулася ў вялікую палітыку. Руская цывілізацыя зноў збіраецца актыўна адстойваць сваю ідэнтычнасць, інтарэсы носьбітаў рускай мовы і рускай культуры», — гаворыцца ў матывацыйным лісце адной з тусовак рускіх патрыётаў. Адначасова некаторыя патрыёты заклікаюць выкінуць з календара 12 чэрвеня — Дзень Расіі ў памяць аб прынятай у 1990 годзе Дэкларацыі аб суверэнітэце РФ. Свята 12-га чэрвеня даўно мазоліла вока дзяржаўнікам, з той прычыны, што па сутнасці абвяшчэнне суверэнітэту РСФСР спрыяла развалу СССР, які яны мараць адрадзіць. Адначасова шэраг СМІ не выключаюць, што 18 сакавіка можа замяніць 4 лістапада — Дзень адзінства Расіі. Справа ў тым, што 4 лістапада ў сілу незразумеласці прыроды святкавання (свята звязанае з падзеямі часоў вялікай смуты) абыякава простаму чалавеку і па сутнасці ператварылася ў дзень мабілізацыі праварадыкалаў і пагромшчыкаў.

**Паводле расійскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Піраты і бамбардзіроўка Дрэздэна ў 1944 годзе

У нямецкай Партыі піратаў адбыўся раскол. Палова сяброў федэральнага кіраўніцтва падала ў адстаўку з-за скандалу Bombergate. Bombergate звязаны з даўняй датай — бамбардзіроўкай Дрэздэну брытанскай авіяцыяй у лютым 1944-га. Тады прапаганда Гебельса ператварыла налёт у нейкае архізлачынства супраць немцаў (падчас налёту было забіта каля 200 тысяч чалавек). Нядзіўна, што кожны год нацысты адзначаюць дату, а іх праціўнікі і грамадскасць спрабуюць не дапусціць вылазак карычневых. Адбылася такая акцыя і ў гэтым годзе. Далей за ўсіх пайшла маладая актрыса Ганна Хелм (Anne Helm), сябра Партыі піратаў. Яна сфатаграфавалася з сяброўкай у стылі «Фемен», намаляваўшы на сваім аголеным бюсце: «Thanks Bomber Harris» (англ.: Дзякуй бамбардзіроўшчыку Харысу). Выяву выклалі ў сеціва і атрымалі мегаскандал. Справа ў тым, што Артур Харсыс — імя брытанскага вайскоўца, які прапанаваў план бамбардзіроўкі Дрэздэна. Акцыя выклікала хвалю крытыкі таксама з боку некаторых аднапартыйцаў. У выніку прыхільнікі і праціўнікі Ганны Хелм пачалі шукаць адзін на аднаго кампрамат, узломваючы электронныя паштовыя скрыні і выкладваючы іх змест у інтэрнэт. Прыдзірліва вывучылі фотаздымкі сябровак і знайшлі на руцэ у адной з іх татуіроўку, быццам бы падобную на тую, што носяць нацысты. Адным словам, у партыі пачалася поўная паранойя. Першымі не вытрымалі апаненты Хелм, якія вырашылі сысці з партыі. На іх думку, Партыя піратаў акупавана сталіністамі. Палітолагі пішуць, што гэта фрагмент вайны за тое, якой партыяй будуць піраты — левай або леваліберальнай. Цікава, што сама Ганна Хелм даўно ўжо заявіла, што шкадуе пра ўдзел у правакацыйным флешмобе.

**Паводле нямецкай прэсы**

### УКРАІНА. Данбас хоча ў склад Вялікабрытаніі

Паралельна кампаніям за прыяднанне Данбасу да Расіі або за захаванне яго цяперашняга статусу як суб'екта Украіны ў рэгіёне набірае маштаб акцыя за прыяднанне краю да Вялікабрытаніі. Падставай для такой незвычайнай акцыі стаў той гістарычны факт, што горад Юзаўка (цяперашні Данецк) быў заснаваны англійскім прадпрымальнікам Джонам Юзам. «Данчане! Браты-ангельцы! Наступіў вырашальны момант! Толькі табе вырашаць, дзе будуць жыць твае дзеці. І на якой мове размаўляць! Як вядома, Юзаўка (Данецк) — спрадвечна англійскі горад, заснаваны вялікім прамыслоўцам-ангельцам — Джонам Юзам. На працягу больш за сотню гадоў рускія падманвалі нас, што гэта спрадвечна рускі горад, а украінцы — што ўкраінскі! Мы патрабуем рэферэндуму па вяртанні Юзаўкі ў склад сваёй спрадвечнай радзімы — у склад Вялікабрытаніі! Божа, барані Каралеву!» — заклікаюць аўтары ініцыятывы. Пад гэтым тэкстам змешчана форма для галасавання пад назвай «Рэферэндум аб вяртанні Юзаўкі (Данецка) у склад Вялікабрытаніі». Нягледзячы на, здавалася б, сатырычны характар акцыі, яна вельмі спадабалася тубыльцам. Прагаласавала ўжо больш за 7 тысяч чалавек, 61% з іх выказаліся за далучэнне да Вялікабрытаніі, 16% — за шырокую аўтаномію з рэгіянальнай англійскай мовай. Цікава, што мясцовыя ўкраінскія актывісты вельмі асцярожна ставяцца да, здавалася, жартоўнай ініцыятывы. На іх думку, сепаратысты проста прыдумалі сабе нейкае алібі, каб свабодна агітаваць за сэцэсію рэгіёна.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

# Вечнае кола Майданаў

**18 сакавіка на Грушэўскага зноў гарэлі аўтамабільныя пакрышкі. Такім чынам група апазіцыянераў, па іх словах, нагадала ўраду Яцанюка пра магчымасць новага Майдану. Наколькі Украіне пагражае падобны сцэнар, журналіст НЧ Алег Новікаў спрабуе высветліць у кіеўскага палітолага Юрыя Палянава.**



***— Шмат хто піша, што сітуацыя ва Украіне развіваецца па алгарытму 1917 года. Інакш кажучы, адной лютаўскай рэвалюцыяй справа не абмяжуецца. Вы згодныя з такімі прагнозамі?***

— На самай справе, ідэя так званага Трэцяга Майдану агучвалася з першых дзён супрацьстаяння з Януковічам. Частка актывістаў ад пачатку баялася, што пратэст будзе манапалізаваны апазіцыяй, якая прафукала перамогу Майдана–2004. Яны нават заснавалі свой так званы студэнцкі або антыпартыйны Майдан, які з часам аб'яднаўся з апазіцыянерамі. Падчас барыкадных баёў гэтая праблематыка трошкі забылася, аднак цяпер — пасля серыі відавочных некампетэнтных крокаў ураду Яцэнюка — зноў набыла актуальнасць. Увогуле, ужо на другі дзень пасля стварэння новага кабміну група «Аўтамайдан» заявіла аб сыходзе ў апазіцыю з-за прызначэння дырэктарам МУС Авакова. Зараза тэма Майдана–3 ператварылася ў адну з самых папулярных ва ўкраінскай прэсе.

***— Па якіх пунктах аматары Майдана–3 крытыкуюць урад Яцанюка і адміністрацыю Турчынава?***

— Гэта цэлы блок абвінавачанняў. Прычым, я думаю, хутка ён пашырыцца за кошт тэмы сацыялкі. На цяперашні момант урад крытыкуюць за непразрыстае размеркаванне пасад у адміністрацыі ўраду і прэзідэнта. Грамадства практычна штодня страсаюць скандалы на гэты конт. Так, на пасаду кіраўніка міліцыі Кіеўскай вобласці прызначылі Ігара Грынцэвіча, што да нядаўняга часу ўзначальваў сталічны Шаўчэнкаўскі райаддзел міліцыі, з якім звязаны шэраг гучных скандальных выпадкаў, у тым ліку загадкавая смерць аднаго студэнта ў пастарунку.

Разрэкламаванае палітыкамі народнае веча, якое, быццам, будзе прызначаць міністраў, аказалася фікцыяй. Была простая аб'ява са сцэны прозвішчаў людзей, якія цяпер сядзяць у міністэрскіх крэслах. Па-другое, улада забылася, што Майдан стаяў пад антыалігархічнымі лозунгамі. Між тым, адміністрацыя Турчынава актыўна лабіруе фінансава-прамысловыя групоўкі. Іх лідары атрымліваюць пасады губернатараў і розныя сур'ёзныя прэферэнцыі. Ну і апошні фактар — натуральна, страта Крыму. Можна вінаваціць Расію за акупацыю, можна вінаваціць крымчан за непатрыятызм, але частка віны ляжыць на кіеўскіх уладах. Па сутнасці, акрамя рэзалюцый нічога для выратавання паўвострава зроблена не было. Ходзяць чуткі, што ваенныя прапанавалі в. а. прэзідэнта Украіны Аляксандру Турчынаву план па абароне Крыму, аднак Турчынаў адмовіўся яго прыняць.

**Майданаўцы займаюць значную частку адміністрацыйных і гандлёвых плошчаў у цэнтры сталіцы, па сутнасці выконваючы функцыі ахоўнікаў. Штурмаваць барыкады ніхто не будзе**

***— Наколькі рэальна тэхнічна рэалізаваць новы Майдан?***

— Цалкам рэальна, паколькі галоўным ферментам магчымага новага бунту ёсць Майдан–2. Майдан не збіраецца разззбройвацца, а яго рэзідэнты — ісці ў так званую Нацгвардыю. Цяпер майданаўцы займаюць значную частку адміністрацыйных і гандлёвых плошчаў у цэнтры сталіцы, па сутнасці выконваючы функцыі ахоўнікаў. Штурмаваць барыкады ніхто не будзе, паколькі ўлада абвясціла майданацаў нацыянальнымі героямі. Няздольнасць раззброіць гэтыя вайсковыя фармаванні сведчыць, наколькі хісткі цяперашні рэжым. Ніводная з асоб уладнага кола не мае вялікага аўтарытэту ў майданаўцаў. Нават Алег Цягнібок страціў свой уплыў на радыкальную частку майданаўскай публікі. Адзінае, што можа прытармазіць путч, — ён не будзе мець падтрымкі з боку Захаду і мецэнатаў. Украінская алігархія на цяперашнім этапе дасягнула сваіх мэтаў.

***— Калі можа адбыцца новы Майдан?***

— Пакуль што найбольш частка фігуруе дата 25 мая, калі маюць адбыцца выбары прэзідэнта, а іх вынікі не задаволяць людзей на Майдане. Іншыя чакаюць выбуху пратэстаў увосень, калі народ на сваёй скуры адчуе наступствы рэалізацыі праграмы крэдыту МВФ — скарачэння ільгот, росту тарыфаў. Таму зараз вельмі папулярная тэорыя, што наступны Майдан будзе цалкам бунтам галодных.

***— З якой праграмай людзі могуць выйсці на новы Майдан?***

— На днях сотнікі Майдану выставілі ўраду Яцанюка ўльтыматум. Думаю, што ў выпадку Майдану–3 большасць гэтых патрабаванняў, хутчэй за ўсё, стануць праграмай рэвалюцыі. Патрабаванні наступныя. Узгадненне з народам у асобе прадстаўнікоў Майдана ўсіх далейшых дзеянняў і кадравых прызначэнняў. Правядзенне неадкладнай люстрацыі службовых асоб, народных дэпутатаў і чыноўнікаў, якія апошнія дзесяць гадоў знаходзіліся на кіруючых пасадах і ў органах улады. Правядзенне датэрміновых парламенцкіх выбараў разам з прэзідэнцкімі. Фармаванне складу ЦВК і выбарчых камісій на пазапартыйнай аснове і выключна з членаў тэрытарыяльных грамад і прадстаўнікоў Майдана. Стварэнне аргкамітэта па скліканні Устаноўчага сходу.

***— Новы Майдан на руку Маскве ці не?***

— На першы погляд, так. Пра гэта можна казаць, зыходзячы з таго, наколькі шмат месца надае гэтай тэме ўкраінская прэса, якая кантралюецца расійскім бізнесам. Таксама цікава, што за пераварот выступаюць правыя радыкалы, якіх падазраюць у тым, што яны з'яўляюцца марыянеткамі ў руках расійскіх спецслужбаў. Насамрэч, вельмі шмат іх акцый маюць характар прамаскоўскіх правакацый — накшталт заяў аб намерах забраць некаторыя землі ў Польшчы, збіццё дырэктара Першага нацыянальнага тэлеканала. Новы Майдан выгадны Маскве, паколькі гэта справакуе абвал каркасу дзяржаўных інстытутаў. Гэта новы віток унутранага грамадзянскага супрацьстаяння, паколькі Захад не прызнае путчыстаў. З іншага боку, калі новы Майдан будзе мець не нацыяналістычны, а выразны сацыяльны складнік, то яго падтрымаюць рускамоўны ўсход і поўдзень. У такім выпадку Майдан перастане быць жупелам для простых расійцаў і зблытае карты Пуціну.

# Майдан думае пра Беларусь

Алег НОВІКАЎ

**Ці можа беларуская апазіцыя чакаць дапамогі ад Украіны? Прапануем пашукаць адказ на гэта пытанне на старонках украінскіх СМІ. Аналіз матэрыялаў за апошнія 3–4 месяцы сведчыць, што кансалідаванай пазіцыі адносна Беларусі ў новых уладаў Кіева няма, аднак усё можа ў любы момант змяніцца.**




На працягу цяперашняга ўкраінскага крызісу тэма Беларусі трапляла ў топ тэмаў украінскай апазіцыйнай дыскусіі прыкладна 3–4 разы. Першы раз беларускае пытанне зацікавіла ўкраінцаў (і апазіцыю ў тым ліку) увосень у рамках дэбатаў наконт мэтазгоднасці далучэння Украіны да Мытнага саюза. Як праціўнікі, так і крытыкі МС аргументавалі свае пазіцыі спасылкамі на вопыт Беларусі ў рамках гэтага аб'яднання.

Украінская апазіцыя падчас тых дэбатаў сцвярджала, што Беларусь заплаціла занадта вялікі кошт за альянс з пуцінскай Расіяй. «Беларусь падкантрольная Расіі. У краін існуе ваенны дагавор, згодна з якім Расія мае права ўмяшацца ў ваенны канфлікт на тэрыторыі Беларусі. Таму ўсялякая там дэмагогія аб суверэнітэце Беларусі — убогая хлусня. Любы ваенны эксцэс у Беларусі — і расійскія снайперы ўжо на месцах, расстрэльваюць «пятую калону», — пісалі на форуме выдання «Корреспондент».

Аднак пра марыянетачную сутнасць беларускага рэжыму ўкраінскія нацыянал-дэмакраты хутка забыліся, пасля таго, як «падкантрольны Мінск» у лістападзе даў жорсткую ацэнку карупцыйнай прыродзе рэжыму Януковіча. Практычна ўсе апазіцыйныя СМІ праслаўлялі геній Лукашэнкі, які так ахарактарызаваў прычыны пратэстаў на Майдане: «Як толькі дзеці прэзідэнта пачынаюць займацца бізнэсам — чакай бяды. Як толькі ў жонак і палюбоўніц з'яўляюцца кароны на галаве — чакай бяды».

Наступны раз Беларусь узгадалі ў сярэдзіне снежня, калі «рэгіянальная» большасць Вярхоўнай Рады задумала правесці «секвестр грамадзянскіх правоў» — прагаласавала за пакет паліцэйскіх законаў. Шмат хто з апазіцыянераў даводзіў, што аўтары законапраектаў папросту перапісалі іх з лукашэнкаўскіх кодэксаў. Шматлікія каментатары апазіцыйных Януковічу СМІ пужалі суайчыннікаў тым, што «з Украіны хочуць зрабіць другую Беларусь».

Перамога Майдана напрыканцы лютага нарадзіла сярод рэвалюцыянераў незвычайную ўстаноўку аб тым, што ўкраінская рэвалюцыя мае як мінімум рэгіянальны характар. Некаторыя гарачыя галовы на Майдане выкінулі лозунг экспарту дэмакратыі. Натуральна, у маршруце рэвалюцыянераў ледзь не першым прыпынкам значылася Беларусь.

Аднак заклікі пра тое, каб прынесці дэмакратыю на поўнач, гучалі нядоўга. На фоне канфрантацыі вакол Крыму асцярожныя ацэнкі беларускім МЗС учынкаў Крамля расцанілі як прыкметы жадання Лукашэнка заняць дыстанцыю ад Масквы. Яго пачалі разглядаць як сітуацыйнага саюзніка.

«Яму (Лукашэнку) не пазайздросціш. Паглядзеўшы на апетыт крамлёўскага фюрэра, ён напэўна зразумеў, што фюрэр яго зжарэ яшчэ хутчэй, чым Крым. А што? Паабяцаць беларусам павышэнне пенсій і вядро бульбы, затым рэферэндум намалююць і… вось капец незалежнай Беларусі, дэ-факта і дэ-юрэ», — можна было прачытаць на форуме газеты «Сегодня».

Вельмі пазітыўна была сустрэтая інфармацыя са штабу партыі «УДАР» аб тым, што Віктар Клічко, быццам, меў тэлефонную размову з Лукашэнкам. Калі верыць «ударажцам», беларускае кіраўніцтва паабяцала не ўдзельнічаць у магчымай расійскай вайсковай аперацыі супраць Украіны.

Заява Лукашэнкі ад 23 сакавіка пра тое, што Крым — дэ-факта частка Расіі, а ўкраінская ўлада прайграла паўвостраў таму, што «сама падставілася», змяніла полюсы. Украінскія СМІ зноў зрабілі з Лукашэнкі антаганіста Майдану і агента Пуціна. На форумах дэмакратычных СМІ на кожным кроку ўзніклі пасты, накшталт такіх: «Што разумнага можна пачуць ад узурпатара?», «Перапалохаўся хакеіст. Яму прыкра ўсё! Але ісціна даражэй. Памятае ўсё, але рука не завагалася — і падпісаў дамову з Масквой. Усе камунякі жывуць мінулым. А спалохаўся хакеіст не прэцэдэнту, а думкі пра тое, што і яго можа спасцігнуць лёс Януковіча».

Хутка ўзгадалі, што падчас пратэстаў у Данецку, Харкаве і Луганску сепаратысты таксама трымалі чырвона-зялёныя сцягі. У адной з інструкцый для прарасійскіх маніфестантаў, апублікаваных на антымайданаўскіх рэсурсах, заклікалі ў выпадку захопу афіцыйных будынкаў абавязкова звяртацца ў Мінск па дапамогу. Зноў пачалі шмат казаць пра тое, Беларусь можа стаць плацдармам для інтэрвенцыі Расіі з паўночнага накірунку. Так, 25 сакавіка групоўка «Правы сектар» паведаміла пра план наступу рускіх на Роўна менавіта з тэрыторыі РБ.

Праўда, цяперашні ўсплёск антыпатый на адрас Мінску не значыць, што Майдан будзе стабільна трымацца гэтага, бо тое сыходзіць з самой схемы стаўлення ўкраінцаў да Беларусі.

Можна сцвярджаць, што Беларусь у светапоглядах новай украінскай улады займае сціплае месца. Беларускую рэальнасць мала хто ведае. Тэма ўзнікае спарадычна і падыходы сыходзяць з палітычных кан'юнктуры ў самой Украіне. Майданаўцы прызнаюць, што ў нас пануе дыктатура, аднак у выпадку абвастрэння адносін Масквы і Мінска без асаблівых комплексаў займаюць бок Лукашэнкі. Такой пазіцыі спрыяюць і прагматычныя інтарэсы ўкраінскага бізнэсу, які зацікаўлены ў беларускім рынку. Яшчэ адзін рэзон не сапсаваць адносіны з Мінскам звязваюць з тым, што патэнцыйна ён можа быць перамоўнай пляцоўкай з Масквой.

Па сутнасці, на першы погляд , паўтараецца тое, што было пасля восені 2004 года, калі аранжавыя таксама абяцалі «крыжовы паход» супраць аўтакратый СНД, а пасля забыліся пра такія намеры. Аднак казаць пра тое, што паўторыцца сцэнар 2004-га, усё ж нельга. Напружаная сітуацыя ўнутры Украіны і на яе на межах можа ў любы момант узняць на Майдане значэнне беларускага пытання.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Стаўрас Тэадаракіс



Заснаваная вядомым грэчаскім журналістам партыя «To Potami» (струмень, рака) стала трэцяй па папулярнасці партыяй краіны. Гэта пры тым, што партыя ўзнікла толькі 11 сакавіка. У чымсьці «To Potami», на думку палітолагаў, можна параўнаць з італьянскім рухам «5 зорак», якім кіруе сатырык Бепе Грыла. «To Potami» таксама трымаецца на харызме лідара і іранічным поглядзе на лозунгі традыцыйных партый. Нядзіўна, што праект атакуюць як правыя, так і левыя. Напрыклад, левыя сцвярджаюць, што Тэадаракіс збіраецца перамагчы беспрацоўе і бюджэтны дэфіцыт выключна сваёй усмешкай і шармам, а ў партыі нават няма праграмы. Правыя лічаць, што Стаўрас — сацыяліст па сутнасці, паколькі большасць яго сімпатызантаў — былыя выбаршчыкі сацыялістычнай партыі «Pasok», да якой у грамадстве цалкам знікла цікавасць, а галасаваць усё ж трэба. Больш-менш нейтральныя каментатары прызнаюць, што партыя «To Potami» — дастаткова ідэйна неакрэсленая, аднак пагаджаюцца з тым, што яе з'яўленне можа запусціць працэс перазагрузкі грэчаскай палітыкі.

### Альфрэда Суарэс



Смерць лідара іспанскага ўраду (1976–1981), пры якім краіна выйшла з дыктатуры часоў Франка і пачала развівацца як нармальная дэмакратычная краіна, выклікала вялікія дэбаты наконт месца і ролі гэтага чалавека ў іспанскай гісторыі. Шмат хто дасюль не можа прабачыць нябожчыку тое, што ён зрабіў кар'еру ў шэрагах франкістаў, падтрымліваючы сярод іншага пераслед апазіцыі. Лічыцца, што менавіта Суарэс праштурхнуў у атмасферы радасці ад калапсу дыктатуры вельмі супярэчлівую канстытуцыю. Такая канстытуцыя не дала права малым народам на самавызначэнне, што фактычна падклала пад Іспанію часавую міну. Нарэшце, ён дабіўся таго, каб Касцёл застаўся адыгрываць вельмі значную ролю ў іспанскім соцыуме. Больш за усіх захапляецца Суарэсам кансерватыўны ўрад прэм'ера Рахоя, хаця Суарэс у свой час пасварыўся з кансерватарамі. Пасля адстаўкі ён нават заснаваў сваю ліберальную партыю і крытыкаваў папярэднікаў Рахоя за тое, што яны жадаюць прывесці Іспанію ў NATO. Такі парадокс тлумачыцца тым, што фігура Суарэса дастаткова пазітыўна ўспрымаецца іспанцамі, і кансерватары хочуць проста за кошт нябожчыка ўзняць свой рэйтынг. Менавіта ўрад Рахоя, дарэчы, прыняў рашэнне — перайменаваць у гонар Суарэса галоўны мадрыдскі аэрапорт.

### Святаслаў Вакарчук

Саліст гурта «Акіян Эльзы» нечакана для ўсіх стаў адным з магчымых фаварытаў прэзідэнцкіх выбараў. Усё пачалося 13 сакавіка, калі ў Кіеве праходзіла сустрэча музыкі са студэнтамі. З залы прагучала пытанне: «Вы сказалі, што гатовыя ісці на ўсё дзеля росквіту Украіны. Ці гатовыя вы ісці ў прэзідэнты?» Святаслаў адказаў на пытанне неадназначна, аднак большасць публікі вырашыла, што ён у прынцыпе не супраць. З таго часу кожны выхад Вакарчука на публіку суправаджаецца пытаннем наконт яго магчымай кампаніі. Калі меркаваць па першых ацэнках палітолагаў, Вакарчук здольны някепска заявіць пра сябе ў якасці кандыдата. Ён быў заўважнай асобай на Майдане, аднак пры гэтым захаваў імідж чалавека, гатовага шукаць кампрамісы. Напрыклад, ён асабіста выратаваў шэраг дэпутатаў Партыі рэгіёнаў ад расправы з боку радыкалаў. Акрамя таго, яго імідж цудоўна кладзецца ў філасофію Майдана, які патрабуе новых твараў у палітыцы.



# Карціна за рубель

Сяргей ГВАЗДЗЁЎ

**Рубель — гэта стартавы кошт на аўкцыёнах, што працуюць на павышэнне. Корпаючыся аднойчы ў сметніцы інтэрнэт-аўкцыёна напаткаў прозвішча мастака, якое чуў раней, але ведаў мала. Выстаўленыя на продаж рэалістычныя палотны яго сведчылі пра руку моцную, тонкае каларыстычнае адчуванне, учэпістае вока, арганічнае ўспрыманне кампазіцыі.**



Іван Рудчык

У сярэдзіне крызісных 1990-х гадоў, калі заходнія спажыўцы альбо айчынныя «дылеры» скуплялі за медзякі з майстэрняў беларускіх славутасцяў «усё, што ёсць» хоць трохі вартага з сацрэалістычнай спадчыны. Мастакі тыя, звычайна, не надта заможныя, а іншым часам гаротныя і ўвогуле вартыя жалю, з пакупнікамі паводзілі сябе па-рознаму. Адны прыніжаліся, іншыя трымалі сябе годна. Баючыся прадаць танна, тым не менш глядзелі пераможна, нават з выклікам.

У 1960–1970 гадах на «шапэнаўскіх вечарынах» у сяброўскім коле мастачкі Ядвігі Раздзялоўскай, апрача калег-маладзечанцаў ды заезджых сяброў — Генадзя Цітовіча, Пятра Дурчына, Міхася Сеўрука, — можна было сустрэць ходарлявага, ахайна апранутага, ціхага старога з пранізлівымі шэра-блакітнымі вачыма. Да яго гаспадыня звярталася паважна — пане Яне.

## Герой

Са старэйшым (славутым у свой час) брэсцкім мастаком Іванам Дзям'янавічам Рудчыкам гаспадыню лучыла шматгадовае сяброўства і падобныя гісторыі жыцця.

Нарадзіўся ён у 1908 годзе ў вёсцы Дабрацічы (цяпер Польша) і апрача традыцыйных клопатаў па гаспадарцы з дзяцінства меў абавязак — дапамагаць дзядзьку, які быў мясцовым багамазам. «Ужо ў дзяцінстве сваім, — узгадваў ён, — адчуў зачараванне светам народнага мастацтва». Таксама настаўнікам падлетка была акаляючая яго прырода: палі, азёры, бяздонны блакіт неба.

Як і шмат каму з аднагодак, малому Яну давялося выпрабаваць бежанскія дарогі Першай сусветнай вайны — апынуўся аж пад Уфой. Вярнуўшыся да Краю ў 1919 годзе і закончыўшы мясцовую пачатковую школу, ён неўзабаве быў прызваны на тэрміновую службу, пасля якой, ужо капралам запасу, паступіў у 1931 годзе ў школу прыгожых мастацтваў, што ў Кракаве, па класу прафесара А. Цярлецкага. Кажуць, што беднасць не дазволіла яму завяршыць адукацыю (Пётр Зарэцкі), але дакументальных сведчанняў мы не маем.

У 1935 годзе за антыдзяржаўную дзейнасць і прыналежнасць да КПЗБ Іван Рудчык быў прыгавораны да двух гадоў турэмнага зняволення. Паводле ўласных успамінаў, з турмы ён вынес два алоўкавых накіды. Адзін з іх ён увасобіў у карціне «Пратэст вязняў КПЗБ». Твор захоўваецца зараз у Брэсцкім краязнаўчым музеі.

## Выпрабаванні — жыццём і мастацтвам

22 чэрвеня 1941 года сустрэў разам з сям'ёй у Брэсце. Далей — падполле, партызанскі атрад. У 1943 годзе ў складзе дыверсійнай групы яго накіроўваюць на Чарнігаўшчыну, у толькі што сфармаваны атрад імя Мікіты Хрушчова.

Напачатку траўня 1944 года атрад перайшоў праз Буг на тэрыторыю Польшчы, а 14 траўня адбыўся цяжкі бой, які перакуліў свядомасць будучага мастака. Пазней Рудчык згадваў, як ідылія травеньскай раніцы, што поўнілася салаўінымі трэлямі ды перагукваннем зязюль, у момант была парушана злавесным гулам нямецкіх бамбардзіроўшчыкаў. Здавалася, Зямля ўзарвалася... Гарэла ўсё: «і дрэвы, і каменні, травінкі не

> Спакутаваныя чалавечыя душы прагнулі рэалістычнай казкі

было жывой». Самалёты прыкрывалі штурмуючую танкавую дывізію «Вікінг». Перажытае пазней увасобіцца ў палатне «Бой пад Рамбловам 14 мая 1944 года» (твор захоўваецца ў ваенна-гістарычным музеі Кобрына).

Мастацкімі дакументамі, якія захоўваюць не толькі яго ўласныя пачуцці, але і людскую супольную памяць, увогуле з'яўляюцца такія яго творы, як «Лясная крэпасць», «На зямлі Люблінскай», «Партызанскія кастры»

Пасля вайны ў Брэсце, які энергічна саветызаваўся, былі створаны Дом народнай творчасці, пад дахам якога аб'ядналіся ўжо спелыя мастакі: мінчанін Мікалай Чураба, які закончыў Віцебскі мастацкі тэхнікум, а потым вучыўся ў Фаворскага ў Маскоўскім мастацкім інстытуце імя Сурыкава, Пётр Данелія, які да вайны навучаўся ў Маскоўскай мастацкай вучэльні памяці 1905 года, Мікалай Аўчыннікаў з Бранскай вобласці, Іван Феціасаў з Падмаскоўя і ён — Іван Рудчык, з праваслаўных сялян Падляшша.

Фактычна, маладой энергіяй гэтага «інтэрнацыянала» адбываецца ўзнаўленне культурна-мастацкага жыцця Брэст-Літоўскага. Ад 1946 года тут пастаянна праводзяцца мастацкія выставы, друкуюцца каталогі з аналітычным аглядам творчасці прадстаўленых мастакоў, размяшчаюцца рэпрадукцыі іх твораў. Выставы, паводле ўспамінаў сучаснікаў, заваёўвалі ў перажыўшых вайну гараджан папулярнасць, якую можна хіба параўнаць з наведваннем тэатраў у лепшыя часы.

На Першай абласной выставе 1947 года Іван Рудчык паказаў работы на партызанскую тэму: «Допыт палоннага», «Гаворыць Масква», «У чаканні грузу». У беларускім мастацтве пасляваенных часоў (у жывапісе, графіцы ды скульптуры, літаратуры, тэатры, не гаворачы ўжо пра кіно) галоўнай тэмай творчасці быў «подзвіг савецкага народа».

Не дзіва, што карціны Рудчыка мелі значны грамадскі рэзананс, бо майстэрства жывых, асабіста перажытых пачуццяў, яму было не займаць. Апрача таго, ягоныя творы задавалі канкрэтныя арыенціры будучаму беларускаму мастацтву. Спакутаваныя чалавечыя душы прагнулі рэалістычнай казкі, «бесканфліктнасці». Горад, што ляжаў у тле, патрабаваў стварэння ўстановы, якая б прадукавала новую міфалогію, прышчапляючы сугрэмадзянам адпаведныя густы.

## Самаздзяйсненне

У 1949 годзе вышэйзгаданы мастацкі «інтэрнацыянал», не апошнім шрубком якога быў Іван Дзям'янавіч, заснаваў першы ў рэспубліцы абласны філіял Саюза мастакоў БССР.

Ішоў час, усталёўвалася жыццё, большала твораў у майстэрні, але гэта не бянтэжыла: то людзі добраахвотна падманваліся, то выручала сацыяльная замова, дзякуючы якой яго творы і зараз знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі, у музеях і карцінных галерэях Брэста, Кобрына, Пінска, Баранавічаў і шмат якіх прыватных калекцыях Беларусі і Польшчы.

1950-я гады — пік самарэалізацыі мастака, гады плённай працы і росквіту ягоных фізічных сіл. Чалавек, які прайшоў вайну і застаўся жывы, як ніхто ўсведамляе кошт усяго існага — зямлі, паветра, неба. Кошт жыцця.

Іван Дзям'янавіч быў настолькі тыповай ідэальна савецкай асобай — і з пункту гледжання паходжання, і па характары, і па біяграфіі, тэматыцы сваіх палотнаў — пра яго ў свой час быў зняты тэлефільм «Гэта было з намі». Нават быў уключаны ў навучальныя праграмы сярэдняй школы, у якой ён лічыўся «жывым класікам». Галоўным на ўроках, на якіх «праходзілі» ягоныя творы, было не тлумачэнне розніцы між «батальным» жанрам, «партрэтам» і «краявідам», асэнсаванне мастацкіх вартасцей яго карцін, а выхаванне ў школьнікаў пачуцця патрыятызму, любові да Савецкай Радзімы.







## У коле сяброў

З Ядвігай Раздзялоўскай (Лясьеўскай) ён пазнаёміўся ў тыя ж 1950-я гады ў Маскве, на дэкадзе мастацтва, дзе яны разам прадстаўлялі БССР. Але тады і дзеці былі малыя, і праца, што спакваля ператваралася ў наглядную агітацыю, калі не сказаць у банальную афармілаўку, накрывала лавінай, дастасоўвалася да гэтага і грамадская чыннасць у аддзяленні Саюза мастакоў, дзе з 1949 шмат гадоў быў адказным сакратаром.

Ці да сяброўскіх паездак у госці было тады?

У другой палове, дакладней, напрыканцы 1950-х гадоў, штосьць змянілася.

Здаецца, і паветра стала якімсьці чысцейшым і мякчэйшым. Стаў вальнейшы. Паменела неяк працы... Пасталелі (незаўважна) і раз'ехаліся дзеці. Блізу застаўся хіба малодшы, які на праўду ўжо і сам стаў бацькам. А з адыходам у лепшы свет жонкі — любай спадарожніцы ўсяго жыцця — да яго пачала нахабна наведвацца пані Адзінота. Пазбягаючы гэтай сумнеўнай кампаніі, пачаў раз-пораз выпраўляцца да калегі «на гарбату» ажно ў Маладзечна. Жыццёвы стан пані Ядзі быў цалкам суладны ягонаму, хіба толькі трымалася яна больш заспакоена, упэўнена і грацыёзна.

Адрозна ад яго, гаспадыня не мучыла сябе пытаннямі, якія ў гэтым жыцці не маюць адказу. Невядомыя былі ёй і згрызоты яго сумлення: ці з тымі на імжыста-рамантычным досвітку жыцця выправіўся ён на пошукі лепшай долі.

Але... заўжды вясновыя акорды Шапэна агортвалі старога мастака, поўнілі ўпэўненасцю ўласна пражытага жыцця.

Мастак адышоў у вечнасць 22 сакавіка 2000 года.

# Спецслужбы Берута супраць «буржуазных» памежнікаў

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У канцы 1940-х — пачатку 1950-х гадоў спецыяльныя органы камуністычнай Польшчы падверглі рэпрэсіям былых супрацоўнікаў выведкі II Рэчы Паспалітай. Асаблівую ўвагу выклікалі афіцэры і жаўнеры Корпусу аховы памежжа (КАП).**



**Жаўнеры КАП. Заходняя Беларусь, Івянец, 1930-я гады.** Фота з архіва аўтара



**Супрацоўнікі берутаўскага Міністэрства грамадскай бяспекі — польскага аналага КДБ**

## На маскоўскі ўзор

Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны Польшча апынулася ў сферы геапалітычных інтарэсаў СССР. Новая вертыкаль польскай улады, на чале якой Сталін паставіў Баляслава Берута, а з ёй — і апарат бяспекі (Міністэрства грамадскай бяспекі і Галоўнае ўпраўленне інфармацыі Войска Польскага) былі сфарміраваныя на вобраз і падабенства савецкіх. Больш таго, супрацоўнікі НКУС, а пазней МДБ курыравалі дзейнасць сваіх польскіх калег. У сваю чаргу, галоўнымі ворагамі «народнай улады» станавіліся не толькі байцы польскай падпольнай Арміі Краёвай, але і тыя, хто так ці інакш быў звязаны з даваеннымі структурамі польскай улады, і, безумоўна, супрацоўнікі розных вайсковых службаў.

Асаблівая ўвага надавалася былым польскім памежнікам са Стражы памежнай (ажыццяўлялі ахову мяжы II Рэчы Паспалітай на Захадзе краіны) і «капістаў» (пільнавалі польскія рубяжы на Усходзе). «Інтарэс» да гэтых структур тлумачыўся яшчэ і тым, што гэтыя службы былі цесна звязаны з даваенным II аддзелам Галоўнага штабу Войска Польскага, ці, прасцей кажучы, з выведкай. Да таго ж улічвалася, што КАП у міжваеннае дваццацігоддзе праводзіў актыўныя выведвальныя дзеянні супраць СССР і змагаўся супраць савецкіх дыверсантаў на сваёй тэрыторыі. Нарэшце, пад увагу бралася магчымая сувязь «буржуазных» вайскоўцаў з выведкамі заходніх краін, што ва ўмовах «халоднай вайны» адыгрывала важную ролю.

## Пятля для «Двуйкі»

Ужо пасля заканчэння Другой сусветнай вайны спецыяльныя органы камуністычнай Польшчы пачалі збіраць інфармацыю аб кожным былым памежніку, што знаходзіўся на тэрыторыі Польшчы. Асабліва скрупулёзна даследаваліся мінулае дзеючых вайскоўцах памежных войскаў, а таксама салдат і афіцэраў польскай арміі.

У студзені 1948 года справы ўсіх, хто служыў у «буржуазных» памежных структурах, былі згрупаваныя ў Аддзеле па распрацоўцы былых службоўцаў «Двуйкі» і асоб, якія вярталіся з-за мяжы і так ці інакш былі ў кантакце з органамі даваеннай польскай выведкі.

У сакавіку 1952 года кіраўнік органу польскай вайсковай контрвыведкі Галоўнага ўпраўлення інфармацыі Войска Польскага Дзмітры Вазнясенскі выдаў загад аб размеркаванні ўсяго кантынгенту выяўленых асоб, якія супрацоўнічалі з даваеннымі спецыяльнымі службамі, па трох катэгорыях. Першая — тыя, хто прызнаўся ў супрацоўніцтве з «буржуазнымі» органамі бяспекі. Другая — тыя, хто не прызнаўся, але супраць каго былі абвінавачўчыя матэрыялы. Трэцяя — былыя супрацоўнікі «двуйкі», якія не прызналіся ў супрацоўніцтве, і адносна якіх не было сведчанняў супрацы.

Афіцэраў дзеючага войска, што раней служылі ў КАП, звальнялі, альбо пераводзілі на менш значныя пасады. Асабліва гэта тычылася Войскаў аховы памежжа — новай структуры, створанай восенню 1945 года. «Былых» шукалі і ў іншых вайсковых структурах. Так, у маі 1952 года да кіраўніка Акружнога аддзелу інфармацыі № IV палкоўніка Мікалая Дыянава прыйшла заява з прапановай аб звальненні з 40-га пяхотнага палка маёра Хенрыка Вавжыновіча. З дакументу вынікала, што афіцэр у 1930-х гадах служыў у батальёне КАП «Няменчын», а пазней нёс службу ў кулямётным узводзе палку КАП «Вільня» і нават карыстаўся з сакрэтнага фонду польскай «Двуйкі» ў горадзе на Віліі. Былога памежніка таксама абвінавачвалі ў тым, што пасля вярбоўкі камуністычнымі спецслужбамі ён «кепска выконваў свае абавязкі».

## Выведнікі з аддзелу кадраў

«Даследаваннем» мінулага памежнікаў займалася спецыяльная персанальная камісія. З 1949 года яе працай кіраваў падпалкоўнік Ігнацы Кракус з Галоўнага інспектарату аховы памежжа. У адным з дакументаў, падрыхтаваных гэтай структурай у верасні 1950 года, сярод іншых згадваўся капітан Раман Бабінскі, які ў 1930-х гадах быў камандзірам памежнай роты «Колкі» 17-га батальёну КАП «Давідгарадок», а затым служыў у брыгадзе КАП «Палессе». Пасля вайны ён перайшоў у памежную службу ўжо ў Народным Войску Польскім і, зразумела, не мог не прыцягнуць увагу польскіх «чэкістаў».




**Агітацыйны плакат: Сталін і Берут. Надпіс на плакаце: польска-савецкае сяброўства — гэта мір для нашай краіны**

У выніку дзейнасці спецыяльнай камісіі ў перыяд з чэрвеня 1949 па красавік 1950 года з шэрагаў Войска аховы памежжа было выдалена 326 афіцэраў, 68 падафіцэраў (з якіх 25 з'яўляліся былымі супрацоўнікамі КАП і Дзяржаўнай паліцыі). Частка з гэтых людзей павінна была быць арыштавана Галоўным упраўленнем інфармацыі Войска Польскага.

У жніўні 1949 года на стол віцэ-міністра грамадскай бяспекі генерала Рамана Рамкоўскага лягла сакрэтная даведка намесніка кіраўніка Галоўнага ўпраўлення інфармацыі Войска Польскага палкоўніка Анатоля Фейгіна з пералікам былых супрацоўнікаў «буржуазных» спецыяльных органаў. У спісе між іншых фігуравала прозвішча кіраўніка аддзелу прамысловасці і гандлю ПНР Караля Левандоўскага, які ў далёкім 1933 годзе быў камандзірам узводу батальёну КАП «Валожын». Падчас вайны «капіст» з Заходняй Беларусі ваяваў у польскай арміі на Захадзе, а ў 1947 годзе вярнуўся на радзіму і трапіў у поле зроку камуністычных спецслужбаў.

Здараліся таксама выпадкі, калі былых памежнікаў вербавалі і прымушалі да супрацоўніцтва. Тут варта прывесці прыклад былога афіцэра КАП палкоўніка Ваўжынца Шульца. Ад рэпрэсій яго ўратавала тое, што... з 1940 года ён супрацоўнічаў з НКУС. У паваеннай Польшчы былога памежніка выкарыстоўвалі для збору інфармацыі пра саслужыўцаў. Падобны лёс быў і ў ураджэнца Вільні старшага сяржанта Юзафа Рымкевіча, які ў 1930 гадах праходзіў службу ў 77-м пяхотным палку ў Лідзе, служыў у КАП на тэрыторыі Заходняй Беларусі, а ў жніўні 1939 года быў пераведзены ў Асавец. Камуністычныя спецслужбы завербавалі гэтага чалавека ў 1947 годзе і, як вынікала са справаздачы, працай яго былі задаволеныя.

## Камуністычная «Таргавіца»

У перыяд з 1949 па 1955 гады польскае Міністэрства грамадскай бяспекі праводзіла аперацыю пад назвай «Таргавіца», скіраваную на пошук супрацоўнікаў даваеннай выведкі з мэтай выяўлення іх магчымых сувязей з брытанскай «інтэліджэнс сэрвіс». Пры гэтым кожнага былога супрацоўніка II аддзелу Галоўнага штабу Войска Польскага грэбліва называлі «двоечнікам». У адным з дакументаў камуністычных спецслужбаў адзначалася, што «былыя агенты «Двуйкі» з'яўляюцца рэакцыянерамі, якія варожа ставяцца да існуючай у Польшчы ўлады і, заняўшы пасады ў дзяржаўных і вайсковых органах, могуць праводзіць варожую працу».

Як бачым, фармулёўкі, быццам бы ўзятыя з дакументаў савецкага НКУС узору сярэдзіны 1930-х гадоў. Асаблівую ўвагу спецслужбы Берута надавалі «выкрыццю» тых былых супрацоўнікаў «Двуйкі» і КАП, якія дзейнічалі на «ўсходнім напрамку» — займаліся выведкай супраць СССР або служылі ва ўсходніх ваяводствах II Рэчы Паспалітай (у тым ліку Віленскім, Навагрудскім і Палескім).

Падчас правядзення аперацыі «Таргавіца» Міністэрства грамадскай бяспекі ПНР падрыхтавала спецыяльнае выданне «Гісторыя і структура Другога аддзелу», у якім апісваліся ўсе этапы стварэння і дзейнасці польскай даваеннай выведкі, у тым ліку структур КАП у Заходняй Беларусі. Супрацоўнікі МГБ ПНР у Беластоку даволі падрабязна апісалі выведвальную дзейнасць пляцоўкі КАП у Гродна/Сувалках. У 1951 годзе ў распрацоўцы беластоцкіх «чэкістаў» было 74 былых супрацоўнікаў КАП, большасць з якіх да вайны працавала ў выведвальнай Пляцоўцы №1 у горадзе над Нёманам. Да гэтага варта дадаць, што для выяўлення «буржуазных» памежнікаў камуністычныя спецслужбы карысталіся альбомам, створаным гестапа падчас нямецкай акупацыі Польшчы, у якім былі змешчаны 1200 здымкаў агентаў даваеннай польскай выведкі і спецыяльных структур, у тым ліку і КАП.

Пасля смерці Сталіна і развянчання культу асобы аперацыя «Таргавіца» і ўвогуле дзейнасць польскіх камуністычных спецслужбаў у дачыненні да былых супрацоўнікаў даваенных памежных структур II Рэчы Паспалітай паступова згортваецца. Аднак яшчэ да канца 1960-х гадоў у распрацоўцы знаходзілася больш за 200 былых афіцэраў і падафіцэраў Корпусу аховы памежжа. У жніўні 1969 года Трэцім дэпартаментам МУС ПНР была падрыхтавана справаздача, у якой адзначалася, што «былыя супрацоўнікі «Двуйкі» і КАП не ўяўляюць небяспекі для камуністычнай улады». На той момант большасць з былых «буржуазных» памежнікаў былі ўжо састарэлымі пенсіянерамі.

# Беларуская перыёдыка 1918–1939 гадоў



Сяргей ЧЫГРЫН

**У Седльцах выйшла з друку кніга выдатнага беларуска-польскага даследчыка Юрыя Трачука на польскай мове «Перыядычныя беларускія выданні ў ІІ Рэчы Паспалітай (1918–1939)».**

Гэту манаграфію варта было б перакласці на беларускую мову і выдаваць у Беларусі.

Кніга складаецца з некалькі грунтоўных раздзелаў, прысвечаных гісторыі друкавання і прэсы ў Беларусі, перыядычным выданням Заходняй Беларусі (1918–1939), беларускім перыядычным выданням у 1918–1939 гадах, беларускім часопісам 1918–1939 гадоў, якія выдаваліся ў Заходняй Беларусі і на эміграцыі і г.д.

Аўтар перакапаў, сабраў і апрацаваў вялікі архіўны матэрыял. І працаваў ён шмат гадоў. Таму разважаць пра грунтоўную манаграфію як першую спробу даследавання і аналізу беларускіх выданняў 1918–1939 гадоў я вырашыў разам з аўтарам кнігі. Дарэчы, у манаграфіі даследаваны не толькі выданні на беларускай мове, але і на рускай, польскай, літоўскай і яўрэйскай (ідыш).

У Юрыя Трачука было з гэтай манаграфіяй вельмі шмат розных прыгод. Пра гэта я найперш і запытаўся.

— З манаграфіяй маёй, і сапраўды, было вельмі шмат прыгод. А дакладней, з маёй дысертацыяй, на аснове якой яна і ўзнікла. І гэта ўсё адмоўна паўплывала на маю далейшую навуковую кар'еру. Кніжку я пачаў пісаць яшчэ ў 1987 годзе ў Варшаве, а закончыў яе пісаць у 1988 годзе ў Маскве. Якраз пад канец 1985 года ўзнікла канцэпцыя яе напісання. Тэму падказаў ужо нябожчык прафесар Васіль Белаказовіч (1932–2010), у якога я тады працаваў у Сектары ўсходнеславянскіх літаратур Інстытута славяназнаўства (цяпер славістыкі) Польскай Акадэміі Навук у Варшаве. Праца была карпатлівай. Амаль кожны дзень з ранку да позняга вечара я сядзеў у бібліятэках, спачатку ў польскіх: варшаўскіх, познаньскіх, люблінскіх ды іншых, а затым у беларускіх у Мінску, літоўскіх у Вільні і рускіх у Маскве. Добрыя тады, у час ПНР і СССР, былі навуковыя ўмовы працы, якія пасля вельмі пагоршыліся, і так ужо засталося па сённяшні дзень. Працуючы ў той час у Польскай акадэміі навук, у мяне практычна не было ніякіх праблемаў выехаць на стажыроўку ў Мінск, Вільню ці ў Маскву. Вядома, што без гэтых стажыровак мая дысертацыя пра заходнебеларускі друк, а затым кніжка не атрымаліся б. Таму я вельмі ўдзячны ўсім тым асобам і ўстановам, якія мне дапамагалі ў гэтай маёй працы, а асабліва тагачаснаму Інстытуту літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР (цяпер Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі), на чале з ужо нябожчыкам ягоным дырэктарам, акадэмікам Віктарам Каваленкам, які ў той час мне сказаў, што ягоны інстытут заўсёды мяне прыме ды Інстытут мовы і літаратуры Літвы ў Вільні таксама.

***— Многія ў той час камуністычныя выданні, ведаю, ляжалі ў спецфондах, як вы да іх дабіраліся?***

— Хоць некаторыя, сапраўды, камуністычныя заходнебеларускія часопісы ляжалі ў той савецкі час у Літве ў спецфондзе, але доступ да іх я меў, і былі яны для мяне адкрытыя. У маскоўскіх бібліятэках заходнебеларускай перыёдыкі гэтага часу, што мяне здзівіла, я не знайшоў, хоць я і напаткаў там іншыя цікавыя рэчы. Так што ўвесь перыяд маёй працы ў Польскай акадэміі навук быў некалі для мяне вельмі плённым.

Можна толькі шкадаваць, што я гэтай маёй працы не абараніў яшчэ ў Інстытуце сусветнай літаратуры Акадэміі навук СССР (цяпер Расійскай акадэміі навук), у якім у той час (у 1987–1988 гады) адзін год на кантракту працаваў, таму што пазней меў з ёю шмат перыпетый.

***— А калі вы прыступілі да абароны сваёй дысертацыі?***

— Да абароны сваёй доктарскай дысертацыі (у Беларусі адпавядае кандыдацкай) я прыступіў толькі ў 1993 годзе. Быў гэта час перамен. І гэтая мая праца, паводле нябожчыка ўжо і прыхільніка да мяне прафесара Рышарда Лужнага з каталіцкага Люблінскага ўніверсітэта і Ягайлаўскага ўніверсітэта ў Кракаве, не прайшла камісію як «бальшавіцкая, камуністычная і накіраваная супроць польскага дзяржаўнага інтарэсу». Гэтае здарэнне я моцна перажываў, і толькі дзякуючы прафесару Міхайлу Лесеву мне ўдалося яе абараніць у 2001 годзе ва ўніверсітэце Марыі Кюры-Складоўскай у Любліне, які, дарэчы, я некалі закончыў.




Такім чынам атрымліваецца, што кніжку ўдалося мне выдаць толькі праз чвэрць стагоддзя ад яе напісання. Таму лічу гэта вялікай, нягледзячы на ўсе прыгоды, маёй перамогай. Яе выданне ажыццявіў Прыродна-гуманітарны ўніверсітэт у Седльцах, у якіх нарадзіўся сусветнай славы канструктар касмічных караблёў — акадэмік Уладзімір Чаламей (1914–1984).

***— Вам удалося адшукаць тых самых газет-аднадзёнак вельмі шмат, разнастайных і цікавых. Ну, напрыклад, аднадзёнка «Рэха» (Вільня, 8 ліпеня 1925 года), якія пісала пра смерць адваката Тадэвуша Урублеўскага, які сябраваў з беларусамі, аб становішчы праваслаўнай царквы ў Польшчы і г.д. Ці палітычная аднадзёнка «Праўда» (Вільня, 30 мая 1931 года), якую выдаў Фабіян Акінчыц. Ці аднадзёнка «Першы крок» (Варшава, ліпень, 1935 года), якая была выдадзена для беларускіх студэнтаў у Варшаве і г.д.***

— На жаль, не ўсе часопісы ды газеты ўдалося мне тады адшукаць. Спіс тых, якія выходзілі і якіх мне не ўдалося знайсці, знаходзіцца ў канцы кніжкі. Думаю, што надалей трэба яшчэ іх шукаць. Можа, у бібліятэках іншых гарадоў…

Юрый Трачук не толькі сабраў унікальныя беларускія выданні (1918–1939), але і апісаў іх, паведаміў, калі яны выдаваліся, хто рэдагаваў іх, аб чым яны пісалі, хто друкаваўся на іх старонках, дзе яны выдаваліся. Атрымалася не толькі ўнікальная манаграфія, а шыкоўны энцыклапедычны даведнік па беларускай прэсе першай паловы ХХ стагоддзя ў Заходняй Беларусі. Цікавым з'яўляецца і спіс тых выданняў, якіх знайсці не ўдалося, але яны выдаваліся не толькі на тэрыторыі Беларусі, але і ў Літве, Расіі, Украіне, Нямеччыне, Польшчы, Латвіі, Чэхаславакіі, ЗША, Францыі, пра якія аўтар чуў, ведае, але адшукаць іх яму не ўдалося. А гэта ажно 103 выдання. Напрыклад, у Беларусі выходзілі ў 1924 годзе аднадзёнка «Абух», у 1925 годзе — аднадзёнка «Беларуская зорка», у Гародні ў 1924 годзе — аднадзёнка «Гудок», у Беластоку ў 1933 годзе — аднадзёнка «Засеў», у Гародні ў 1929 годзе — аднадзёнка «Пралом», у Вільні ў 1920 годзе — аднадзёнка «Саха» і г.д. Выдаваліся ў 1920–1930-х гадах на Беларусі і такія выданні, як «Зярно» (Беласток), «Краёвая сувязь» (Вільня), «Пякучая маланка» (Вільня), «Наш палетак» (Вільня), «Колас» (Радашковічы), «Васілёк» (Вільня) і іншыя. У замежжы выдаваліся, але адшукаць іх аўтару не ўдалося, таксама разнастайныя выданні на беларускай мове: «Беларускае жыццё», «Праца», «Гаспадар» (Латвія), «Дзянніца», «Змаганне», «Чырвоны сцяг», «Чырвоны шлях» (Расія), «Беларускае слова», «Беларусы ў Адэсе», «Жыццё», «На пераломе» (Украіна), «Барацьба», «З роднага краю» (Нямеччына), «Рух» (Польшча), «Наш покліч», «Светазар» (Літва), «Рэха» (Францыя) і іншыя.

330 выданняў аўтару кнігі ўдалося адшукаць не толькі на Беларусі, а і ў іншых краінах свету. Вядома, праца гэта была доўгай і клапатлівай, але, як сказаў аўтар, дзякуючы ягонай упартасці, пісалася яна з ранку да вечара адносна лёгка.

«Некаторыя прафесары былі здзіўлены, калі вялі гутарку аб маёй цяжкай працы, таму што гук пішучай машынкі ў Доме у якім я тады жыў на вуліцы акадэміка Капіцы, даходзіў да ніжэйшых паверхаў, і яны чулі, як я працаваў. Усё ж я лічыў гэта ў той час нармальным. У нашым Інстытуце ўсе тады цяжка працавалі, але і мелі пасля адпаведныя вынікі. Мяне тады гэта не здзіўляла. Я быў яшчэ малады і поўны энергіі», — сказаў усміхаючыся Юрый Трачук.

Пачатак даследавання ёсць добры, але працу над пошукамі заходнебеларускай перыёдыкі і надалей трэба працягваць. Так лічыць беларускі даследчык і літаратуразнавец з Седльцаў Юрый Трачук. І з ім застаецца толькі пагадзіцца, а таксама падзякаваць за тое добрае і карыснае, што ён ужо зрабіў.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 404

Падпісана да друку 28.03.2014. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.